

Лявон
Вольскі

# МІЛАРУСЬ

**Апавяданні, аповесць**

2-е выданне

Мінск
"Медиал"
2011

УДК 821.161.33-31/-32
ББК 84(4Беи)-44
В71

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменьнікаў
“Кнігарня пісьменьніка”.
Заснаваная ў 2009 годзе.

**Вольскі, Л.А.**
В71 Міларусь: апавяданні, аповесць / Лявон Вольскі. – Мінск: Медиал, 2011. – 180 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка“; вып. 11).

ISBN 978 985 6914 07 5

У кнігу прозы вядомага музыкі і сьпевака, лідэра знакамітых гуртоў “Мроя”, “NRM”, “Крамбамбуля”, Лявона Вольскага ўвайшлі трынаццаць аповедаў і аповесьць “Пакуль сабачка жывы”, якія былі напісаныя больш як за дваццаць гадоў творчай працы.

**УДК 821.161.33–31/–32**
**ББК 84(4Беи)–44**

**ISBN 978 985 6914 07 5**

# Сяргей і Сяржук

Яны сустрэліся на эскалятары, у мэтро. Дакладней, на двух эскалятарах, якія рухаліся паралельна — адзін — угару, другі — уніз (як гэта прынята ў мэтрапалітэне). Першы (Сяржук) ехаў угару, другі (Сяргей) кіраваўся ўніз, да цягнікоў. Сяржук заўважыў Сяргея й пачаў актыўна жэстыкуляваць, крычаць — рабіць усё, каб прыцягнуць да сябе Сяргееву ўвагу. Гэта атрымалася, і цераз колькі хвілінаў Сяргей зь Сержуком стаялі ля выхаду з мэтро ды ўспаміналі мінулыя часы.



Калісьці, у глыбокім дзяцінстве, Сяргей ды Сяржук былі найлепшымі сябрамі. Яны супольна здымалі аматарскія фільмы на 8-мілімэтровую стужку, разам з бацькамі адпачывалі ў Крыме, хадзілі ў грыбы, пісалі дзіцячыя апавяданьні й вершы, выдавалі газэту, наведвалі ізастудыю, зьбіралі маркі, манэты, налепкі ад запалкавых карабкоў, укладкі ў жуйкі. Яшчэ Сяргей ды Сяржук вынайшлі цікавую забаву: яны ішлі ў горад, сядалі на два аўтобусы (ці тралейбусы), пажадана невядомага маршруту, а потым, увечары, сустракаліся й распавядалі адзін аднаму, дзе яны былі, што бачылі і якія прыгоды іх напаткалі.

— А ты памятаеш, Сяржук, як я паехаў на 25-м аўтобусе, апынуўся недзе за горадам, а потым цэлы дзень ня мог выбрацца?

— А памятаеш, Сяргей, як я ўзімку паехаў на 37-м, пацягнуўся паўз поле ды залез у ваду па калені? Потым тыдзень хварэў...

— А як 5-ы аўтобус патрапіў у аварыю?

— А як 10-ы зламаўся на маршруце?

— А як мяне злавіў кантралёр?

— А як мяне пабілі хуліганы?

Так Сяргей ды Сяржук успаміналі свае дзіцячыя прыгоды. І раптам Сяргей сказаў:

— А чаму б нам з табою, Сяржук, зараз не пагуляць у аўтобусна-тралейбусныя падарожжы? Ці ты сёньня заняты?

— У мяне былі нейкія справы, — азваўся Сяржук, — але дзеля такой нагоды іх можна адкласьці.

— То давай абярэм маршруты ды адразу й паедзем.

— А сустрэнемся аб 11-й вечара.

— На пляцы Волі.

— Згодны.

— Я абіраю аўтобус № 113, — сказаў Сяржук.

— Я абіраю тралейбус № 43, — сказаў Сяргей.

І яны разышліся ў розныя бакі.

**Сяржук**

Ён ехаў у 113-м аўтобусе. Падарожжа прыпала на гадзіну пік, і аўтобус быў перапоўнены. Палову кантынгенту складалі рабочыя, якія ехалі са зьмены, другую палову — пэнсіянэры, якія рабілі ў горадзе закупы, а цяпер вярталіся ў свае аддаленыя ад цэнтру раёны. Сяржук стаяў, заціснуты паміж брунатнатварай срэбназубай бабкай ды п'янаватым рабочым. Рабочы дыхаў акурат у твар Сержуку, а бабуля размаўляла з пэнсіянэрамі пра нялёгкую долю старых людзей. Сяржук спрабаваў абстрагавацца ад аўтобусных рэаліяў і прыгадваў свае дзіцячыя транспартныя вандроўкі. Ці то раней напраўду рабочыя меней пілі, а бабкі ня езьдзілі ў транспарце ў гэтакіх колькасьцях, ці Сяржук папросту ідэалізаваў мінулыя часы, але цяпер, чамусьці, ён адчуваў сябе ў транспарце вельмі няўтульна. На чарговым прыпынку дзьверы аўтобуса ледзь расчыніліся, і Сяржук пачуў галасы звонку: “Мушчына, прайдзіце нямножка! Ну, давайце, ішчо на аднаво чалавека!” З боку дзьвярэй падціснулі, і Сяржук утыкнуўся носам у штучнафутравы, прапахлы тытунём ды нясьвежасьцю, каўнер нецьвярозага рабочага.



## Сяргей

Тралейбус быў паўпусты, новы. Ён зьзяў чыстымі вокнамі, сьвежай нітрафарбай, дасканалымі шыльдамі «ўваход», «выхад», рухаўся мякка. Сяргей сядзеў ва ўтульным фатэлі й чытаў газэту, якую ў шырокіх колах называлі «элітарнай». Зрэшты, амаль што ўсе пасажыры чыталі розныя пэрыядычныя выданьні альбо мастацкую літаратуру. За вакном мільгалі вітрыны дарагіх крамаў, рэклямныя шчыты й нэонавыя надпісы. Сяргей адарваўся ад элітарнае газэты, зірнуў у вакно й падумаў: што гэта за раён?

Чаму я тут ніколі ня быў?.. Сяргей вырашыў выйсьці праз пару прыпынкаў і зноўку паглыбіўся ў складанае для ўспрыманьня апавяданьне маладога, але дастаткова ўпэўненага аўтара.

## Сяржук

Нарэшце, ён здолеў выйсьці з аўтобуса. На горад насунуліся цёмна-шэрыя прыцемкі. Сяржук ішоў уздоўж доўгага заводзкага паркану. З таго боку паркану даносіўся ляскат, грукат, неразборлівыя крыкі рабочых. Лішне казаць, што Сяржук упершыню апынуўся ў гэтым раёне. На працягу апошніх пяці гадоў ён вельмі рэдка наведваў гарадзкія ўскраіны альбо так званыя “спальныя раёны“. Сержуку хацелася ўзнавіць тое дзіцячае пачуцьцё чаканьня чагосьці незвычайнага, адчуваньне, што зараз з табою адбудзецца нешта чароўнае, недаступнае астатнім. Але, відаць, тыя ўражаньні й эмоцыі сплылі зь мінулымі гадамі. І цяпер Сяржук папросту бачыў сябе, які самотна йдзе ўздоўж бэтоннага заводзкага паркану, у шэрых прыцемках, пад мокрым сьнегам, які хутка раставаў і ў выглядзе вады сьцякаў зь Сержуковага капелюша пры кожным неасьцярожным руху.

Неяк паціху Сержука апанавала раздражненьне: на фіга ўсё гэта? Што мінула, тое мінула, яго ня вернеш. Тым болей, ня вернеш гэткімі штучнымі мэтадамі:

маўляў, давай зробім, як тады... Але ж цяпер зусім ня так, як тады! І ніколі ўжо ня будзе, як тады.

— Слыш, мужык, закурыць ня будзет? — раптам пачуў Сяржук. І зразумеў: пачынаюцца прыгоды.

**Сяргей**

Ён выйшаў з утульнага 43-га й пакрочыў па вуліцы, асьветленай ліхтарамі ды нэонам. Надвор'е спрыяла шпацыру: невялікі марозік, градусы са два, сьнег бліскае пад ліхтарным сьвятлом. На вуліцы было даволі шмат людзей: ішлі перадкалядныя распродажы, кошты ўпалі да сьмешных лічбаў. З кожнае вітрыны флюарэсцэнтныя літары крычалі: РАСПРОДАЖ!!! РАСПРОДАЖ!!! Сяргей не ўтрымаўся ды купіў новы багемны пінжак ды стыльныя чаравікі. Цяпер гэта каштавала ўдвая таньней, чымся ўлетку. "Усё ж ёсьць пэўная карысьць ад адраджэньня дзіцячых гульняў, — падумаў Сяргей. — Наўрад ці ўдалося б сёньня выбрацца ў горад, каб ня гэтая сустрэча зь Сержуком. Дарэчы, сябручок ня вельмі добра выглядае. А яму ж яшчэ, як і мне, толькі 30. Відаць, жыцьцё ня склалася. Шкада. Быў даволі здольны хлопчык у дзяцінстве".

Сяргей убачыў невялікі, але ўтульны бар. "Кубачак кавы й кілішак каньяку не перашкодзяць", — вырашыў ён ды зайшоў. Мэлядыйна прагучаў званочак над дзьвярыма.

**Сяржук**

— Знойдзецца закурыць, — азваўся ён і выняў з кішэні пачак «L&M».

— Я вазьму две, — канстатаваў невядомы. Палова ліхтароў на гэтай вуліцы не працавалі, і Сяржук ня мог разгледзець твар гэтага чалавека. Адно кідалася ў вочы мокрая шапка з футра невядомага зьвера. Раптам да іх падышлі яшчэ два мужчыны ў гэткіх жа мокрых футравых шапках.

— Ты адкудава? — запытаўся ў Сержука адзін зь іх.

— У якім сэньсе? — пацягнуў час Сяржук.
— З якога раёну? — удакладніў трэці.
— Я тут працую недалёка, — схлусіў Сяржук.
— Інжынер, што лі? — запытаўся першы.
— Ды так... Чарцяжы розныя чарчу.
— А-а, ясна. Так на эція чарцяжы ж не пражывёш цяпер. На што жывёш, шляпа?
— Кручуся, як магу, — працягваў хлусіць Сяржук.
— Ну, я сматру, на сігарэты харошыя табе хватае, — пагрозьліва, як падалося Сержуку, сказаў адзін з шапачнікаў.
— Гэта я проста сёньня халтурку зрабіў, — чарговы раз схлусіў Сяржук. — Звычайна «Астру» палю.



— Піць будзеш, шляпа? — раптам запытаўся першы.
Сяржук зразумеў, што адмаўляцца не выпадае.

**Сяргей**

У бары было паўцёмна й цёпла. Пахла кавай, добрым тытунём ды печывам. Сяргей сеў за столік, і перад ім адразу зьявіўся афіцыянт (відаць, пачуў званочак над дзьвярыма). Сяргей замовіў каву й 50 грамаў каньяку. Усё было вельмі хутка прынесена. Сяргей сеў зручней і павольна пацягваў каву й каньяк і паліў доўгую цыгарэту. Зноў пачуўся гук званочка, і ў бар зайшла вясёлая кампанія — дзьве сімпотныя жанчыны ў суправаджэньні бледнага маладога чалавека. Адна з жанчынаў была плятынавай бляндынкай, другая — кардынальнай брунэткай. Малады чалавек вызначаўся смокінгам, асьляпляльна белай кашуляй, гальштукам-мятлікам ды тонкай шчотачкай вусоў.

— Тут вольна? — запытаўся малады чалавек у Сяргея.
— Так, калі ласка, — азваўся Сяргей ды падумаў: а я апрануты ня горш за яго. Гэтая думка, а таксама кава й каньяк прыемна сагрэлі ягоную душу.

**Сяржук**

Яны выпівалі гарэлку з рыльца на чатырох у нейкім брудным двары ля квадратнае будкі зь белае цэглы. “Раней у гэтых будках захоўвалі рознае прыбіральніцкае начыньне, — раптам згадаў Сяржук. — У нашым двары таксама была такая будка. Там стаялі венік, вядро, валяліся анучы. А яшчэ там быў суседаў бліскучы чорны матацыкл”.

— Твая очарадзь, шляпа, — сказаў адзін з шапачнікаў і працягнуў бутэльку.

Сержуку заўсёды зь цяжкасьцю давалася выпіваньне з рыльца. У звычайных абставінах ён бы папросту адмовіўся. Але ў гэтай сытуацыі адмаўляцца не выпадала. Сяржук заплюшчыў вочы, паднёс рыльца да вуснаў і некалькі разоў каўтнуў пякучую вадкасьць.

Пасьля гэтага ён з хвіліну сядзеў аслупянелы, змагаючыся зь мярзотна-ванітнай хваляй, што падкацiла да горла.

— Што, не прывык з гарла? — засьмяяўся адзін з новых Сержуковых прыяцеляў.

І Сяржук, і ягоныя сабутэльнікі заўважна п'янелі. Пайшлі анэкдоты пра новых рускіх, пра цешчу, пра мянтоў.

— Слыш, шляпа, а што ты ўсё маўчыш? — раптам запытаў у Сержука адзін зь ягоных новых знаёмцаў. — Можа, табе што-нібудзь ня нравіцца?

**Сяргей**

— А чым вы займаецеся? — запыталася брунэтка.

— Я музыкант, — коротка адказаў Сяргей.

— А я вас бачыла па тэлевізары! — закрычала бляндынка. — Вы граеце на гітары й пяеце.

Бледны малады чалавек паморшчыўся.

— Можа быць, яшчэ каньячку? — прапанаваў Сяргей.

— З задавальненьнем, — азвалася брунэтка.

Афіцыянт прынёс каньяк.

— За творчасьць, — асьляпляльна ўсьміхнулася брунэтка.

Сяргей заўважыў, што бледны малады чалавек ня выпіў каньяку, у адрозьненьне ад сваіх сяброўак.

— Распавядзіце нам што-небудзь цікавае, — запатрабавала бляндынка.

Сяргей заўсёды добра пачуваўся ў любых кампаніях. Ён умеў быць цэнтрам увагі, трапна жартаваць, дэманстраваць свой багаты інтэлект. Праз дзесяць хвілінаў бляндынка й брунэтка неадрыўна слухалі ягоную красамоўную плынь, сьмяяліся, калі ён жартаваў; бледны малады чалавек паліў цыгарэту за цыгарэтай.

— Даруйце, але мне трэба йсьці, — нарэшце сказаў ён. — Неадкладныя справы.

Дамы не зьвярнулі на ягонае зьнікненьне ніякае ўвагі.

## Сяржук

— І вабшчэ, што-та ты мне ня нравісься, — працягваў новы знаёмец.

Сяржук зразумеў, што насьпявае канфлікт.

— Ды вы што, мужыкі? Усё ж нармальна. Нармальна выпіваем, што яшчэ трэба?

— Я табе дам "нармальна", — прарычаў той, хто прасіў у Сержука цыгарэту.

У цемры Сяржук ня здолеў ухіліцца ад удару ў твар. Ён зваліўся ў брудную калюгу. П'яныя прыяцелі пачалі біць яго нагамі.

Сяржук намацаў пад рукою пустую бутэльку.

— Ну што, хваціць зь яго? — задыхаючыся, запытаўся ў сяброў адзін з шапачнікаў.

— Дастатачна, — сказаў другі.

Сяржук ускочыў ды ўдарыў пустой бутэлькай па шапцы бліжэйшага прыяцеля.

Бутэлька пабілася, але прыяцель застаўся на нагах.

— Ну, шляпа, ты даёш, — зьдзівіўся ён.

— Не падыходзь, бо папішу! — зароў Сяржук.

— Я табе папішу, — прахрыпеў шапачнік і выняў з кішэні нож з доўгім бліскучым лязом.

“Нічоганькі сабе прыгоды”, — падумаў Сяржук.

**Сяргей**

— Можа быць, варта зьмяніць месца? — прапанаваў ён жанчынам.

— Не сядзець жа ўвесь вечар у гэтым бары.

— Якраз сёньня нашыя знаёмыя ладзяць імпрэзу. Можна пад'ехаць да іх, — сказала бляндынка.

Праз колькі хвілінаў яны апынуліся ў прасторным двухпавярховым будынку. І на першым, і на другім паверсе гучала музыка, вісеў цыгарэтны дым. Ва ўсіх пакоях было шмат людзей. Яны актыўна (пасыўна) размаўлялі, пілі віно, каньяк, гарэлку, трункі.



Хтосьці таньчыў, хтосьці абмяркоўваў якасьці твораў айчынных ды замежных мастакоў (лішне казаць, што гэтых твораў тут было даволі шмат).

Сяргея пазнаёмілі з гаспадаром — хоць маладым, але ўжо лысаватым чалавекам.

— А я вас ведаю, — сказаў гаспадар Сяргею. — У мяне нават ёсьць касэта з вашай музыкай. Між іншым, вельмі прыстойная якасьць. Для нашай краіны гэта рэдкасьць.

— Дзякую, — адказаў Сяржук. — Мне, напраўду, вельмі прыемна.

— Між іншым, — працягваў гаспадар, — я заўтра еду ў Францыю. Я там маю некаторых знаёмых у галіне шоў-бізнэсу. Калі хочаце, магу паказаць вашыя запісы.

— Я вам вельмі ўдзячны, — сказаў Сяргей. — Якраз маю з сабой якасны запіс.

— Добра. Я абяцаю паразмаўляць з маімі знаёмымі.

**Сяржук**

Ён бег па цёмнай вуліцы. Па счарнелым шурпатым лё-

дзе, па калюжынах. Час ад часу падаў, але адразу ж падхопліваўся й зноў бег. Яго перасьледавалі нядаўнія прыяцелі. Перасьледавалі з крыкамі й пагрозамі. Зрэшты, яны таксама пэрыядычна падалі ў брудныя калюжыны, але ад гэтага толькі болей заводзіліся. Раптам Сержуку ў вочы ўдарыла асьляпляльнае сьвятло. Ён зразумеў: аўтамабільныя фары. Сяржук кінуўся насустрач машыне.

Яна спынілася.

— Хадзі, сюды, алкан, — пачуў Сяржук. Яму заламалі рукі ды кінулі ў машыну.

— На сягоньня трыццаць трэці, — сказаў малодшы сяржант.

— Там за мной беглі... з нажом, — спрабаваў патлумачыць Сяржук.

— Пасматры ты на сябе, п'яная сьвіньня. Выкачаўся весь, перагарам разіць на кілямэтар.

— Не, сапраўды, — зрабіў яшчэ адну спробу Сяржук, — там тры чалавекі. У іх нож. Яны беглі за мною.

— Ты замаўчыш кагда-нібудзь? — малодшы сяржант з развароту заехаў Сержуку ў сківіцу.

На гэтым іхняя размова скончылася.

## Сяргей

— А вы не хацелі б, Сярожа, напісаць музыку да майго фільма? — запытаўся ў яго вядомы кінарэжысэр.

— Я б з задавальненьнем, але дагэтуль не было прапановаў.

— Дык вось я й прапаную. Давайце сустрэнемся заўтра на кінастудыі. Я вам пакажу пачатковы матэрыял, вып'ем каньячку, арганізуем мазгавы штурм. Дарэчы, што ў вас з кліпамі? Калі трэба, можам арганізаваць.

— Вось заўтра, падчас мазгавога штурму, і пагаворым пра гэта.

— Добра, Сярожа. Чакаю вас.

— Але вы карыстаецеся тут папулярнасьцю, — сказала Сяргею брунэтка, — вы, высьвятляецца, даволі вя-

домы чалавек.

— Не настолькі, як хацелася б, — сумленна адказаў Сяргей і адпіў глыток з высокае срэбнае чаркі.

— Я мяркую, у вас усё наперадзе, — абнадзеіла брунэтка.

**Сяржук**

— Дзе работаеш-учысься?

— Я музыкант, — азваўся Сяржук.

— Я тожа на баяне іграю. Дзе работаеш? — настойваў капітан.

— Афіцыйна нідзе. Але...

— Так... Безработны. Ясна. Дакумэнты есьць?

Ва ўнутранай кішэні мусіць быць пашпарт. Але яго не было. Відаць, выпаў падчас аднаго зь Сержуковых падзеньняў.

— Згубіў, — ціха вымавіў Сяржук.

— Ясна, — сказаў капітан. — Прыдзёцца табе да выясьненія лічнасьці правесьці ўрэмя ў кампаніі сібе падобных.

Неўзабаве Сяржук апынуўся ў цеснай сыраватай камэры. Там знаходзіліся яшчэ чалавек 15. Перахоплівала дых ад нясьвежага, сьмярдзючага паветра.

— Ідзі сюды, новенькі, — пачуў Сяржук.

Яго клікаў пажылы кароткастрыжаны зэк. Сяржук падышоў.

— Што, цяжало дышыцца? — запытаў зэк.

— Цяжкавата, — адказаў Сяржук.

— Вот, відзіш, дзірачка ў сьцяне. Есьлі будзет очань цяжало, падхадзі і дышы. Я разрашаю.

— Дзякую, — сказаў Сяржук.

— Не за шта. Я знаю, как цяжало ў первы раз. А ты ў первы раз, эта сразу відна.

**Сяргей**

Шматлюднасьць пачала стамляць. За гэты вечар зь ім пазнаёмілася столькі людзей, што палову ён бы ўжо цяпер не пазнаў у твар. І гэта кепска, бо ўсе яны — лю-

дзі карысныя. Ад іх можа залежаць ягоная будучыня. Зрэшты, мяркуючы па ўсім, гэтая імпрэза не апошняя ў ягоным жыцьці.

Ягоная сьветлавалосая знаёмая ажыўлена таньчыла з мужчынам сярэдняга ўзросту. Другая знаёмая далёка ад Сяргея не адыходзіла, таньчыла толькі зь ім, зазірала яму ў вочы, згаджалася з усім, што ён казаў.

"Ну што ж, — падумаў Сяргей, — гэта ня самы горшы варыянт".

— Я крыху стаміўся ад гэтага гармідару, — сказаў ён брунэтцы. — Можа быць, зьехаць адсюль?

— Я даўно хацела гэта прапанаваць, — усьміхнулася яна. — Толькі не наважвалася.

— Куды мы можам паехаць?

— Я жыву тут недалёка. Пап'ем кавы, пагаворым.

— Тады ня будзем губляць час.

## Сяржук

Раптам ён заўважыў, што прыцягвае ўвагу высокага вязьня. Высокі сачыў за Сержуком вачыма й выстукваў нейкі рытм пальцамі на калене.

— Ідзі сюда, — сказаў ён Сержуку.

— Навошта?

— Ты што, плоха поняў? Есьлі старшы гаварыт, нада іцьці.

— Дзяйсцьвіцельна, он праў, — пацьвердзіў стары зэк, які прапанаваў Сержуку падыхаць у дзірачку. — Старшых нада слушацца.

Сяржук падышоў да высокага.

— Слышыш, — пачаў той, — а пачаму ў цябе сярожка ў вухе, а?

— Я музыкант, — ня вельмі ўпэўнена адказаў Сяржук. — Гэта мой сцэнічны імідж.

— Шчас я табе скажу, хто ты, — зароў высокі й схапіў Сержука за каўнер.

Сяржук выцяў нагою высокага акурат па носе. Пацекла юха.

Высокі заскавытаў тонкім голасам:

— Сматрыце, как аскарбляюць аўтарыцета? Саўсем закона, што лі, нет?!

Ён замахнуўся, але Сяржук зноўку пасьпеў ударыць першы. Удар прыйшоўся пад дых. Высокі перагнуўся напалам і зваліўся на брудную халодную падлогу.

Тым часам ззаду да Сержука падышоў маленькі непрыкметны шэранькі чалавечак. У ягонай руцэ бліснула сталь. Сяржук застагнаў, азірнуўся, трымаючыся рукою за бок. Шэранькі чалавечак усьміхнуўся яму.

— Няправільна ты зьдзелаў, што пабіў яго, — ціха, амаль шэптам прамовіў ён.

Сяржук павольна апусьціўся долу.

## Сяргей

Раніца. Шырокі ложак, памаранчавы сок, тэлевізар, пляскаты экран. Чарнявая сяброўка прынесла канапкі. Прыйшоў факс з Францыі: праз месяц трэба выяжджаць. Плянуецца шэраг канцэртаў. Там зь вялікай цікаўнасьцю паставіліся да ягонае музыкі. Акрамя гэтага, здымаецца ягоны кліп. Пішацца музыка да фільма.



У тэлевізары — крымінальная хроніка. Просяць апазнаць чалавека. Твар, быццам бы, знаёмы, але ніяк не атрымліваецца ўспомніць, хто гэта. Думкі пераключа-юцца на іншае (вельмі шмат штодзённых справаў, дзень расьпісаны літаральна па хвілінах).

* * *

Яны сустрэліся на эскалятары, у мэтро. Дакладней, на двух эскалятарах, якія рухаліся паралельна — адзін уніз, другі ўгару (у мэтрапалітэне так прынята). Сяржук убачыў Сяргея, пачаў актыўна жэстыкуляваць, крычаць (каб прыцягнуць Сяргееву ўвагу). Гэта атрымалася. Праз хвіліну яны стаялі ля выхаду з мэтро й размаўлялі.

— Ну, як твае справы? — пытаўся Сяргей. — Шчыра

кажучы, выглядаеш ты ня вельмі.

— Доўга хварэў, — ціха, нібыта гучна размаўляць яму цяжка, казаў Сяржук. — Толькі нядаўна выпісаўся. А ты як?

— А я толькі з Францыі. Граў там канцэрты. Вось праз два тыдні зноўку еду. Напісаў музыку да фільма. Зьняў кліп. Карацей, скардзіцца не выпадае.

— Ну што ж, рады за цябе, — нявесела ўсьміхнуўся Сяржук. — А памятаеш, два месяцы таму мы вырашылі зрабіць транспартную вандроўку? Ну, як у дзяцінстве...

— Шчыра кажучы, цяжка прыгадваецца. За два месяцы столькі здарылася...

— Ну, ты тады шчэ абраў тралейбус 43.

— Не, не прыгадваю. Даруй, я вельмі перапрашаю, але мне трэба бегчы, ніяк нельга спазьніцца. Яшчэ сустрэнемся!

Сяргей пайшоў. Сяржук пастаяў крыху, а потым павольна, кульгаючы, пакрочыў назад, у мэтро.

Сяргей сядзеў у францускай амбасадзе, чакаў, пакуль вызваліцца аташэ па культуры й напружана думаў: як жа завуць гэтага змардаванага чалавека, які яму сёньня сустрэўся ў мэтро? Думка гэтая была надта навязьлівая, Сяргей нават пачаў злавацца. Але неўзабаве да яго выйшаў аташэ, Сяргей па-дзяжурнаму ўсьміхнуўся, і яны паглыбіліся ў абмеркаваньне культурных сувязяў паміж іхнымі краінамі. Болей пра змардаванага чалавека Сяргей не ўспамінаў і ніколі яго не сустракаў.

## Чырвоныя валасы

— Ты ўжо прабач, што я папрасіў цябе са мной сустрэцца. Я разумею, нам ня трэба было бачыцца. Але мне проста няма каму ўсё распавесьці.

Мы сядзелі ў парку — ён, Сяргей і я. Ён піў з рыльца піва. Лаўка, дрэвы вакол яе, зямля — усё пад сьне-

гам. Люты. Сьнегу не было ўсю зіму. Толькі ў гэты дзень зранку выпаў.

— Так што даруй ужо, — ён глынуў. — Ведаеш, калі яна пайшла, я перасварыўся з усімі сваімі сябрамі. У мяне не было за ўсё жыцьцё чалавека такога блізкага, як яна. Ва ўсіх сэнсах...

Я глядзеў на Сяргея. Мы ня бачыліся месяцы тры. Ён вельмі схуднеў. Чорныя кругі пад вачыма. Гэтае піва на марозе...

— Ну, вось. З таго ўсё й пачалося. Галоўнае — няма каго тут вінаваціць, я ж сам вінаваты, ты ўсё ведаеш. Каб ня мой характар, я не застаўся б на самоце. Галоўнае, разумееш, я ня думаў, што будзе настолькі цяжка. Я напачатку намагаўся нічога не заўважаць. Рабіў свае справы. Сустракаўся зь сябрамі, хаця яны ўсе мяне пачалі раздражняць. І прыйшоў дзень, калі я кінуў пісаць. Мне проста абрыдла цягнуць зь сябе гэтыя словы, гэтыя радкі. Я пісаў мэханічна. А каму гэткае трэба? І вось тады, увечары, я сказаў сабе: усё! Досыць! Калі вернецца жаданьне пісаць, ну, калі-небудзь потым, праз тыдзень там, ці празь месяц, пачну. А калі не, дык гары яно... Пайшоў у рэстарацыю. Адзін. Напіўся. Прыйшоў дадому позна. П’яны. І тут зьявіўся ён...



Сяргеевы вочы ліхаманкава заблішчэлі. Ён наогул выдаваў на хворага — рэзкія жэсты, раптам спыняецца, калі распавядае, трасе галавою. Сяргей дапіў пляшку й шпурнуў яе. Пустая пляшка мякка пакацілася па сьнезе.

— Хто зьявіўся? — запытаўся я.

— Ты мне не паверыш, — Сяргей неяк непрыемна, злосна ўсьміхнуўся. — Я лёг на ложак і, як заўсёды ўвечары, гэта ўжо зрабілася звычкай, пачаў узгадваць яе. Хоць і быў на падпітку. Трэба, відаць, было болей выпіць. Каб нічога не адчуваць, ня памятаць. І вось я ляжу на ложку, і тут перад маім тварам зьяўляецца нейкі іншы твар. Маленькі такі, у зморшчынах. Я

прыўзьняўся, гляджу: худы чалавечак. Маленькі, мне па калена. У чорным вузкім гарнітуры. Чырвоныя валасы. Чамусьці мяне гэта ўразіла — чырвоныя валасы! — ня тое, што ён мне па калена, ня тое, што ён невядома якім чынам апынуўся ў маёй кватэры, а валасы... Сьмешна.

І вось гэтая пачвара глядзіць мне ў вочы зьдзеклівым позіркам і кажа:

— Ну што, паночак, дастукаўся? — голас глухі, нягучны. — Сам вінаваты. Думаў, добра жыць будзеш? Не, нічога болей не паўторыцца. Такое бывае толькі раз у жыцьці. Дзе ты яшчэ такую знойдзеш? Ты ўжо й сам зразумеў, праўда? А позна. Ня будзе табе цяпер жыцьця.

— А што будзе? — пытаюся.

— Нічога ня будзе. Усё скончылася. Пісаць ты ўжо ня здолееш. І сябры з табою неўзабаве разьвітаюцца, бо ты занадта нэрвовы стаў, калючы, непрыемны. Ніхто з табою цацкацца ня будзе, ня думай.

— А ты хто такі? — пытаюся ў яго.

— А гэта не твая справа. Цяпер я да цябе часта завітваць буду. Прыемна, хлопча, мне з табой размаўляць.

І зьнік. На раніцу я абудзіўся. Думаў, прысьніў. Але наступнай ноччу ён зьявіўся зноў. І зноў вёрз сваю лухту. Пачаў займацца паскуднымі прароцтвамі... Слухаць брыдка. На трэцюю ноч — зноў. Зьявіцца, навярзе рознае дрэні ды зьнікне.

Я запіў. Набіраўся да адключкі. Тады ён пачаў зьяўляцца раніцою. Будзіў мяне з пахмельля. Гэта было ў сто разоў горай. Хоць не прачынайся. Страшна. Ты мне ня верыш? — запытаў Сяргей мяне раптам.

— Давай далей, — вымавіў я. Ці то ён звар'яцеў, ці дапіўся.

— Ну, слухай. Час ішоў. Зь першага ягонага зьяўленьня мінула месяцы два. Я ўсё піў. Зрэдку прыпыняўся, пазычаў грошы і зноў... І тут гэты чырвонавалосы мярзоід пачаў схіляць мяне да самагубства. Каму ты, кажа,



цяпер трэба такі? Яна на цябе забылася даўно. Дый табе яна ўжо не патрэбная. Гарэлка табе трэба. І ўсё. Каб не пачаў піць, дык яшчэ б, можа, выкараскаўся. А цяпер... Цяпер табе адна дарога... І робіць гэты жэст — рубам далоні па горле — ведаеш? А потым, каб мяне давесьці, пачынае яе ўспамінаць, прычым аднекуль ведае самыя інтымныя падрабязнасьці. І так гэта брыдка гучыць у ягоных вуснах! А далей зноў: каму ты такі трэба, пазбаў людзей ад свае прысутнасьці, не абцяжарвай усіх! Скажы, што мне рабіць?

— Што рабіць? Найперш трэба зьвярнуцца да лекара. Хочаш, пайшлі во зараз, я цябе завяду, тут побач, у Доме Літаратара, без чаргі. Пайшлі?

Ён паглядзеў на мяне мутнымі вялікімі вачыма. Потым падняўся з лавы й хуткім хісткім крокам рушыў праз парк. Амаль што пабег.

Гэта было паўгоду таму. Сяргея даўно няма. Праз месяц пасьля нашае сустрэчы ён трапіў пад машыну. П'яны. На пахаваньні было няшмат людзей. Прыйшоў і я, хаця на мяне пазіралі коса. Але хіба я вінаваты ў тым, што сышоўся зь ёй? Проста ёй трэба было на кагосьці абаперціся, пасьля таго, як яны разышліся. Ён, урэшце, сам быў ініцыятарам гэтага разводу. Дый колькі можна сварыцца! Занадта розныя людзі, розныя натуры. Ну, яна й пайшла ад яго. Ён потым спахапіўся, тэлефанаваў, хацеў сустрэцца, але было позна. Яна не вярнулася. Яна прыйшла да мяне.

Пасьля ягонага пахаваньня прайшло колькі дзён, і яна мне прызналася, што кахала яго ўвесь гэты час. Нават тады, калі мы былі разам. Папрасіла адпусьціць яе. Я адпусьціў. Я зусім не пакутаваў — прыйшла, пайшла...

Толькі потым, дні праз тры, неяк зрабілася мне неспакойна. Пачаў усё часьцей яе ўспамінаць.

Аднаго разу я выпіваў са сваім знаёмым у яго дома. Пасварыўся зь ім, ледзьве не пабіліся. А пер-



шай ночы прыйшоў дадому, паваліўся ў ложак і раптам бачу перад сабою маленькі зморшчаны тварык. І валасы, каротка стрыжаныя чырвоныя валасы!

І чую:

— Вось і твая чарга прыйшла, паночак. Вітаю. Ну што, паўторыш лёс былога сябра?

Я кінуў у яго пустой пляшкай, але патрапіў у люстра.

— Забіць мяне хацеў? — ён захіхікаў. — Не атрымаецца. Хутчэй сам заб'есься.



І вось я крочу па змрочнай вечаровай вуліцы. Я б зайшоў да каго, але страціў усіх сяброў. І дахаты йсьці немагчыма. Трэцюю ноч я блукаю па горадзе. Я спадзяюся, што ён падыдзе да мяне. Але ён чамусьці не зьяўляецца. Пэўна, ведае, што ў маёй кішэні бліскучы чорны пісталет, зьняты з засьцерагальніка...

## Табе гамон!



Сьцяпан Пятровіч працуе журналістам. Ён робіць рэпартажы, актуальныя інтэрвію ды аналітычныя перадачы на тэлевізіі. Яшчэ ён працуе ў газэтах, піша камэнтары да розных падзеяў. Сьцяпан Пятровіч — ідэалягічны журналіст. Калісьці даўно ён займаў даволі высокую пасаду ў партыйнай арганізацыі журналістаў. Тыя часы незваротна мінулі. Але Сьцяпан Пятровіч ніколі не сварыўся з уладамі. Пэўны час ён займаўся нарысамі нораваў, рабіў праблемныя матэрыялы. Цяпер жа, калі нарэшце ўсталявалася моцная ўлада, Сьцяпан Пятровіч стаўся рупарам гэтае ўлады. Сьцяпан Пятровіч мае вялікую кватэру (нядаўна зрабіў рамонт). Сьцяпан

Пятровіч мае машыну. Сьцяпан Пятровіч мае жонку й сына.

* * *



Z. мае сярэдняга памеру балён з чырвонай фарбай. Z. выходзіць на вуліцу. Неўзабаве ён падыходзіць да доўгага бэтоннага паркану й піша на ягонай шэрай шурпатай паверхні антыўрадавы лёзунг. Потым спрытна хавае балёнчык з фарбай у кайстру ды дварамі й завулкамі (ён добра ведае гэты раён, даўно тут жыве) дабіраецца да свайго пад'езду. Чырвоны лёзунг зьзяе на шэрым паркане дзень, другі, пасьля чаго яго замалёўваюць. Z. баіцца міліцыі. Ён зьдзіўлены, што яна дагэтуль не адрэагавала на ягоныя дзеяньні. Кожнага разу ён доўга ходзіць ля паркану й піша толькі тады, калі канчаткова ўпэўніваецца, што паблізу нікога няма. Z. нідзе не працуе, бо лічыць амаральным супрацоўніцтва з гэтымі ўладамі, а камэрцыяй займацца ня любіць і ня ўмее.

* * *

Сьцяпану Пятровічу за 40. На тэлецэнтар пастаянна прыбывае маладое папаўненьне, і Сьцяпан Пятровіч тлумачыць ім: некаторыя гавораць, што мы з вамі займаемся несумленнаю справай. Гэта ня так. Мы працуем на дзяржаву. Дзяржава нам плоціць грошы. Што ж тут несумленнага? Уявіце сабе: вы рабочы на заводзе. Вам майстар прыносіць чарцёж і гаворыць: зрабі такую дэталь. Вы ж ня будзеце зь ім спрачацца й казаць, што чарцёж няправільны, што гэтыя дэталі непатрэбныя і трэба вырабляць зусім іншыя. Вось так і ў нас. Мы — людзі паднявольныя.

* * *

Сьцяпан Пятровіч вяртаецца дадому позна. Час ад часу ён сустракае суседа па пляцоўцы.

— Добры вечар, Сьцяпан Пятровіч, — заўсёды ветліва гаворыць сусед.

— Добры, добры, — бадзёра адказвае журналіст.

* * *



Мастак жыве на тое, што малюе першых асобаў дзяржавы. Але ён малюе іх з пэўнай фантазіяй: на кані, за стырном трактара, у вайсковай форме, у выглядзе касманаўтаў. Раней бізнэсмэны вельмі добра куплялі гэтыя сьмешныя партрэты. Але цяпер тавар пайшоў кепска: айчынныя заможныя людзі баяцца купляць гэтае небясьпечнае мастацтва. (Які ж тут крымінал?! — абураецца мастак. — Гэта ж проста фантастычны рэалізм!) Толькі зрэдку які-небудзь замежны аматар мясцовых сувэніраў купляе ў мастака экзатычны твор. Мастак ня ўмее гандляваць і заўжды заніжае кошт.

* * *

Ідучы зранку на працу, Сьцяпан Пятровіч заўжды забірае з паштовае скрыні ранішнія газэты. Гэтым ранкам ён таксама адчыняе скрыню. Разам з газэтамі Сьцяпан Пятровіч выцягвае са скрыні белую капэрту. Потым ён выхо-дзіць на двор, заводзіць машыну й едзе на працу.




* * *

Мастак ідзе па вуліцы й думае: зьяжджаць ці заставацца? Калі зьяжджаць, дык будучыня выдае на нейкі туман. Па-першае, мастак ня ведае замежных моваў. Па-другое, калі нават збольшага вывучыць ангельскую ці францускую, дык на якую працу ён можа разьлічваць? Грузчык? Прыбіральшчык? Мастак — адначасова чалавек лянівы ды ўпарты і хоча займацца толькі тым, чым яму падабаецца...

А калі заставацца тут? Праблема з мовай адпадае. Праблема з працай застаецца тая ж. Грузчык, прыбіральшчык, вартаўнік... Гэтыя прафэсіі мастаку не падабаюцца, а на нешта больш высакароднае разьлічваць не выпадае.

* * *

Сьцяпан Пятровіч за працоўным сталом чытае прэсу. Нічога экстраардынарнага. У Сярэдняй Азіі — бясконцая вайна. У Расеі — вайна кампраматаў. На роднай зямельцы ўсё як мае быць. На сяле — пэўныя посьпехі. Эканоміка падымаецца з руінаў. Раптам сярод газэтаў Сьцяпану Пятровічу трапляе белы простакутнік — капэрта. Ён ускрывае яе і чытае:

“ТЫ ПАСКУДА Й МЯРЗОТНІК. САМ ВЕДАЕШ ПРА ГЭТА І ЎСЁ АДНО ПАСКУДЗІШ. РЫХТУЙСЯ ДА САМАГА ГОРШАГА”.

Сьцяпан Пятровіч азіраецца: ці не прачытаў хтосьці з супрацоўнікаў гэтыя радкі праз ягонае плячо? Не. Абышлося. Сьцяпан Пятровіч кладзе аркушык у кішэню. Разглядае капэрту — на ёй няма нічога. Ані адрасу, ані пячаткі, ані імя адрасата. Ніякае выявы, ніводнага надпісу — абсалютна белая капэрта. Так, — думае Сьцяпан Пятровіч і адчувае ўнутры мярзотны халадок, — гэты гад ведае, дзе я жыву.

* * *

Сьцяпан Пятровіч бярэ інтэрвію ў старшыні калгасу. Старшыня гаворыць блытана, ужывае шмат ненарматыўнае лексыкі (ад хваляваньня). Але Сьцяпан Пятровіч вопытны журналіст, ён выража, што трэба, што трэба, пакіне, і ўсё будзе, як належыць. З дваццаці хвілінаў размовы застануцца тры. Вось толькі б пысу табе падгрыміраваць, — думае Сьцяпан Пятровіч. — Ды гэты страшэнны шэранькі гарнітурчык замяніць. А гальштук, божа ж мой, што за гальштук!



На мантажы Сьцяпан Пятровіч дастае з кішэні свае нататкі ды зноўку натыкаецца на мярзотны ліст. Брыдкая халодная хваля зноў нахлынае на журналіста. Ня думаць пра гэта! — загадвае ён сабе й працягвае мантаж.

* * *

Z. упэўніваецца, што ля паркану нікога няма. Час позьні, ліхтар далёка. Каму ахвота хадзіць па цёмнай вуліцы ў позьні час? А ўраньні ўсе пабачаць чарговы надпіс на бэтоне. Z. адчувае сябе барацьбітом Супраціву, мужным і бескампрамісным чалавекам. Гэтага адчуваньня яму вельмі бракуе ў шэрым дзённым жыцьці. З балёну струменіць чырвоная фарба, і Z. з асалодаю ўдыхае атрутны пах ацэтону.

* * *

Сьцяпан Пятровіч падымаецца ў пад'езьдзе па лесьвіцы. Спачатку ён сустракае бабу Франю. Яна зноўку на падпітку. Просіць пазычыць грошай. Невялікую суму. Сьцяпан Пятровіч пазычае ёй, хоць і ведае, што гэтыя грошы ня вернуцца.

Потым журналіст сустракаецца з суседам.

— Добры вечар, Сьцяпан Пятровіч, — зычліва кажа сусед.

— Добры, добры, — бадзёра адказвае Сьцяпан Пятровіч. Хоць... якая там бадзёрасьць пасьля цяжкага вечаровага мантажу ды гэтых... гэтых мярзотных цыдулак.

Сьцяпан Пятровіч прыехаў у сталіцу зь невялікага правінцыйнага гарадка. Царква, касьцёл, дом культуры, унівэрмаг, дзьве крамы — вось і ўсе задавальненьні. Сьцяпан Пятровіч добра вучыўся й пасьля школы паступіў на журфак. Яшчэ студэнтам ён пачаў працаваць у газэтах. Потым неяк сама сабою падвярнулася тэлевізія. І паехала, і паехала...

* * *

Сьцяпан Пятровіч трымае ў руцэ аркушык. На аркушыку надпіс: "ТАБЕ ГАМОН!" Сьцяпан Пятровіч думае: ці заяўляць у міліцыю? Можа, гэта недарэчныя жарты? Але чые? Супрацоўнікаў? Немагчыма. Супрацоўнікі — сур'ёзныя, заклапочаныя людзі. Значыцца, гэта нейкі сапраўдны зламысьнік. Нейкі тэрарыст. Значыцца, трэба заяўляць. А тут яшчэ жонка з ідыёцкімі пытаньнямі: што на працы, што на працы? Сьцяпан Пятровіч уключае тэлевізар і глядзіць свой сюжэт са старшынём калгасу. Жонка таксама падыходзіць, яна любіць глядзець мужавы матэрыялы. Сын, 19-гадовы бэйбус, спыняецца ў дзьвярах, каб таксама паглядзець. Раптам Сьцяпана Пятровіча нібыта працінае электрычнасьцю: у чыставы матэрыял невядомым чынам закраліся два словы бруднае старшынёвае лаянкі. Хоць старшыня выкарыстоўваў іх для "зьвязкі" і прагаворваў даволі невыразна, усе гледачы, відаць, пачулі. Прынамсі, сын мярзотна захіхікаў і пайшоў у свой пакой. Як гэта магло здарыцца? Усё ж было адгледжана! Ніколі ў жыцьці не было гэткіх ляпаў!

* * *

Сьцяпан Пятровіч раіцца з Галяй, даволі маладой жанчынай. Яны сядзяць у Галінай кватэры, у гасьцёўні. Сьцяпан Пятровіч распавядае Галі пра свае апошнія беды — пра пагрозы, пра этэрны ляп — пра ўсё. Галя раіць журналісту заявіць у міліцыю. Сьцяпан Пятровіч кажа, што пакуль пачакае. Час даволі позьні, трэба ехаць дадому. Але перад ад'ездам Сьцяпан Пятровіч кахаецца з маладой яшчэ жанчынай Галяй. Кахаецца адчайна, нібыта ў апошні раз.

* * *

Раніцай разам з прэсай Сьцяпан Пятровіч атрымлівае чарговую цыдулку: "ЧАКАЙ. ФІНАЛ БЛІЗКІ.

ТАБЕ ГАМОН.” Сьцяпан Пятровіч прыяжджае на працу, дзе яго адразу выклікаюць да шэфа. Шэф жорстка й мацерна выгаворвае яму за ляп у эфіры, які абурыў ці насьмяшыў палову краіны. Сьцяпан Пятровіч тлумачыць шэфу, што ўсё гэта з-за пагрозаў, якія ён атрымлівае штодня. “Дык чаго ты, ... тваю макаўку, не заявіў у органы?!” — абураецца шэф. Ён сам выклікае міліцыянта, але ўсё адно Сьцяпан Пятровіч атрымлівае строгую вымову. Праца ёсьць праца.

Дома Сьцяпана Пятровіча чакае чарговы ператрус: жонка даведалася пра існаваньне Галі. З ананімнага тэлефанаваньня. Сьцяпан Пятровіч крычыць, што гэта няпраўда, гэта нейкія інтрыгі зайздросьнікаў. Але жонка дастае з патаемнае шуфляды лісты. Тыя лісты, што Галя пісала Сьцяпану Пятровічу з Крыму летась. Як яна знайшла гэтую шуфляду?! Сьцяпан Пятровіч клянецца, што гэта памылка, гэта ніколі не паўторыцца. Жонка кажа: “Калі паўторыцца, я пайду да твайго кіраўніцтва!” Сьцяпан Пятровіч ніякавее.

* * *

Z. азіраецца. Быццам бы нікога. Дзеля поўнае ўпэўненасьці Z. два разы праходзіць уздоўж усяго паркану. Нікога. Як толькі Z. піша першую літару, нехта навальваецца на яго. “Ёсьць! — крычыць нехта. — Узялі!” Наручнікі халодна паблісківаюць у месяцовым сьвятле. Z. атрымлівае ў твар, падае сьпінаю на асфальт. “Паскуда! Тэрарыст х..ў!” — чуе ён і атрымлівае каваным ботам пад дых.

* * *

Сьцяпан Пятровіч адчыняе дзьверы свае кватэры, каб даведацца, што там за крыкі й шум на пляцоўцы. Тры міліцыянты выводзяць суседа Сьцяпана Пятровіча з кватэры. Той малады чалавек, што так культурна вітаўся са Сьцяпанам Пятровічам, моцна зьбіты,

скрываўлены.

— Аказваў супраціўленьне, — тлумачыць лейтэнант. — На сьценах розную брыдоту пісаў. Тэрарыст. Тут жа, недалёка. На паркане. Ну, вы ж ведаеце гэты паркан?

— Ведаю, — зьбянтэжана азываецца журналіст.

* * *

Праз два дні сусед Сьцяпана Пятровіча, ён жа Z., на сьледзтве прызнаўся ў тым, што гэта ён кідаў у паштовую скрыню вядомага журналіста пагрозьлівыя лісты. «Табе гамон», — узгадаў Сьцяпан Пятровіч. Ня мне гамон, табе гамон, даражэнькі суседзе, — усьміхаецца вопытны журналіст.

* * *

Мінаюць яшчэ два дні. Сьцяпан Пятровіч жыве спакойна, як раней, калі не лічыць лёгкае канфрантацыі з жонкай. Хоць гэтая канфрантацыя паступова вычухаецца (ад Галі давялося адмовіцца).

* * *

Сын Сьцяпана Пятровіча, 19-гадовы бэйбус, скончыў мастацкую вучэльню. Ён здымае майстэрню ў рабочым раёне. Адзін кут майстэрні загрувашчаны партрэтамі кіраўнікоў дзяржавы. Кіраўнікі на конях, за стырном трактара, у вобразе касманаўтаў... Сын Сьцяпана Пятровіча ўключае маленькі пераносны тэлевізар і глядзіць навіны. Потым бярэ са стала аркуш паперы, аловак і роўнымі друкаванымі літарамі піша: “ТАБЕ ГАМОН!”

## Затапленьне

Зіма пачалася ў лістападзе. Ужо тады выпаў сьнег. Ён не растаў, як зазвычай. Ён праляжаў ажно да красавіка.

За гэтую доўгую зіму суметы ўзьнесьліся на двухмэтровую вышыню. Гарадзкія ўлады спрабавалі з гэтым змагацца, але бяз посьпеху. Таго ж выніку яны дасягнулі і ў барацьбе зь лёдам.

Праз усё гэта траўмапункты й лякарні былі перапоўненыя.

Віталь стаяў на аўтобусным прыпынку й думаў: калі зіма праз пару тыдняў ня скончыцца, я звар'яцею. Зіма цягнецца пяты месяц...

Як на злосьць, аўтобус доўга не падыходзіць.

"Яшчэ б, — падумаў Віталь, — усе дарогі ў лёдзе. Дзе тут паедзеш хутка!"

Народ на прыпынку сабраўся адпаведны настрою Віталя. Малады чалавек лускаў семкі й лушпіньне сплёўваў проста на сьнег. Дзьве хамаватыя дзяўчыны гучна абмяркоўвалі ўчарашнюю імпрэзу. Бабулькі скардзіліся адна адной на надта высокія кошты.

Нарэшце аўтобус пад'ехаў, і ўвесь наўтоп уціснуўся ў яго.

Зрэшты, на прыпынку "Рынак" людзей у аўтобусе значна паменела.



Насупраць Віталя сядзеў п'яны дзядзька. Да яго падышоў лейтэнант міліцыі й запытаўся: "Ты хоць ведаеш, куды едзеш?" П'яны адно па-дурному ўсьміхнуўся. Міліцыянт плюнуў і сышоў на наступным прыпынку.

Віталь падумаў, што някепска было б самому нарэзацца так, каб ня бачыць гэтае зімы ды ўсяго, што зь ёй зьвязана.

Віталь працаваў на радыё. Ён вёў нязначную перадачу. Але сёньня перадачы ягонае не было. Ён прыйшоў папросту таму, што ў хаце сядзець абрыдла, а для сустрэчы са знаёмай дзяўчынай бракавала грошай (за нязначную перадачку плацілі нязначныя ганарары).

Віталь папаліў на лесьвіцы ды абмеркаваў з калегамі некаторыя дэталі асабістага жыцьця іншых калегаў, а таксама цяжкую сытуацыю ў краіне.

Віталь папіў дармовае кавы.

Віталь прачытаў апошні факс ад інфармацыйнага агенцтва: “Сёньня ўначы чакаецца значнае пацяпленьне. Паколькі гэтай зімою выпала рэкордная за апошнія 200 гадоў колькасьць ападкаў, у горадзе створаныя адмысловыя камітэты па барацьбе з паводкаю. Гарадзкія ўлады сьцьвярджаюць, што асаблівых падставаў для неспакою няма, сытуацыя знаходзіцца пад дзяржаўным кантролем”.

Віталь падумаў: ведаем мы гэты дзяржаўны кантроль. Яны ўжо пракантралявалі сьнег, лёд, цяпер пракантралююць паводку.

Віталь зьняў слухаўку й набраў некалькі нумароў: шукаў магчымую кандыдатуру дзеля супольнага ўжываньня моцных напояў. Яго напаткала расчараваньне — той ня можа, гэты адсутнічае.

Пры гэтым у пакой увайшла адна з галоўных радыйных асобаў. Пачуўшы Віталевы размовы, яна мякка, але настойліва папрасіла яго вызваліць памяшканьне й не перашкаджаць працаваць калектыву. Што й давялося зрабіць.

Ад усяго гэтага настрой у Віталя не палепшаў. Давялося рана класьціся спаць на самоце, цьвярозым ды паўгалодным.

Віталя пабудзіў гучны голас. Ён чуўся з вуліцы. Віталь зірнуў у вакно: вуліца пераўтварылася ў брудную раку, па якой плыло рознае гарадзкое сьмецьце. Узровень вады даходзіў да вокнаў першага паверху. Мэгафонны голас манатонна выгаворваў словы: “Грамадзяне! Просьба захоўваць спакой. Сытуацыя знаходзіцца пад кантролем гарадзкіх уладаў. Праз некалькі гадзінаў становішча будзе выпраўленае!”

“Ну, усё, — падумаў Віталь. — Прыплылі”.

Па халоднай бруднай рацэ сплывалі сьмецьцевыя бачкі, драўляныя скрыні, паперы...

Віталь жыў на пятым паверсе.

Праз дзьве гадзіны першы паверх быў цалкам за-

топлены, вада падышла да другога.

З пад'езду чуліся ўзбуджаныя галасы, крыкі.

Яшчэ праз гадзіну пачалася зьліва. Мэгафонныя заклікі захлынуліся й змоўклі.

Віталь даволі цікава адрэагаваў на гэтыя падзеі: не распранаючыся, ён лёг у ложак ды заснуў.



Ён прачнуўся празь некалькі гадзінаў і кінуўся да вакна. Пад ягоным вакном разьлівалася роўнае спакойнае мора. З яго, нібыта скальныя выспы, тырчалі высотныя дамы й апошнія паверхі пяціпавярховак. Горад зьнік.

Пад вакном Віталя праплываў велізарны кодаб ад нейкага магутнага грузавога аўтамабіля. Віталь скочыў у гэты кодаб і адплыў у невядомым кірунку.

Неўзабаве з даху чарговага дому, пад якім праплываў кодаб, Віталь пачуў крык: “Пачакайце мяне!” І ў кодаб скочыла бялявая дзяўчына.

— Куды вы плывяце? — спыталася яна.

— Ня ведаю, — шчыра адказаў Віталь. — Там, адкуль я плыву, рабіць ужо дакладна няма чаго.



Далей яны паплылі разам. А надвячоркам кодаб запоўніўся сабакамі, катамі, хамячкамі, мышамі, пацукамі і рознымі іншымі хатнімі жывёламі. Яны скакалі ў яго з вокнаў, гаўбцоў, усіх дзірак ды шчылінаў.

Зьмеркла. Віталь лёг на дно кодаба, накрыўся пінжачком. Дзяўчына лягла побач і прыціснулася да яго. “Так цяплей”, — сказала яна й адразу заснула. Сьцішыліся й жывёлы ў кодабе.

Над затапленьнем узыходзіў зыркі веснавы месяц.

## Экспэдыцыя

— Экспэдыцыя... Экспэдыцыя — гэта добра, — сказаў капітан Чарскі. — Гэта цікава й карысна. А я вось выму-

шаны займацца іншым...

— Ну, навошта вы так пэсымістычна... — сказаў я. — Таксама патрэбная справа. Каб не было тут вашага паста, я б ня змог паехаць у гэтую экспэдыцыю.

— Чаму?

— Ну, як чаму! Небясьпечна. Тубыльцы, дзікуны.

— Няўжо вы думаеце, што я вас змагу ўратаваць ад тубыльцаў?

Капітан наліў у шклянку гарэлкі й выпіў нагбом.

— Зрэшты... калі спатрэбіцца якая дапамога, зьвяртайцеся да мяне. І вам спакайней будзе, і мне весялей, — Чарскі ўсьміхнуўся. — Жыцьцё тут аднастайнае. Нудота заела...

* * *



Капітан Чарскі быў начальнікам паста. За тры гады жыцьця тут ён прызвычаіўся піць. Але, разважаў я, — даволі прыемны чалавек. Разумны. І ня скажаш, што вайсковец. Добра, што мне сустрэўся менавіта ён, а не які-небудзь іншы капітан, дубовы служака.

Пост уяўляў сабою цагляны двухпавярховы будынак. Мне адвялі невялікі, але ўтульны пакойчык на першым паверсе.

* * *

У дзьверы пагрукалі.

— Адчынена, заходзьце.

Зайшла Марыля, маладая прыгожая кабета. Яна прыбірала на пасьце, гатавала есьці. Наогул, акрамя мяне, тут жылі пяць чалавек — капітан Чарскі, Марыля й тры вайскоўцы. Гэтыя вайскоўцы штодня заступалі на варту, нешта ахоўвалі. Я іх бачыў рэдка. Яны мне здаваліся аднолькавымі — усе высокія, усе ў форме.

Марыля — хударлявая высокая бляндынка. Яна адразу мне спадабалася. Але я падазраваў, што ў яе

нешта ёсьць з Чарскім. Некаторыя дробныя назіраньні давалі мне падставу гэтак думаць.

Марыля прысела на край ложка.

— Сёньня абед будзе раней, а другой гадзіне. Капітан ідзе на праверку ў лес, — сказала яна. — У нас так заўсёды. Чацьвер — дзень праверкі, і абед а другой.

— Дзякуй, што папярэдзілі, Марыля, — адказаў я і ўсьміхнуўся. Усё ж яна мне вельмі падабалася.



Некалькі хвілінаў мы сядзелі моўчкі.

— Вам, напэўна, цесна ў гэтым пакоі пасьля гарадзкой кватэры? — запыталася Марыля.

— Ведаеце, — азваўся я, даводзілася жыць і не ў такіх умовах. Праца такая.

— Усё роўна, — Марыля прыплюшчыла вочы. — У горадзе ня тое, што тут...

— А чаму вы адсюль ня зьедзеце?

— Не магу парушыць дамову. Падпісала на два гады. Яшчэ год трэба сядзець тут.

— Навошта ж ісьці на такое добраахвотнае зьняволеньне?

Марыля ўсьміхнулася краёчкамі вуснаў.

— За гэтую службу шмат плоцяць...

* * *

Нам ніколі не выдаюць зброю. Нават калі вядома, што экспэдыцыя небясьпечная. І дарэмна. Цяпер



я вымушаны пастаянна азірацца, ідучы па лесе. І адчуваць непрыемны жывёльны страх. Пра мясцовых тубыльцаў у нашым цывілізаваным сьвеце ходзіць шмат плётак. А на пасту я бачыў іх фаташдымкі. Непрыемнае відовішча. Пакуль, дзякуй богу, я іх не сустракаў. Вядома, калі б у мяне была зброя, я б адчуваў сябе значна лепей.

* * *

Па вечарох мы з Марыляй кожны дзень шпацыруем па ўзьлеску. Размаўляем пра рознае. Выявілася, што Марыля разумная, адукаваная кабета. Цікава, што яе сюды занесла?.. Я баяўся, што Чарскі пасьля гэтых штовечаровых шпацыраў будзе горш да мяне ставіцца, але гэтага не адбылося. Капітан — прыемны чалавек.



Апошні раз, калі я заходзіў у лес, мне падалося, што нехта за мною сочыць. Я адчуваў на сабе нечы позірк. Чуў ззаду ціхія крокі, але калі азіраўся, нікога не было. Гэта мяне ўразіла, і я хутчэй вярнуўся на пост.

Увечары я падышоў да Чарскага.

— Капітан, сёньня я быў у лесе, і мне здалося, што нехта за мною сочыць. Калі вам ня цяжка, загадайце заўтра аднаму з жаўнераў пайсьці за мной. Хто ведае, што задумалі тубыльцы!..

— Не хвалюйцеся, — усьміхнуўся капітан. — Я сам пайду з вамі.

— І на ўсякі выпадак вазьміце зброю.

Назаўтра ў поўдзень я, як заўсёды, сабраўся ў лес. Капітан таксама быў падрыхтаваны.

Мы ўжо выйшлі на ўзьлесак, калі нас дагнала Марыля.

— Я пайду з вамі. Можна?

Ніхто з нас ёй не адказаў. Яна ўспрыняла маўчаньне як згоду і пайшла побач.

Пакуль я працаваў, капітан гаварыў пра нешта з Марыляй. Так мінула гадзіны тры. Я зрабіў усё, што мне трэба было на сёньня.

— Можна вяртацца, — сказаў я Марылі й Чарскаму.

Калі мы пайшлі ў бок паста, зноў пачуліся тыя гукі, якія я чуў мінулага разу, калі хадзіў у лес. Чарскі напружыўся.

— Вось што, — вымавіў ён, — давайце пойдзем хутчэй. Мне гэтыя гукі за сьпінаю не падабаюцца.

Мы паскорылі хаду. Усе насьцярожана маўчалі. Прыслухоўваліся. Раптам Марыля спатыкнулася і ўскрыкнула.

— Што здарылася? — ціха запытаўся капітан.

— Падвярнула нагу, — адказала Марыля.

— Ісьці можаш?

— Паспрабую.

Мы пайшлі марудней. Марылі йсьці было цяжка, твар яе крывіўся ад болю пры кожным кроку. Да выхаду зь лесу заставалася няшмат...

— Марыля, — сказаў Чарскі, — давай я дапамагу табе.

— Дзякуй.

Марыля абаперлася на капітана. Мы рушылі яшчэ павольней. Я азірнуўся. І раптам убачыў у некалькіх дзясятках крокаў ад нас злавесныя каржакаватыя постаці.

— Капітан! — крыкнуў я. — Дзікуны!

— Ідзі-ідзі, не азірайся, — вымавіў праз зубы Чарскі.

Дзікуны набліжаліся. Стала чуваць гартанныя галасы, ваяўнічыя поклічы.

— Трэба бегчы, — сказаў капітан. Ён падхапіў Марылю на рукі й пабег, як мог хутка. Я кінуўся за ім. Было цяжка. Ногі то траплялі ў ламачча, то блыталіся ў расьлінах.

Чарскі ўсё часьцей спатыкаўся. Ён цяжка й хрыпата дыхаў.

— Дапамажы, — вымавіў ён, — пранясі Марылю, потым заменімся. Я адзін не дацягну.

— Капітан, — цьвёрда сказаў я, — Марылю давядзецца пакінуць тут. Зь ёю мы не ўратуемся.

— Ты думаеш, што гаворыш?! — вочы Чарскага наліліся крывёй.

— Капітан, гэта адзіная магчымасьць выжыць. Вы павінны гэта разумець, вы ж вайсковец, у рэшце рэшт! Ну! Што вы стаіцё?!

Капітан стаяў з Марыляй на руках, як укапаны.

Марыля маўчала. Чаканьне азначала сьмерць. Я павярнуўся й пабег.

Даволі хутка я быў на ўзьлеску, увайшоў на пост і ў сваім пакоі бразнуўся на ложак.

Урэшце рэшт, Чарскі павінен быў адмовіць Марылі, не дазваляць ёй ісьці з намі ў лес. І гэта ён вінаваты ў тым, што ўсё так атрымалася. А тое, што я пабег... дык мая прысутнасьць там нічога б не зьмяніла. Проста замест двух загінулі б тры чалавекі. І ўсё.

* * *

Дзьверы майго пакою з віскам адчыніліся. На парозе стаяў Чарскі. Парваная вопратка, на твары — крывападцёкі. На руцэ — доўгая рана.

Я адступіў да вакна. Чарскі моўчкі набліжаўся да мяне. Краем вока я ўбачыў у ягонай руцэ бліскучае лязо. Чарскі падышоў зусім блізка. Махнуў рукой. Па маім твары пацякла цёплая кроў. Потым я адчуў моцны ўдар у вока. Я ўпаў. Капітан выйшаў.

* * *

Усё ж такі доўгія гады жыцьця ў такіх мясьцінах накладаюць адбітак на людзей. Вось Чарскі. Быццам разумны, інтэлігентны чалавек. А па сутнасьці — дзікун. Парэзаў мне лязом лоб. І застаўся белы доўгі шнар. Цяпер, праз некалькі гадоў, пра гэта ўспамінаецца бяз той вастрыні пачуцьцяў. І дзякуй Богу.



Чарскі тады ўсё ж адбіўся ад тубыльцаў. А Марылю не ўратаваў. Пасьля таго, як ён выйшаў з майго пакою, я яго болей ня бачыў. Зранку я сабраў рэчы і зь першым верталётам выправіўся дадому. Толькі нядаўна мне распавялі, што на наступны дзень капітан Чарскі засіліўся на ўзьлеску.

# Так казаў Раман Рымар



Калі я прыехаў (прыплыў, ці — паматроску — прышоў) у Малы Альгамін, ва ўладзе былі трытон-ільзістары. Мне, у прынцыпе, усё роўна, хто там у іх ва ўладзе. Папросту перавароты, рэвалюцыі, страляніна гэтая — даволі няўтульная рэч. Падчас грамадзянскіх пепратрусаў мясцовае насельніцтва пачынае варожа й падазрона ставіцца да іншаземцаў. Я меў калісьці прыяцеля. Дык той усіх навокал успрымаў, як тубыльцы падчас чарговае рэвалюцыі іншаземцаў. Гэты мой, з дазволу, прыяцель і да мяне так ставіўся. Урэшце ён на ўсё плюнуў ды паехаў у Рэспубліку Хвен. Цяпер ён тамтэйшы міністар унутраных справаў. А калісьці хацеў стаць мастаком, вучыўся...

Аднак вернемся да трытон-ільзістараў. Яны — даволі ненадзейныя людзі. Калі ільзістары ў апазыцыі, яшчэ нічога. А як дарвуцца да ўлады — усё, гамон. То дыктатура, то экспэрымэнтальныя рэформы. Зрэшты, кожная з дванаццаці партыяў Малога Альгаміну калі здабывае ўладу, займаецца тым самым.

Я сышоў па трапе з параходу. І адразу паліцыянты спыталіся пра дакумэнты. Гэта кепская прыкмета.

Паліцыянт параўнаў фотакартку з маім тварам і зазначыў, што здымак не адпавядае ўзросту (ці, наадварот, узрост — здымку?). Потым спытаўся пра прычыну прыезду.

— Заключэньне гандлёвых пагадненьняў наконт пастаўкі ў Малы Альгамін каменеперапрацоўчых аўтаматычных камбайн-лініяў.

Паліцыянт вярнуў дакумэнты.

— Вашая віза заканчваецца праз пяць дзён. Калі ласка, пастарайцеся выехаць у належны тэрмін.

З гэтага і пачалася мая чарговая сустрэча зь зямлёю і людзьмі Малога Альгаміну.

Я заўважыў, што гатэль “Чароўнае неба Альгаміна” глядзіцца бедна, неахайна, занядбана, зусім ня так, як падчас майго мінулага прыезду. Гаспадар гэтае ўстановы Мураб Казілера сядзеў у шкляной будцы. Раней гэта было мейсца адміністратара. Казілера спаў. Я пабудзіў яго.

— О-о! Пан Раман! Вы жадаеце зноў спыніцца ў мяне?



— Так, пан Казілера. Я спадзяюся, мой 49-ы вольны?

— Ды ўсе вольныя, пан Рымар. Надышлі ня лепшыя часы для майго гатэлю. Калі ва ўладзе былі каракон-аміны, рабіліся аблавы на контррэвалюцыянэраў. Знайшлі падпольную друкарню. З таго часу й пайшоў заняпад. І ўлада быццам зьмянілася, а былога прыбытку няма. Ніхто ня хоча тут жыць. Рэпутацыя гатэлю безнадзейна пахіснулася, пан Рымар...



Па няголенай шчацэ Казілеры скацілася сьляза. Але Мураб узяў сябе ў рукі, запісаў мяне ў кнігу наведнікаў, падышоў да дошкі зь цьвікамі, на якіх віселі ключы, зьняў ключ ад 49-га нумару і працягнуў мне. Відаць, у гэтыя нялёгкія часы гаспадару даводзілася замяняць сабою ўвесь калісьці шматлікі гатэльны пэрсанал.

Я ледзьве пазнаў улюбёны пакой. Са сьценаў нехта шматкамі паабдзіраў шпалеры, замест аднае шыбы — кардон, са столі зьвешвалася лямпачка без жырандолі.

“Як усё зьмяняецца, — падумаў я. — Усяго год тут ня быў, а не пазнаць”.

Але я вырашыў нікуды не перасяляцца. Чамусьці захацелася, як заўсёды, пажыць тут. Нягледзячы на гармідар.

Калі казаць праўду, дык я прыехаў ня дзеля каменеперапрацоўчых камбайн-лініяў. Не. На гэты раз у мяне было іншае заданьне. Рызыковае. Фірма паслала мяне сюды прадаваць фотаздымкі і ілюстраваныя

жыцьцяпісы зорак сусьветнага року. За пяць дзён я мушу прадаць цэлую валізку гэтае макулятуры. Калі не пасьпею — давядзецца нелегальна затрымацца. Бо трэба выканаць загад фірмы. Я фірму паважаю, яна мяне корміць.

*Так казаў Раман Рымар, пакуль ня здарылася непапраўнае.*

Перад сном я выбраўся на шпацыр па акіянскім узьбярэжжы. Сонца заходзіла. Над хвалямі насіліся птушкі туфан — небясьпечныя й драпежныя. Я выцягнуў з кішэні кавалак смажанае рыбіны — не даеў на параходзе — кінуў. Маладая птушка ўлёт схапіла рыбу, але да яе кінуўся стары вялізны птах і праглынуў і маладую птушку, і рыбіну. Такім чынам, птушкі туфан небясьпечныя нават для птушак туфан, ня тое што для чалавека.

Вось і той мой прыяцель быў небясьпечны для чалавека. Ён нікому не давяраў і нікога не любіў. Хаця й спрабаваў маляваць карціны. Некаторыя знаўцы нават лічылі, што гэтыя карціны досыць таленавітыя, але прыяцель не любіў нават гэтых знаўцаў.

Цяпер ён карціны ня піша. Цяпер ён узначальвае міністэрства ўнутраных справаў у Рэспубліцы Хвен. Ягоныя агенты гойсаюць па Беларусі ў пошуках юнацкіх карцін пана міністра. Бо ён вырашыў зрабіць у сталіцы Хвена музэй свае творчасьці. Так што, бачыце, гэты мой былы, так бы мовіць, прыяцель мала чым адрозьніваецца ад птушкі туфан.

Так вось я ішоў па беразе акіяна, думаў і раптам убачыў прыгожую альгамінку. Яна крочыла мне насустрач. Яна сьпявала народную песьню. „Ву нару ву м’бу” — ”Ты ходзіш так балюча па маіх пазногцях, хлопчык”. Альгамінка выглядала вельмі рамантычна ды экзатычна на тле неспакойнага акіяну і шалёных птушак туфан над хвалямі.

Я насьмеліўся і падышоў да прыгажуні. Завязалася размова. Яна скончылася даволі пасьпяхова — я прадаў

альгамінцы вялікі партрэт Міка Джагера. Значыцца, я не памыліўся, калі прыхапіў на шпацыр кейс з таварам.

Потым я сустрэў яшчэ альгамінцаў і альгамінак, і ва ўсіх мой тавар карыстаўся попытам. І навошта новы ўрад Альгаміна забараніў рок-музыку? Цяпер тут няма нічога папулярнейшага за яе. Яны тут проста звар’яцелі на гэтым року, а нашая фірма ведае, што дзе можна пасьпяхова прадаць. За гэта я яе і люблю.

*Так казаў Раман Рымар, пакуль ня здарылася непапраўнае.*

Зранку я пашкадаваў, што па старой памяці ўладкаваўся ў гатэль старога Мураба Казілеры. Занадта заняпала ягоная ўстанова. Сярод ночы разваліласяканапа, на якой я спаў. Казілера прынес раскладанку.

Зранку я пашыбаваў на справу.

Я даўно працую ў сыстэме гандлю. Мой бацька служыў камандзірам батарэі. Яны стралялі з гарматаў. Зьнішчалі людзей ды іхную маёмасьць. Я ў дзяцінстве зарокся, што буду павялічваць чалавечую маёмасьць, калі ўжо бацька гэтулькі яе панішчыў. Так я зрабіўся гандляром, і бацькі выгналі мяне з хаты. Цяпер яны дажываюць свой век у вёсцы Капусьценічы пад Слуцкам, а я незаконна прадаю фотаздымкі ды жыцьцяпісы зорак сусьветнага року ў сталіцы малога Альгаміна.



А былы мой прыяцель гэтым часам увасабляе моцную ўладу ў Рэспубліцы Хвен.

Я даволі пасьпяхова вёў гандаль да палудня. Потым вярнуўся ў гатэль. Хацелася есьці. У фае мяне чакаў альгамінец сярэдняга ўзросту ў афіцыйным гарнітуры.

— Вы — пан Раман Рымар?

— Так.

— Я зь міністэрства рыбнае гаспадаркі. Мне даручылі падпісаць з вамі кантракт.

— Які кантракт?

— Наконт продажу нам трох каменеперапрацоўчых камбайн-лініяў.

— А хто вам сказаў, што я гэтым займаюся?

— Нашая паліцыя пытаецца пра мэту прыезду ва ўсіх іншаземцаў. Потым гэтыя дадзеныя рассылаюцца па зацікаўленых установах. Краіне неабходна супрацоўнічаць з замежжам.

— Вы хочаце сказаць, — перарваў я, — што ва ўсіх, хто прыплывае на параходзе, паліцыя высьвятляе мэту прыезду?

— Так, — адказаў ён. — Кожнага разу, як прыплывае параход, міністэрства ўнутраных справаў уздымае ўсіх паліцыянтаў горада, нават дарожную паліцыю, каб задзейнічаць у апытаньні іншаземцаў.

— Гэта геніяльная ідэя, — сказаў я. — Але прашу дараваць. Мой цяперашні візыт — чыста азнаямленчы. Пакіньце свае каардынаты, я потым з вамі зьвяжуся.

Альгамінец у афіцыйным гарнітуры пакінуў сваю візытоўкі і выйшаў незадаволены.



Я спусьціўся ў рэстарацыю. Кухарам і афіцыянтам быў, зразумела, Мураб Казілера. Ён прынёс мне варанае яйка, хлеб, соль і шклянку непразрыстае вадкасьці. Я панюхаў: гэта была брага.

І ўсё ж, нягледзячы на ўсе цяжкасьці, мне даспадобы мая праца. Ды і па службовых прыступках я пасоўваюся досыць хутка. Яшчэ дзьве, тры, ну, чатыры такія вандроўкі, а там — падвышэньне. Сяду ў офісе і ўжо ня так і далёка да фатэлю прэзыдэнта фірмы. Цалкам рэальна! Гэта вам не з гарматы страляць і пагоны на плячах цягаць! Гандаль — справа тонкая й далікатная.

*Так казаў Раман Рымар, ня ведаючы, што яго чакае наперадзе.*

Мінуў тэрмін візы — пяць дзён. Усё прадаць, я на жаль, не пасьпеў. Вырашыў, як і плянавалася, затрымац-

ца нелегальна. Аднаго дня мне б хапіла. Тавару засталося зусім няшмат.

Зранку я выйшаў з кейсам у руцэ. У завулках і пад'ездах прадаў амаль што ўсё. Засталося пяцьшэсьць плякатаў. І ў гэты час, калі справа набліжалася да пераможнага заканчэньня, я зразумеў, што за мною сочаць. Адны і тыя ж маладыя людзі траплялі мне на вочы ўжо некалькі разоў у розных гарадзкіх раёнах, на ўзьбярэжжы, на пляжы.

Я вырашыў пазбавіцца ад кейсу і вярнуцца ў гатэль. Квіток я замовіў на заўтрашні ранішні параход. Такім чынам, тэрмін знаходжаньня ў Альгаміне парушаны толькі на адзін дзень. За такое парушэньне сур'ёзна не караюць.

Я выкінуў кейс у сьмецьцевы бак каля бруднай мясной крамы. Шкада пяці плякатаў, але рызыкаваць ня варта. Я лічу, хай лепей фірма страціць плякаты, чым прыбытак за ўсю партыю тавару плюс карыснага ды таленавітага супрацоўніка.

Я набліжаўся да гатэлю. Раптам побач са мною спынілася машына. Адтуль выйшаў супрацоўнік міністэрства рыбнае гаспадаркі.

— Добры вечарочак, пан Раман, — павітаўся ён.

— Добры вечар, — азваўся я. — Калі вы зноў наконт каменеперапра...

— На гэты раз — не, — перарваў ён з усьмешкаю. — Гэтым разам — наконт вас. Калі ласка, сядайце ў машыну.

І ён паказаў мне пасьведчаньне афіцэра тайнае паліцыі Малога Альгаміна.

— Гэта зьвязана з тым, што я затрымаўся на дзень? — спытаў я ў машыне.

— Гэта зьвязана з вашай антыальгамінскай дзейнасьцю, — адказаў паліцыянт. — Больш падрабязна вам растлумачыць пан міністар.

— Што, сам міністар?!

— Так, пан Рымар.

Праз колькі хвілінаў я стаяў у габінэце міністра па-

ліцыі і ўнутрана-вонкавай бясьпекі Альгаміна.

— Ну што, пан Рымар, — пачаў міністар Пай Вутатуп, — будзем прызнавацца?

— У чым? — нібыта не зразумеў я, хаця і зразумеў, што і фірму, якую я так люблю, і тату з мамаю, што зараз у вёсцы Капусьценічы, і ўсё, да чаго я так прызвычаіўся на Радзіме, мне, напэўна, болей не давядзецца ўбачыць.

— Не спрабуйце мяне ашукаць, — пагрозьліва вымавіў Пай Вутатуп. — Вашая дзейнасьць падчас апошняга прыезду насіла яскрава выражаны антыальгамінскі характар. Прадаяце тут розную дрэнь! — ён выцягнуў з шуфляды стос пакамечаных партрэтаў рок-зорак, некалькі жыцьцяпісаў, мой брудны кейс і грэбліва кінуў усё гэта на стол.

— Вы ведалі, што прадаваць гэта ў нас забаронена?

— Не, — адказаў я.

— Чаму тады ўсё гэта прадавалася ў пад'ездах, завулках, малалюдных мейсцах, га?

— Ну-у, як вам растлумачыць...

Міністар усьміхнуўся.

— Хопіць ламаць камэдыю, пан Раман. Вы наведваеце малы Альгамін ужо сёмы раз. Нашую мову вы ведаеце. Вы заўжды парушалі нашыя законы, але мы імкнуліся не заўважаць гэтага. І, магчыма, зараз вас таксама не арыштавалі б — ну, прадалі і хай сабе! — але вы мне патрэбны. Вы вырасьлі ў Эўропе, вучыліся. Вы досыць інтэлігентны чалавек, навучаны добрым манэрам. Карацей, я прапаную вам пасаду ў альгамінскім габінэце міністраў. Што вы думаеце наконт пасады міністра артылерыі Альгаміна?



— Міністра чаго?!!

— Артылерыі.

— Не, — цьвёрда сказаў я. — Я ніколі не служыў у войску. Маё прызваньне — гандаль. І я ня здольны яму здрадзіць.

— Нічога, нічога, пан Раман, вы паспрабуйце, я ўпэў-

нены, вам спадабаецца. Дзеля разнастайнайнасьці магу прапанаваць вам па сумяшчальніцтве пасаду міністра жывапісу Малога Альгаміна. Як вы наконт гэтага?

— Я не жадаю быць артылерыстам!!! — закрычаў я. — І я не разьбіраюся ў мастацтве!

— Тады, паводле альгамінскіх законаў, — сказаў Пай, — за антыдзяржаўную дзейнасьць — вы пажыцьцёва зьняволены. Згодны?

Трэці год я працую міністрам артылерыі ды жывапісу малога Альгаміна. На манэўры ежджу, выставы адчыняю... Ня вельмі хочацца распавядаць пра гэтую работу.

У першы дзень мае міністэрскае дзейнасьці прыйшло шмат віншаваньняў. Я ўсе іх павыкідаў. Пакінуў толькі адное. Вось яно:

“Сардэчна віншую з новаю пасадай. Посьпехаў у вайсковай ды мастацкай дзейнасьці.

Міністар унутраных справаў<br>Рэспублікі Хвен<br>А. Хударлей”.

Адзінае, на што я спадзяюся, — чарговы дзяржаўны пераварот. Але, як на злосьць, здаецца, гэтым разам трытон ільзістары да ўлады дарваліся надоўга.

А каб ня гэты малы Альгамін, я мог бы ўжо быць прэзыдэнтам фірмы!

*Так казаў Раман Рымар пасьля ўсяго, што зь ім здарылася.*

## Камэта

Званіцкі пабойваўся ваенкаматаў. Той набор у войска, які ён перажыў у 18 гадоў, пакінуў у душы глыбокі сьлед, і нават цяпер, калі, нібыта, баяцца не было чаго,

Званіцкі сьніў кашмарныя сны пра тое, што яго зноў "забрылі", і ён, 35-гадовы мужчына, прыбыў у нейкую частку й марна даказвае маладзёну-сяржанту, што тут нейкая памылка, што ён даўно "адпахаў" свае два гады, і што ніякім чынам ня можа лічыцца "салабонам". А сяржант адно крыва пасьміхаецца і не дае Званіцкаму веры, і па ўсім відаць, што давядзецца прайсьці цераз прыніжэньні ды ўсю мярзоту таго, што суха завецца пазастатутнымі адносінамі.

Званіцкі адслужыў 15 гадоў таму. Цераз год пасьля вяртаньня яго "цёпленькім" узялі а 6-й раніцы, прымусілі падпісаць нейкую позву, і Званіцкі загрымеў на зборы (25 дзён). Гэтыя зборы зблыталі ўсе ягоныя тагачасныя пляны. Зноўку яго пастрыглі, зноўку надзелі на яго пачварныя ваенныя шмоткі, і ён доўгія чатыры тыдні займаўся нікому не патрэбнай і брыдкай сабе самому працай — перакладаў на сховішчах розныя біклагі й плашч-палаткі ды маляваў мужных, з квадратнымі амэрыканізаванымі сківіцамі, вайскоўцаў для падняцьця баявога духу асабовага саставу й для ўпрыгажэньня вайсковае часткі.



Пасьля гэтага стрэсу Званіцкі паставіўся радыкальна да вырашэньня пытаньня: ён выкінуў вайсковы білет, зьмяніў месца жыхарства, звольніўся з работы й пачаў займацца выпадковай працай. Грошай было нават болей, чымсьці на ягоным былым прадпрыемстве, што сутаргава білася ў абдымках крызісу. Ды й вайскоўцы цяпер наўрад ці знайшлі б яго. Прынамсі, за 15 гадоў гэткага жыцьця, ваенкаматы Званіцкага не турбавалі.

А цяпер ён сам ішоў у ваенкамат.

"Калі я не аднаўлю гэты вайсковы білет цяпер, я не аднаўлю яго ніколі. Калі я не аднаўлю яго ніколі, я не паступлю ў аўташколу. Калі я туды не паступлю, я ня буду кіраваць машынаю. Тады я заўсёды буду езьдзіць у перапоўненых аўтобусах і ў вечаровым мэтро, дзе ў вагонах тхне перагарам, нібыта там разьлілі гарэлку.

Гэтак я буду езьдзіць шмат гадоў, аж пакуль мне не пачнуць саступаць месца”.

Такімі словамі Званіцкі гнаў сябе ў ваенкамат. І прыгнаў.

У дзяжурцы сядзеў маёр. Ён насьцярожана паглядзеў на Званіцкага.

“Кантужаны”, — вылічыў Званіцкі.

— Што вы хотите? — запытаўся кантужаны маёр.

— Мне б аднавіць ваенны білет. Ну... Новы ваенны білет зрабіць...

— В 2 часа кончается обед. Подойдите в кабинет № 1, — насьцярожана парэкамэндаваў маёр.

На чорным дэрмаціне дзьвярэй габінэту нумар адзін вісела шыльда “Начальнік транспартнага аддзяленьня”.

“Дзіўнавата, — падумаў Званіцкі. — Як гэта стасуецца з афармленьнем білету?”



Але таямнічыя вайсковыя паралелі заўсёды былі яму малазразумелыя. Так што ён ня ўгледзеў у гэтым нічога ненармальнага.

Званіцкі выйшаў з драўлянага ваенкаматаўскага будынку. На лаўцы сядзелі супрацоўніцы й гаманілі. Званіцкі прыслухаўся.

— І, карацей, рабёнак іхны — інвалід дзецтва. Бо дзіцё гэтае, як было малое, дык яго ўранілі са стала, як пелянаналі.

— Аёй, аёй, — заперажывалі дамы.

На лаўцы побач сядзеў хлопец прызыўнога ўзросту. Ён мэтанакіравана чысьціў сваю скураную куртку. Лавы так даўно былі пафарбаваныя, што блакітная алейная фарба ад сонца й вады перасохла й пачала пэцкацца, нібы крэйда. Ваенкаматаўкі дык падсьцялілі сабе газэткі, а прызыўніка не папярэдзілі. І цяпер ён утрапёна чысьціў куртку, бо ягоная юнацкая годнасьць не дазваляла яму хадзіць зьлёгку запэцканым у пыльна-блакітны колер лавы.

Камэта набліжалася. Яна, нібыта на злосьць навукоўцам і вылічальнай тэхніцы, ішла па зусім іншай, не разьлічанай кампутарамі траекторыі.



Прэзыдэнт ЗША, каб прадухіліць паніку, выступіў на першым дзяржаўным канале, маўляў, сутыкненьня ня будзе, лёгкае адхіленьне камэты ад вылічанае траекторыі таксама вылічанае, сытуацыя цалкам кантралюецца.

І ўсё роўна хваляваньні працягваліся.

— Колькі зараз часу? — запытаўся Званіцкі ў ваенкаматавак.

— На маіх два, — адказала самая тоўстая.

Званіцкі зайшоў у ваенкамат. Дзяжурны маёр прыўзьняўся з крэсла.

— Во второй кабинет. Вам во второй. Во второй, — амаль істэрычна паўтараў ён.

Званіцкі зразумеў, што з транспартным аддзяленьнем усё ж-ткі маёр памыліўся (кантузія), а цяпер выпраўляе памылку.

Званіцкі тарганууў дзьверы другога габінэту. Замкнёна. Малады чалавек прызыўнога ўзросту зайшоў у ваенкамат і адразу накіраваўся да люстэрка й паспрабаваў паглядзець на сябе ззаду — ці адчысьціўся? Потым падышоў да дзьвярэй, абабітых брунатным дэрмацінам, тарганууў клямку. Таксама зачынена. Прызыўнік пачакаў з тры хвіліны, потым завярнууўся й пайшоў.

“Потым скажа, што прыходзіў а другой, а нікога не было, — здагадаўся Званіцкі. — Хоць якая, а адтэрміноўка”.

Літаральна пасьля гэтае думкі Званіцкага ў ваенкамат зайшла суворая дама з квадратным чырвоным тварам.

— Вы — по повестке? — спыталася ў Званіцкага.

— Не, я ў габінэт № 2, — азваўся ён.

— А кроме вас никто не приходил?

— Прыходзіў нейкі малады чалавек, але толькі што пайшоў. Відаць, ня меў багата часу.

Дама зь непрыхаванай прыкрасьцю адчыніла замок, зайшла да сябе й бразнула дзьвярыма.

“Упусьціла птушачку, — падумаў Званіцкі. — Так табе й трэба, пацучыха”.

Зайшлі кабеты, што раней сядзелі на лаве.

— Дык а чаго вы не заходзіце? — запыталася ў Званіцкага тая, што распавядала пра інваліда дзяцінства. — Чаго вы стаіця? Вы па якім вапросе?

— Ваенны білет хачу зрабіць.

— Ну дык у другую комнату прахадзіця.

— А там зачынена.

— Нічога там не зачынена. Вы пастукайця.

Званіцкі пастукаўся.

— Так было ж открыто, — пачуў з габінэту.

Неўзабаве дзьверы адчыніліся, патыхнула сьвежаразьліванай гарэлкай. З габінэту выйшаў тоўсты капітан і, не зважаючы на Званіцкага, зьнік у нетрах камісарыяту. Другім з габінэту выйшаў востратвары маёр.

— Тебе што надо? — некультурна пацікавіўся ён.

— Мне — ваенны білет.

— А што, у тебя его нет?

— Быў. Укралі.

— Паспорт есть? Дай сюда. Подожди. Постой тут.

Маёр пайшоў недзе ў ваенкаматаўскія памяшканьні.

Званіцкі падумаў, што вось зараз яму ня вернуць пашпарт, пакінуць яго тут, накіруюць на зборы, альбо ў якасьці пакараньня прымусяць разносіць позвы, ці капаць “ад забора да абеда”.

Камэта набліжалася. Цяпер ужо ўсе разумелі, што сутыкненьня не пазьбегнуць. Мільёны людзей маліліся за ўратаваньне душаў сваіх. Вялікая колькасьць скончала жыцьцё самагубствам. Швэдзкія астраномы ўсё яшчэ спрабавалі пралічыць траекторыю камэты, каб хаця ведаць найбольш небясьпечныя рэгіены й пачаць эвакуацыю. Хаця камэта паводзіла сябе, як жывы арганізм, які падпарадкоўваецца ня толькі аб’ектыўным прыродным законам, але й сваім капрызам і памкнень-

ням. У Беларусі ў мэтах перадухіленьня панікі сярод насельніцтва працаваў адно дзяржаўны тэлеканал, хаця чуткі прапаўзалі праз замежныя радыё й расейскі друк. Народ рэагаваў стрымана.

— Ну-ка, зайдите в шестой, — пачуў Званіцкі голас маёра.



У шостым тоўстая дама корпалася ў архівах.

— Вы, наверно, не у нас закреплены, — сказаў маёр.

— У вас, — адказаў Званіцкі. — Мяне ад вас забіралі.

— Не забирали, а призывали. Если бы вас от нас призывали, вы бы были у нас тут, в картотеке, а вас нет.

— Не магу найсьці, — сказала дама. — Ано ж ня можа згубіцца.

Маёр зірнуў у пашпарт Званіцкага.

— Посмотри ещё раз. На "э". Эвоницкий.

— Якое "э"?! Я — Званіцкі. Якое "э"?

— Тихо, тихо. А-а, это я плохо посмотрел. В этих новых паспортах оно похоже — "з", "э".

— Так там жа ёсьць па-рускі, — сказала дама. — А ты, відаць, па-англійскі глядзеў.

— А-а, тут хрен разберёшься, — падвёў рысу маёр. — Ладно. Пошли во второй.

У другім Званіцкага прымусілі запаўняць паперу, што, маўляў, ён згубіў вайсковы білет №..., а таксама маёр перапісаў ягоную новую адрэсу, тэлефон, карацей, зноўку Званіцкі займеў залежнасьць ад груваcткае вайсковае машыны гэтае дзяржавы.

— Теперь так, — сказаў маёр, — вы идёте в милицию своего раёна. И берёте там справку. Что билет с номером ... не найден. Потом идёте в газету. И пишете объявление, что билет №... прошу считать недействительным. Приносите мне квитанцию или вырезку с газеты. И справку с милиции. И тогда уже мы будем ду-

мать, как вас наказывать.

“І вось няма як адказаць, — падумаў Званіцкі. — Ён жа ж адчувае, што мне гэты білет патрэбны. А чаго б іначай я пацёгся яго аднаўляць”.

— Ну что, всё ясно? — запытаў маёр.

“Ты б яшчэ дадаў “таварыш салдат”, — падумаў Званіцкі.

— Я спрашиваю, всё ясно?

— Да пайшоў ты, казёл, — са зьдзіўленьнем пачуў свае словы Званіцкі. — І ты, і твой ваенкамат, і ўсё тваё гаўнянае войска.



Як паперу, прабіла камэта шыфэрны дах ваенкамату. У адно імгненьне на месцы ваенкамату, раёну, гораду паўстала сьцяна вагню. Дамы падалі, як пясочныя. Зямля скранулася зь месца й памяняла траекторыю. Пачаліся масавыя пажары й затапленьні. Большая частка насельніцтва загінула. Тыя, што выжылі, вымушаныя былі прыстасоўвацца да новых кліматычных, тэмпэратурных умоваў і адсутнасьці камунікацыяў і выгодаў. Большасьць так і ня здолела прыстасавацца. Новая эра спусьцілася на Зямлю. Наступныя ваенкаматы зьявяцца тут не раней, чымсьці праз тысячу гадоў.

## Новая кватэра Казімера



Гэта была зусім ціхая, нават для нашага няшумнага гораду, вулка. Паблізу не было заводаў, фабрык, тут ня езьдзілі тралейбусы, якія скуголяць, аўтобусы, якія дымяць, ды трамваі, якія ў нашым горадзе амаль усе пэнсійнага ўзросту, таму, калі едуць, скардзяцца на жыцьцё, квохчуць, корхаюць, перхаюць — як боль-

шасьць пэнсіянэраў. Адно што праедзе якаясь міліцыянцкая машына раз на паўгадзіны (ды й тое таму, што побач аддзяленьне міліцыі). А звычайныя кіроўцы гэтую вуліцу папросту ня ведалі — неяк яна ўдала схавалася, быццам бы ў самым цэнтры гораду й быццам бы ў іншым вымярэньні.

Дамы тут старыя, двухпавярховыя. Дрэвы таксама старыя, значна вышэйшыя за дамы.

Вось я й кажу: гэткая вуліца — сапраўдная знаходка ў наш час. Таму, калі Казімер атрымаў тут кватэру, усе ягоныя сябры вельмі ўзрадаваліся. Узрадаваліся за Казімера, а яшчэ таму, што можна будзе зайсьці ў госьці ў гэтую старую кватэру ў старым доме на старой ціхай вуліцы, якую мала хто ведае, якую не знайсьці на мапе гораду сярод праспэктаў, бульвараў, паркаў, сквэраў ды вялікіх, забудаваных 16-павярховымі дамамі, вуліцаў імя герояў айчыннай вайны.

І Казімер быў вельмі задаволены. Ён быў задаволены ды ўдзячны, калі сябры дапамагалі яму рабіць рамонт — кожнага дню яны разам з Казімерам зьдзіралі старыя шпалеры, клеілі новыя, тынкавалі сьцены, шпаклявалі й фарбавалі падлогу...

І вось аднойчы рамонт скончыўся. І ўсе ўбачылі новую кватэру Казімера — утульную, сьветлую, цёплую... За вокнамі — лета. Шапочуць дрэвы, гуляюць у клеткі дзяўчынкі, сядзяць на лаўках старыя. Карцінка, нібыта, ня з гэтага часу. Адно толькі парушаюць гармонію міліцыянцкія машыны, якія курсуюць з пастарунку ды ў пастарунак.

— Я мяркую, трэба адзначыць гэтую справу, — заўважыў Казімер, і сябры ажыўлена пагадзіліся.

Яны схадзілі ў краму й прынесьлі гарэлку, кілбасу, сала, хлеб, агуркі, кетчуп, маянэз. І пачалі адзначаць сьвята новае кватэры Казімера.

— Я хачу выпіць, — сказаў Алесь, — за гэты дом, за гэты раён, за гэтую кватэру. Я хачу выпіць за тое, каб неўзабаве ўсе мы мелі гэткія кватэры, бо ўсе мы падобныя, у нас адныя памкненьні, жыцьцёвыя мэты й прын-

цыпы. Вось за што я хачу выпіць.

І выпіў. І ўсе выпілі.

І гэтак яны доўга выпівалі за ўсё добрае ў нашым жыцьці. А потым працягвалі выпіваць ужо бяз тостаў, але з доўгімі шчырымі размовамі.

— Што нас трымае ў гэтым жыцьці? — казаў Алесю Зьміцер. — Тое, што мы разам. Вось бачыш, сёньня трэба было дапамагчы Казімеру, — дапамаглі. А калі заўтра табе спатрэбіцца дапамога, зьбярэмся й дапаможам. Таму што вось такія мы людзі — ня можам, каб не дапамагаць адзін аднойму.

— А як жа яшчэ жыць? — адказваў Зьміцер. — Паасобку мы згубімся ў гэтым варожым нам горадзе. Сярод гэтых брутальных выпівохаў, якія шторанак сустракаюцца ля піўнога шапіку й нават зімою ў 20-градусны мароз п'юць з былых у карыстаньні слоікаў разьведзенае піва. Сярод гэтых магазінных прадаўшчыцаў ды прадаўцоў, якія пачуваюцца гаспадарамі гораду, а ты для іх — дробная перашкода на шляху да ўласнага ўзбагачэньня. Сярод гэтых паголеных маладзёнаў, прасякнутых турэмнай рамантыкай. Сярод гэтых паўсюдных блатных песьняў. Сярод... Ды што казаць... Ты сам усё ведаеш.

І яны выпілі.



А Хрысьціна слухала ўсё гэта, сама час ад часу ўплішчвала важкае слова, выпівала ня меней ды ня болей за ўсіх і краем вока назірала за Францішкам.

А Францішак быў непаўторны — ён жартаваў, дэклямаваў вершы, размаўляў на розныя галасы, распавядаў показкі — быў цэнтрам увагі для тых, хто не захапіўся, як Зьміцер ды Алесь, шчырымі сяброўскімі размовамі.

І толькі Віталь вылучаўся з агульнае вясёлае кампаніі. Ён браў удзел у агульных размовах, спрабаваў жартаваць, падтрымліваць гутарку. І, тым ня меней, вылучаўся. Ён ня піў. Ён кінуў піць з год таму, калі пачаў рэгулярна наведваць царкву.

— А я прапаную выпіць за тое, — гучна пачаў Францішак, — што ў гэтым брутальным горадзе яшчэ засталіся людзі, зь якімі можна пагаварыць. Людзі, якія адчуваюць адно аднаго на ўзроўні падсьвядомасьці, якім ніколі ня трэба нічога тлумачыць. Для нашае зямлі й для цяперашняга часу гэта настолькі рэдкая зьява, што я папросту шчасьлівы... Кажу абсалютна шчыра.

І ўсе выпілі.

Хрысьціна паглядзела краем вока на прыгожую Францішкаву постаць, што ўзвышалася над сталом і выпіла за Францішка. І, крышачку — адсоткаў 20 — за сябе.

Адзначалі заканчэньне рамонту доўга. Гэта былі сур’ёзныя людзі. Напачатку яны сур’ёзна папрацавалі, потым сур’ёзна — не адзін дзень — адзначалі. Усё як мае быць.

Але аднаго ранку ўсе прачнуліся й зразумелі: годзе сьвяткаваць. На дварэ — будзённы дзень, пахне восеньню. У адчыненую фортку залятае халаднаваты верасьнёўскі ветрык і пажоўклыя зморшчаныя лісты.

— Здаецца, яшчэ ўчора было лета, — заўважыў Алесь.

— Здаецца... — нібы рэха, адгукнуўся Францішак. Ён не жартаваў, не дэклямаваў вершы, не размаўляў на розныя галасы (Францішак меў талент парадыста й часта дэманстраваў яго ў вясёлай кампаніі). Ён пачуваўся кепскавата й хацеў дадому.

— Вось і скончыліся сьвяты, — сканстатавала Хрысьціна. — Трэба вяртацца ў звыклыя шэрыя будні. У наш няўтульны горад.

Яны павольна, панура сабраліся. Казімер вырашыў правесьці сяброў да прыпынку.

Яны выйшлі на ганак, зайшлі за рог дому, пашыбавалі па ціхай жоўтай восеньскай вуліцы й раптам аслупянелі.

На тым мейсцы, дзе яшчэ нядаўна, прынамсі, да пачатку сьвяткаваньня, туліўся сярод высокіх дрэваў міліцыянцкі пастарунак, цяпер узьнесься да самых нябёсаў

велізарнейшы сьпічасты будынак.

— Што гэта? — разгублена пераводзіла вочы з твару на твар сваіх сяброў Хрысьціна.



— А я ўсё думаю, чаму гэта мянтоўскія машыны перасталі езьдзіць па вуліцы, — недарэчы заўважыў Зьміцер.

Болей за ўсё будынак нагадваў нейкі храм. Не каталіцкі, не праваслаўны. Нейкі храм невядомае рэлігіі, пабудаваны сьмела й сучасна. Да ўваходу вяла высокая лесьвіца. Са шматлікіх, невялікіх па памеры, вокнаў, праменіла сьвятло. Каб убачыць сьпічастую вяршыню храму, трэба было адкінуць галаву так, як мы адкідаем яе, калі глядзім на зорнае неба.

— Хлопцы-дзеўкі, тут нешта ня тое, — занепакоена сказаў Віталь. За такі кароткі тэрмін немажліва пабудаваць гэткую гаргару. Хадземце адсюль хутчэй, я адчуваю небясьпеку.

— Пачакайце, а што гэта за пабудова? Якое ейнае прызначэньне? — зацікаўлена запытаўся Алесь.

— Падобна да нейкага храму, — азваўся Францішак.

— Хадземце адсюль хутчэй, — цьвердзіў Віталь. — Які гэта храм, крыжа няма, на вежы нейкі незразумелы сымболь. Я вам кажу — туды заходзіць небясьпечна!

Але Казімер, Алесь, Зьміцер, Віталь ды Хрысьціна пацягнуліся да ўваходу ў храм. Віталь ішоў апошні ды ўвесь час гаварыў пра небясьпеку, пра тое, што варта спачатку даведацца пра гэты будынак, што гэта наогул такое, а тады ўжо рабіць гэткія экскурсіі, і ўсё адно гэта вельмі небясьпечна, невядома, як паўзьдзейнічае гэты невядомы культ на псыхіку...

Кампанія зайшла ў шырокую браму й апынулася ў прасторным сьветлым памяшканьні.

Тут нікога не было. Усё выдавала на касьцёл, толькі бяз лаваў, абразоў, крыжоў...

У цэнтры залі знаходзілася зноўткі лесьвіца. Яна



вяла кудысьці ўгару.

— Хадзем, — сказаў Алесь і пачаў падымацца. Усе пакрочылі за ім. Віталь змоўк.

Ён глядзеў на парэнчы — тая паверхня, па якой звычайна вядзецца рукою, складалася з маленькіх карцінак-выявак. Кожная выяўка штосьці абазначала. Тут былі абсалютна розныя карцінкі — маленькія партрэцікі, краявіды, сымбалі... Лесьвіца была доўгая й, здавалася, гэтыя выявы бясконцыя — партрэт пахмурага чалавека сярэднявечча ў жабо, нейкая абстрактная кубістычная карцінка, потым — падазроны (відаць, кабалістычны!) сымболь, і гэтак далей і далей, бясконца. Віталь хацеў зьвярнуць увагу сяброў на гэтыя дзіўныя парэнчы, але ўсе маўчалі, і яму раптам таксама перахацелася размаўляць. Яны ўздымаліся вышэй і вышэй і раптам апынуліся на шырокай круглай пляцоўцы. Тут было вельмі сьветла. Можна было паглядзець з вышыні на горад — жоўты сумны восеньскі горад, маленькія дамкі, дахі, вежкі, машынкі, што паўзуць па вузкіх вулках.

Калі гэта яны пасьпелі так высока падняцца?

І на гэтым паверсе не было людзей — толькі прыгожыя сьцены, якія нібыта выпраменьваюць сьвятло, і дзьверы ў гэтых сьценах.

“Як у кампутарнай гульні-стралялцы”, — падумаў Зьміцер.

Ніхто не пасьпеў нічога сказаць. Алесь адчыніў дзьверы й зайшоў унутр. Дзьверы зачыніліся.

Яны разгублена стаялі пасярод круглае залі. Віталь мусіў закрычаць, папярэдзіць, засьцерагчы... Але нейкі дзіўны спакой ахінуў яго. Размаўляць не хацелася.

Яны стаялі й маўчалі. Чакалі, пакуль выйдзе Алесь.

Алесь лацьвей прыстасаваў аўтамат. Мішэнь — чалавечая постаць у камуфляжным адзеньні — супала з мушкай. Алесь стрэліў. Два разы кароткімі чэргамі. Постаць упала.

— Зусім някепска, малады чалавек, — пахваліў гаспа-

дар. — Хочаце яшчэ пастраляць?

— Натуральна, хачу. Я наогул вельмі люблю страляць. І ўмею. Я калі служыў у войску, быў адным зь лепшых. У сэньсе страляніны. Падцягваўся кепска, а страляў лепей за ўсіх у роце. Я нават за гэта нейкія граматы маю, толькі ня памятаю, куды падзеў.

На полі ўзьнялася новая мішэнь — чалавек на матацыкле. Мішэнь павольна набліжалася. Алесь заваліў яе з другога стрэлу.

— Вы сапраўдны майстар, — зьдзіўлена вымавіў гаспадар ціру.

Алесь усьміхнуўся й перазарадзіў аўтамат.

Побач нешта выбухнула, Алеся абсыпала кавалкамі зямлі й дробнымі каменьчыкамі. Ён паглядзеў угару. У небе завіснуў чорны варожы самалёт. Алесь прыцэліўся й стрэліў. Выпусьціў некалькі доўгіх чэргаў. Самалёт задыміўся й грымнуўся вобзем за лесам. Пападалі сьсечаныя гарачымі аскепкамі дрэвы.



Алесь азірнуўся. Гаспадара ціру нідзе не было. Затое проста на яго па полі пер вялізны шэры танк. Грымнуў стрэл. Снарад выбухнуў непадалёк ад Алеся.

“Гэ-э, я гляджу, пачынаецца нешта сур'ёзнае”, — падумаў Алесь. Ён вырашыў ня лезьці з аўтаматам на танк, няма сэнсу. Азірнуўся. Ззаду, мэтраў за трыста — ручай. Проста за ім — бярозавы гай. Дабегчы да гаю — значыцца ўратавацца. “Дабягу”, — падумаў Алесь.

Танкіст выпусьціў некалькі кулямётных чэргаў. Не патрапіў.

“Мазіла”, — падумаў Алесь ды пабег.

Кароткімі перабежкамі — пагорак, хмызы, ляжаць! Выбух! Паскуда... Не зачапіла. Хмызы... самотны клён... падай! Чарга. Зноўку не патрапіў, мазіла.

Вось і гаёк. Можна падняцца. Мільгаюць дрэвы. Спыніся. Адпачні. Надыходзіць вечар. Калі будзе цёмна, трэба схадзіць у найбліжэйшую вёску па правіянт

ды запытацца, ці далёка нашыя.

— Пайду, пагляджу, што зь ім, — без інтанацыі, неяк манатонна вымавіў Франьцішак ды адчыніў дзьверы.

— Я з табою, — пасьпешліва сказала Хрысьціна.

Дзьверы мякка, бязгучна зачыніліся.

Яны стаялі на зялёным пагорку. Перад імі — дзіўнае прыгажосьці краявід — пагоркі, азёры, пагоркі, усё квітнее, рознакаляровыя кветкі сярод травы — нібыта мазаіка. Пяюць птушкі. Лётаюць вялікія вясёлкавыя мятлікі.



— Я ведаю, як называецца гэты мятлік, — раптам сказаў Франьцішак. — Ён называецца "махаон". Але ў нас ён не жыве. Ня той клімат.

— Значыцца, мы ня ў нас, — зь ніякаватай усьмешкай вымавіла Хрысьціна.

— Глядзі, вунь замак! — выцягнуў руку Франьцішак.

На вяршыні аднаго з пагоркаў сярод старых велізарных дубоў узвышаліся чырвоныя замкавыя муры.

— Пойдзем туды? — усё яшчэ няўпэўнена запытала Хрысьціна.

— Пойдзем. Спачатку пойдзем туды, потым пойдзем яшчэ некуды. Будзем хадзіць па гэтай краіне, пакуль не надакучыць. А нам жа наўрад ці надакучыць, ці ня так?

— Мне ніколі не надакучыць быць з табою разам, — ціха вымавіла Хрысьціна.

— І мне з табою вельмі добра, — прызнаўся Франьцішак. — У гэтым часе, у гэтай краіне. Болей нічога й нікога ня трэба. Я, ты, мятлікі, птушкі, кветкі, дарога сярод пагоркаў...

— А мне раней здавалася, што ты не зьвяртаеш на мяне ўвагі.

— На тое, што было раней, варта забыцца. У гэтае "раней" мы ўжо ня вернемся.

— Але, мы, напэўна, тут сустрэнем тое, пра што раней ня мелі ўяўленьня. Сустрэнем небясьпеку, сустрэ-

нем прыгоды, сустрэнем радасьць, смутак, боль і асалоду...

— І ўсё гэта мы сустрэнем разам — я й ты. Увесь гэты сьвет створаны для нас, хіба ты не зразумела? То хадзем у гэты сьвет, ён нас чакае.

І яны згубіліся сярод бясконцых стракатых пагоркаў.

Зьміцер нічога не сказаў. Ён папросту адчыніў дзьверы й ступіў насустрач невядомасьці. Віталь хацеў прыпыніць яго, пра нешта папярэдзіць... Але ягоныя рэакцыі прыкра запаволіліся, пакуль ён зьбіраўся з думкамі, шукаў правільную, пераканаўчую пабудову фразы, дзьверы за Зьмітром ужо замкнуліся.

— Блін, Бруклін, — вымавіў Зьміцер.

Машына мякка рушыла па гладкім асфальце. Быў восеньскі вечар, горад стракацеў рэклямнымі агнямі, весяліўся, піў кока-колу, тэкілу й віскі, жаваў жуйку, нюхаў какаін.



Зьміцер кепска ведаў дарогу. Праз хвілінаў 20 яго занесла ў нейкі брутальны раён, куды, відавочна, ня варта было сунуцца.

Зьміцер ліхаманкава шукаў на ўказальніках знаёмыя назовы — хоць які б Манхэтан ці Брадвэй...

Упоперак дарогі былі раскіданыя старыя пакрышкі, Праехаць было немажліва.

Зьміцер пачаў асьцярожна разварочвацца і краем вока ўбачыў дзьве цёмныя постаці. Яны набліжаліся да машыны.

Маладыя мурыны. Нахабная, у рытме гангста-рэпу, модная хада.

— Гэй, містэр, падкінь пару цэнтаў на колу, — зьявіўся ў адчыненым вакне машыны твар мурына. У вуху — тры дзіркі, цяжкія залатыя завушніцы. Вочы бяз выразу.

Самае кепскае, што Зьміцер заблытаўся ў развароце й спыніўся.

“Ну, усё, — падумаў ён. — Зараз будзем змагацца за

жыцьцё. Для гэтага чалавека забіць белага — усё адно, што прадаць порцыю крэка.

— Містэр, ты мяне не зразумеў? — запытаўся мурын.

У сьвятле вогнішча (дзьве пакрышкі гарэлі) блісну-ла нешта мэталёвае.

Зьміцер імгненна выхапіў зь кішэні рэвальвэр ды стрэліў проста ў твар маладому мурыну. Той раскінуў рукі ды зваліўся на старыя пакрышкі. Бакавое шкло зьміцеравага "Кадыляку" апырскалі кроплі крыві.

Зьміцер даў зь мейсца так, што завішчэлі шыны. Выратавальны інстынкт імгненна падказаў яму, у які бок ехаць. І празь нейкія 10 хвілінаў Зьміцер быў далёка ад чорных, сьмярдзючых, брудных бронксаўскіх трушчобаў. Ён кіраваў у прэстыжны раён, да свайго двухпавярховага маёнтку, да свае прыгажуні-жонкі й думаў пра тое, што заўтра на працу й трэба памыць шкло, выкінуць рэвальвэр, ды так выкінуць, каб немажліва было знайсьці, таму што, калі гэтая гісторыя выплыве, на кар'еру лепей забыцца.

— Пачакай мяне, — папрасіў Віталь. — Я дакладна вярнуся.

Казімер застаўся ў прыгожай круглай залі, а Віталь ступіў цераз парог.

Чорны каптур трэба было ўвесь час папраўляць, бо ён звальваўся на вочы й замінаў бачыць дарогу. А засталося ж няшмат. Некалькі кілямэтраў — і ён, нарэшце, прыйдзе ў свой родны манастыр, да сваіх братоў. Ён ім распавядзе пра сваё падарожжа. Пра тое, што ён бачыў у далёкай краіне, пра дзіўных людзей, што моляцца агню, пра страшных дзікуноў, што ядуць адно аднаго, пра дрэвы, вышэйшыя за нашыя храмы, пра зьвяроў, якіх, як яны думалі раней, можа нарадзіць хіба што хворая фантазія апантанага нячысьцікам...



Колькі чаравікаў сьцерлася за час падарожжа, ды й рыза ўся ў дзірках. Але гэта не дарэмна. Мы створаныя, каб удасканальвацца, каб спазнаваць сябе й навакольны сьвет. Я напішу кнігу, хай на гэта пойдуць гады. Я напішу кнігу й дам людзям новыя веды.

Вось адсюль манастыр мусіць быць добра бачны. Трэба папаравіць каптур.

Чамусьці не відаць яго. Не відаць высокіх белых, колеру чысьціні, сьценаў. Не відаць купалоў з крыжамі. Відаць адно дымныя руіны. Відаць крумкачоў, што зьляцеліся на крывавы баль.

Алесь укленчыў ды пачаў маліцца.

Ён ня бачыў, як зь лесу выехаў атрад запароскіх казакаў ды рушыў проста на яго.

Казімеру здалося, што чакае ён ужо ледзьве ня месяц. Урэшце ён адчыніў дзьверы ды з парогу азірнуў пакой. Нічога цікавага. Звычайны пакой. Офісная мэбля. Кампутар на стале. Цішыня.

Казімер паволі спусьціўся па доўгай лесьвіцы. Людзей нідзе не было. І наогул увесь інтэр'ер храму (калі гэта храм) зрабіўся нейкі бляклы. Нібыта ў храме (калі гэта храм) надышла шарая гадзіна.

Казімер выйшаў. Удыхнуў на поўныя грудзі паветра. Захацелася есьці.

“Лішне казаць, захочацца тут, — падумаў Казімер. — Колькі я там пратырчэў!”

Балазе, ягоны дом недалёка, зусім побач.

Казімер доўга калупаўся ключом у замку. Поркаўся, поркаўся... Замок ня слухаўся. Раптам дзьверы адчыніліся, і на парозе ўласнае кватэры Казімер убачыў нейкага мужчыну сярэдняга ўзросту ў дарагім гарнітуры й залатых акулярах на носе.

— Што вам тут трэба, малады чалавек? — запытаўся мужчына ў гарнітуры.

— Як гэта “што”? — абурыўся Казімер. — Гэта мая кватэра.

— Малады чалавек, я вам раю закусваць, калі выпіваеце, — усьміхнуўся тып у гарнітуры. — Гэта не кватэра, а офіс юрыдычнае фірмы.

— Як мінімум, учора тут была мая кватэра, — настойваў Казімер.

— І ўчора, і заўчора, і год назад тут была юрыдычная фірма, — сказаў чалавек у гарнітуры. Па ягоным тоне Казімер зразумеў: жартаваць зь ім ня будуць.

— Прабачце, — мармытнуў ён і выйшаў з пад'езду, да якога за нядоўгі час свайго існаваньня ў гэтай кватэры пасьпеў прызвычаіцца й нават пранікнуцца цёплымі пачуцьцямі.

Казімер выйшаў на ціхую вуліцу, якую ведаў рэдкі кіровец. Якую не знайсьці на мапе сярод праспэктаў імя герояў вайны.

Па супрацьлеглым баку вуліцы шумна крочыла кампанія п'яных падлеткаў. Дыміла труба раённае ЦЭЦ. Прагрукатаў трамвай і спыніўся акурат перад Казімерам. Дзьверы зачыніліся, трамвай рушыў далей па сваім маршруце. З-за рога дому вызірнула тупая рудая пыса старога "Ікаруса".



Заімжэла. Казімер натапырыў каўнер ды накіраваўся да піўнога шапіку, дзе два хваравітыя мужчыны няпэўнага ўзросту пасмоктвалі з паўлітровых слоікаў ранішні напой.

## Папарацць-кветка

Мар'ян Адольфавіч спускаўся ў ліфце. Побач паскугольваў ягоны (хутчэй жончын, чымся ягоны) сабака Рэй, малады баксэр. Мар'ян Адольфавіч з паўгадзінкі як вярнуўся са сваёй абрыдлай працы. Дзяржаўнае радыё, сельская гаспадарка, руцінная работа канчаткова ўжо задзяўблі нашага героя. У свае 40 ён ду-

маў адно пра тое, каб хутчэй праляцелі гады, каб ён апынуўся на пэнсіі, жыў бы на лецішчы, у горад наяжджаў па правіянт ды насеньне. А тут, у гэтай кватэры, хай бы жылі ягоныя жонка з дачкой. Кватэру яны атрымалі 15 гадоў таму. Добры раён, цэнтар, праспэкт... Нібыта й любіў ён гэтую хату дый прызвычаіўся да яе за доўгія гады, але так ужо дастала яго пастарэлая жонка сваімі штогадзіннымі патрабаваньнямі й прэтэнзіямі, дый ейная (нібыта не ягоная) дачка, ва ўсім салідарная са сваёй мамаю, што Мар’ян Адольфавіч гатовы быў кінуць усё ў той самы момант, як толькі надарылася б мажлівасьць. Якая мажлівасьць? Пэнсія, вось якая. Іншых варыянтаў Мар’ян Адольфавіч не ўяўляў. Бо ягонае жыцьцё было падпарадкаванае штодзённай схеме, і гэтая схема не дазваляла, напрыклад, закахацца ў маладзенькую супрацоўніцу ці займець адзюльтэр з гаспадыняй радыйнае сталоўкі Аняй і цераз гэтую акалічнасьць кінуць сям’ю. Абрыдлая праца ўсё ж прыносіла нейкія грошы і нібыта прывеліяванае мейсца ў мясцовай герархіі — супрацоўнік дзяржаўнага радыё.

З работы ён прыйшоў на падпітку. Не, ня дужа п’яны, зьлёгку падпіты. Гэта было ягоным нармальным станам. Бо хадзіць па звыклых да болю радыйных калідорах штодня, пісаць нейкія быццам бы праблемныя матар’ялы, асьвятляць жыцьцё беларускіх калгасаў, палеткаў і садоў безь дзяжурных 150-ці ў абед і 100 пасьля працы не ўяўлялася магчымым. Мар’ян разумеў, што гэта просты шлях да алкагалізму, але, маўляў, лёс склаўся так... ну, ня мог ён сабе адмовіць у гэтым штодзённым допінгу, дзякуючы якому ягоны твар азызнуў, вочы займелі гэткі “стомлены ад жыцьця” выраз, дый, зрэшты, такіх, як ён, ціхіх выпівохаў, было там, на гэтай працы, болей за палову. Звычайная практыка.

І вось ён выйшаў зь дзьвярэй пад’езду й пашыбаваў у невялікі, але досыць прыгожы парк. Там усе выгульвалі сваіх сабакаў, моладзь расьпівала піва, наладжвалі спатканьні парачкі. Яшчэ ніжэй парк пераходзіў у недагледжаныя густыя зарасьці, і Мар’ян Адольфавіч

любіў шпацыраваць з сабачкам якраз там, пры сажалцы, дзе было цемнавата, змрочна й бязьлюдна. Час ад часу ён сустракаў там свайго суседа Рыгора, высокага магутнага мужчыну сярэдняга веку. Рыгор ранкам і ўвечары рабіў прабежкі, а потым займаўся на спартовых снарадах. Сваім магутным круглым азадкам гэты здаровы мужчына нагадваў Мар'яну Адольфавічу ягонага вайсковага сяржанта — як той стаяў перад шэрагам — "раньсьсьмірна!" — і здавалася, што ягонае х/б зараз лясьне па швох.



Толькі Мар'ян Адольфавіч падумаў пра Рыгора, як груваcтая фігура ўзьнікла з-за дрэваў. Рыгор працаваў інструктарам у нейкай ахоўнай канторы, штодня займаўся, каб ня страціць форму, меў здаровы колер твару, адначасова ўпэўненыя й неразумныя вочы, моцна разьвітыя надбрыўныя выгбы і ваяўнічыя кавалерыйскія вусы.

Параўняўшыся з Мар'янам Адольфавічам, Рыгор, каб не спыняцца, не губляць тэмпу, бег на мейсцы.

— Здароў, Мар'ян.

— Прывітаньне, — Мар'ян Адольфавіч не любіў гутарыць з Рыгорам, надта той быў "дубовы", — так сам сабе называў яго журналіст, дый размовы ўсе былі аднолькавыя, як і цяперашняя:

— Как дзяла? — бадзёра, бегучы на мейсцы, спытаўся Рыгор.

— Ды што ў мяне можа зьмяніцца... Як заўжды.

— Ты, кстаці, Адольфавіч, напрасна п'ёш кожны дзень, — заўважыў Рыгор. — Так і сьпіцца можна. У мяне вот быў как-та пярыяд, як мяне ўволілі з арміі, дык тожа піў сільна. Так узяў жаж сябе ў рукі. Чаго і цябе жылаю, — ён недарэчы зарагатаў.

— Ды колькі я там выпіў, — паморшчыўся Мар'ян. — Шклянку якую...

— Шклянку сёньня, шклянку заўтра, глядзіш — і ўжо

алькаголік. Не, праўда, завязвай, сасед, начынай спортам занімацца. Бяры прымер зь мяне! — Рыгор зноўку зарагатаў.

— А што яшчэ рабіць, — звыкла пачаў наракаць на лёс Мар'ян Адольфавіч. — Нудна ўсё, абрыдла, дзень у дзень адно і тое ж.

— А патаму што не паставіў ты сабе цэлі ў жызьні, — ужо зусім сур'ёзна сказаў Рыгор. — І вот усе вы так. Няма к чаму страміцца вам, вот у чом уся бяда.

— А ты да чаго ймкнесься?

— Ну как да чаго? Вот стану дзепутатам, задам жару гэтым усім прахіндзеям!

— Якім? — панура запытаў Мар'ян.

— Ну, гэтым, што акапаліся ў правіцельстве. Мне б тока туды дабрацца. Усё бы перакраіў. Аны ж там нічога ня слышаць, ня знаюць. Сядзяць там па дзесяць лет. Ужо так далякі ад народа, як мы да Луны.

— Ай, зноў ты гэтую сваю песьню завёў, — забурчэў Мар'ян. — Надакучыла ўжо. Хто цябе туды возьме! Забудзься ты на гэта. Дый адукацыя ў цябе, сам ведаеш якая...

— Дык што з таго! Адукацыя! Зато я талантлівы і жыву чаяніямі нашага народа, а ня лічнай выгадай. І вот увідзіш, Мар'ян, кагда-нібудзь я стану прэзідзентам! А ты есьлі не паставіш сабе высокую цэль, то сап'ёсься, вот увідзіш! Давай! — і Рыгор рвануў па зарослай сьцяжыне, сьвецячы сваім магутным сяржанцкім азадкам.

"Вар'ят," — звыкла й стомлена падумаў Мар'ян Адольфавіч і паглыбіўся ў зарасьці. Сабачка Рэй панюхаў камель дрэва, незадаволена чхнуў і падняў нагу.

Тут расла папараць. "Напэўна, гэта адзінае мейсца ў горадзе, дзе яна расьце," — думаў Мар'ян, дэманструючы максымалізм падпітага чалавека (у горадзе яшчэ было некалькі паркаў, лесапаркаў і сквэраў, дзе папараць спакойненька сабе расла з году ў год). Ідучы па зарасьцях папараці,



Мар'ян Адольфавіч уявіў сябе за горадам, у лесе... Недзе побач — Мар'янаў добраўпарадкаваны катэдж, дзе ёсьць усё неабходнае для жыцьця, а цяпер ён выйшаў у грыбы, не, не ў грыбы, проста прайсьціся, падыхаць чароўным лясным водарам... Стоп! Што гэта за халера?!

Пасярод зарасьцяў папараці пунсавела вялікая, большая за вялікую ружу, выцягнутая кветка! Мар'ян кінуўся да яе, уважліва агледзеў сьцябло. Так, гэта, безумоўна зацьвіла папараць. Але яна ня мусіць цьвісьці! І тут да Мар'яна дайшло: ён знайшоў Папараць-кветку!

У мазгах ліхаманкава зьмяняліся словы, вобразы, урыўкі з прачытанае калісьці літаратуры. "Шчасьце, радасьць, любое жаданьне, як Залатая рыбка... Але як жадаць? Казаць услых ці пра сябе? І колькі жаданьняў выканае? Ці проста занесьці дадому, паставіць у ваду? Ці адкапаць з коранем, перасадзіць дома ў гаршчок? А жонка, дурніца гэтая? Не, дадому калі несьці, дык схаваць, каб ніхто не знайшоў. І ўсё ж-ткі, як жадаць? Як фармуляваць тое, чаго ты хочаш? А чаго я хачу? Я хачу спакойнага жыцьця на прыродзе... Ці яшчэ парыпацца, нажадаць сабе грошай, улады? Каб гэты галоўны рэдактар і самы галоўны шэф прыніжаліся перада мною. Поўзалі на каленях... Во была б карцінка! Трэба падумаць. Ня трэба сьпяшацца".

Рэй падбег да кветкі, панюхаў яе, чхнуў, узвыў і кінуўся прэч.

"Разумее нешта", — падумаў Мар'ян.

Урэшце ён вырашыў нічога сёньня не рабіць, маўляў, усё адно малаверагодна, што да раніцы кветку знойдуць. А нараніцу ён пойдзе на шпацыр з Рэем і... і нешта прыдумае.



Уначы Мар'ян Адольфавіч ня спаў. Ён варочаўся й думаў. Розныя варыянты, як распарадзіцца сваім нечаканым шчасьцем, круціліся ў ягоных запаленых мазгах. Прыходзілі абсурдовыя, сьмелыя, нечаканыя думкі (кіну ўсё, паеду ў Канаду ці, можа, лепей

буду вандраваць, пагляджу на сьвет... А можа, замовіць сабе вечнае жыцьцё? Гледзячы, колькі жаданьняў... А як жа вызначыць колькасьць іхную? Усё адно, кветку трэба зрываць. Бо інакш дастанецца каму іншаму. Якому казлу. Ён так і ня здолеў заснуць, а сёмай (хацеў раней, але пабаяўся выклікаць падазрэньні ў жонкі) падняўся, узяў Рэя і, намагаючыся йсьці, як заўжды, нетаропка, пакіраваў у бок парку.

Вось і зарасьці. Папараць, папараць, папараць... Кветкі не было. Мейсца знаёмае, Мар'ян шпацыруе тут штодня, памылка выключаная. Кветка была тут. Яшчэ ўчора ўвечары. "Я спазьніўся, — агаломшана гучэла ў Мар'янавай галаве. — Як заўжды спазьніўся. Яшчэ ўчора я мог зрабіць са сваім лёсам усё, што пажадаю, а цяпер... чакай пэнсіі, небарака!"

Выпіў ён з раніцы. Парушыў свой кодэкс. Але гарэлка ня брала, усю сьвядомасьць запоўніла цёмна-шэрая бясконцая скруха. Мар'ян Адольфавіч панура цягаўся па калідорах радыё, зрэшты, ніхто не зважаў на яго, як і заўсёды.

— Мар'ян! — раптам пачуў ён.

Гэта крычаў ягоны галоўны са свайго габінэту. Мар'ян Адольфавіч мэлянхалічна й панура прасмактаўся ў дзьверы.

— Што трэба?

— Ты мне гэта кінь "што трэба"! — галоўны быў бадзёры, нават занадта. — Больше жізні, Мар'ян! Пойдзеш сёньня на заданьне.

— Якое яшчэ заданьне? — млява пацікавіўся Мар'ян Адольфавіч.

— Сёньня прэзыдэнт агучвае новую пастанову па сельскай гаспадарцы. Рэвалюцыйныя зьмены! Пойдзеш асьвятляць.

На стале ў галоўнага ляжала разгорнутая газэта. Загаловак нешта крычэў чырвонымі літарамі пра зьмену курсу, рэвалюцыйныя пераўтварэньні, жорсткі дзяржкантроль і іншую лухту. Пад крыклівай чырваньню зьзяў партрэт прэзыдэнта. Мар'ян пахіснуўся й ледзьве ня

грымнуўся долу. Падняўшы вочы, ён убачыў на сьцяне над галоўным рэдактарам такі ж самы партрэт у залатой рамачцы — шырокія плечы, ваяўнічыя кавалерыйскія вусы, знаёмы ўпэўнены й неразумны позірк з-пад магутных надбрыўных выгбаў...

"Дык вось каму ты дасталася!" — падумаў Мар'ян.

"Скорую, скорую!" — усё цішэй гучэла недзе побач, і Мар'яна захлынула сіне-чорная, з рэдкімі аранжавымі ўсплескамі, багна.

## Міларусь



Надоечы Кастусю прапанавалі паўдзельнічаць у працы Беларускага кангрэсу прагрэсіўных сілаў. Кастусь пагадзіўся. Ён старанна адпрасаваў (гэта каштавала намаганьняў, бо Кастусь прасаваў кепска, не было яму гэта дадзена й заўсёды займала шмат часу) свой набыты пасьля войска румынскі гарнітур. Хоць і апранаў яго рэдка, з нагоды дня нараджэньня ці сустрэчы выпускнікоў, але выглядаў ён нейк нясьвежа. Кастусь прасаваў, нэрваваўся, а маці раз-пораз заводзіла сваю пастылую песьню:

— Табе ўжо за трыццаць, а ты ўсё бегаеш-носісься. Вот куда ты сабраўся січас? Я знаю, куда. На еты свой кангрэс. А каму ад яго польза? Нікаму. Адна балталогія. Пасадзяць цябе, Косьця, за етую нікаму ня нужную балталогію.

Маці гаварыла, а ейны малаасэнсаваны позірк нагадваў Кастусю погляд птушкі.

— Успакойся, — звыкла паўтараў напружаны Кастусь, а маці ўсё гаварыла й гаварыла, і ейны голас ператвараўся (якім ужо разам) ў звыклае тло для ягонага жыцьця.

— ...я ў цібя спрашываю! Косьця! — раптам выплыла з шэрае каламутнае слоўнае плыні.

— Успакойся, — азваўся Кастусь і пацягнуўся ў свой

пакой апранацца.

Кангрэс адбываўся ў ДК управы работнікаў бытавое абслугі насельніцтва (УРБАН). Люду сабралося шмат. У акулярах, барадатыя, кудлатыя, мастакі, музыкі, спартоўцы, літаратары — усе былі тут. Кастусь зарэгістраваўся (давялося адстаяць немалую чаргу), атрымаў тэчку з матар'яламі кангрэсу і зайшоў у залю. Адразу ягоную ўвагу прыцягнуў транспарант над сцэнаю: "Продолжим курс на неуклонное повышение культуры обслуживания граждан!". Відаць, што гэты красамоўны транспарант прыцягнуў увагу ня толькі Кастуся, бо з залі даносіліся воклічы: "Прыбярыце гэтыя сатанінскія лёзунгі!", "Далоў антыбеларускую прапаганду!".



З трыбуны гучна гаварыў прамоўца.

— Нашай мастакоўскай фракцыі падаецца, што зараз праблема найбольш палягае ў тым рэчышчы, што нашая краіна мае няправільную назву. Гэтая назва — Беларусь — наклікае на наш край беды, і час прысьпеў яе зьмяніць.

— Нашто гэта?! Дурнота! — крычалі дэлегаты з залі, але прамоўца ад фракцыі мастакоў няўмольна працягваў:

— Зрэшты, трэба, каб новая назва ня рэзала слых сярэднестатыстычнаму жыхару нашага краю. Каб не была занадта адрознай ад папярэдняе. Таму мы прапануем кампрамісны варыянт, — ён зрабіў паўзу. — Наш варыянт — Міларусь. І гучыць падобна да папярэдняга, і корань мае аптымістычна-пяшчотны — "Міла". Калі дэлегаты зьезду падтрымаюць нас, мы зьвернемся з афіцыйнымі прапановамі ў дзяржаўныя структуры.



Тут нават самыя скептычныя й радыкальныя дэлегаты задумаліся. Карыстаючыся часовай цішаю да трыбуны прарваўся яшчэ адзін прамоўца.

— Наколькі правільна было пастаўленае пытаньне

шаноўнымі калегамі! — ухваліў ён. — Усе гавораць "палітыка-эканоміка", а справа палягае на тым, што назва няправільная. Калі яе памяняць, дык адпаведна й жыцьцё памяняецца. Як раней мы пра гэта ня думалі! І цяпер нашая фракцыя спартоўцаў прапануе сваю назву нашае краіны — Веларусь. Сапраўды, вельмі шмат насельнікаў вёсак і мястэчак езьдзяць на роварах, так бы мовіць, падтрымліваюць спартовую форму, а пасьля зьмены назвы колькі маладых бела... веларусаў сядуць на ровары й паедуць па прасторах нашага прыгожага краю! Веларусь — гэта здаровы лад жыцьця, гэта зьнікненьне п'янства й алькагалізму, гэта наша будучыня. Дзякую!

Заля загула. Нехта крычэў: "Гэта правакацыя!", хтосьці ажыўлена абмяркоўваў прапанову. Тады ажывіўся вядоўца, што дагэтуль маўкліва вывучаў дакумэнты кангрэсу.

— Я прапаную зрабіць наступным чынам, — прамовіў ён. — Калі яшчэ ёсьць прапановы па зьмене назвы краіны, дык давайце іх паслухаем. А потым вынесем на галасаваньне. А тады новую назву, якая зьбярэ найболей галасоў, накіруем у адпаведныя інстанцыі. Дарэчы, прэзыдэнт нашае краіны пасьля зьмены назвы адразу мусіць страціць свае паўнамоцтвы, бо ён жа ж прэзыдэнт РБ, а калі будзе, напрыклад, Міларусь, давядзецца ініцыяваць новыя выбары — прэзыдэнта Міларусі. Наступны прамоўца, калі ласка.

— Я тут рэпрэзэнтую таварыства музычных дзеячоў, — пачаў наступны. — Мы таксама падумалі й вырашылі што найболей нашае краіне спасуе назва Бэкарусь. Чаму? А вось чаму. Бэкар — гэта нотны знак. А яшчэ на музычным слэнгу гэта значыцца "пралёт". А паколькі за апошнія дзесяць гадоў мы, у адрозьненьне ад былых краінаў сацлягеру, праляцелі па поўнай праграме ў сацыяльным, эканамічным і палітычным пляне, мы прапануем да паляпшэньня становішча называць рэчы сваімі імёнамі. І пакуль мы ня вылезем з



гэтае багны, называцца Бэкарусь. А потым ужо можна і Міларусь, і як хочаш...

"Гэта правакацыя!" — крычалі з залі, але вядоўца спакойным ураўнаважаным голасам запрасіў на сцэну наступнага аратара.

Выйшаў сівы дзядок. Нешта пачаў казаць, але задалёка ад мікрафону, нічога не было разабраць.

— Бліжэй да мікрафону! — весела закрычала заля.

— ...наша гаротная зямелька, — працягваў стары ўжо ў мікрафон, — шматпакутны наш край. Слязьмі паліты, крывёй... Тут пакутваў наш селянін пад цяжарам непасільнае працы. Тут пакутваў калгасьнік, гвалтам загнаны ў калгасы. Тут пакутваў рабочы, сьпіваючыся ад роспачы... Колькі бедаў мы спаткалі толькі ў мінулым стагодзьдзі, а што казаць пра пазамінулае...

— Давайце бліжэй да тэмы, шаноўны спадар прамоўца, — умяшаўся кіраўнік, — бо ж мы так да ночы ня скончым.

— ...і ўсё гэта прымушае нас абраць нашай краіне горкую, балючую, але праўдзівую назву — Бедарусь. Мы, нашая фракцыя вэтэранаў вайны і працы, раіліся і сышліся на гэтай суровай, але справядлівай назве. Настойваю на тым, каб яны была зацьверджаная!

У залі хто лаяўся, хто сьмяяўся, нехта звыкла крычаў: "Гэта правакацыя!"

Вядоўца заклікаў да цішыні.

— Калі ласка, паводзьце сябе культурна, — заклікаў ён. — Наступны прамоўца!

— Мы — людзі простыя, — пачаў прамову насамрэч просты дзядзька з чырвоным тварам, загарэлым і звонку, і знутры. — Мы — усебеларускае абʼяднаньне птушкагадоўлі. Уваходзяць туды і фэрмэры, і калгасныя птушкаводы, і працаўнікі птушкафабрыкаў. Карацей, шмат нас. Самая, лічы, шматлюдная арганізацыя сярод прадстаўленых на гэтым кангрэсе. І прапанова нашая простая: назавем нашую краіну Белагусь. Вось, падумайце, якая прыгожая птушка — гуска. Вось яна ля-



ціць, грацыёзна й велічна, вось яна, таксама грацыёзна й велічна, плыве. А калі што, дык і пастаяць за сябе можа. Як зашыпіць! Як кінецца на ворага! Сапраўдны сымбаль нашай краіны!

— А чаму ня бусел? — не ўстрымаўся вядоўца.

— Таму што Белабусел гучыць непрыгожа, — сумленна адказаў птушнік. — Быў, праўда, варыянт "Белабусь", але там слова "бусел" не зусім чытаецца.

— Добра, наступны, калі ласка, — запрасіў кіраўнік, але раптам у праходзе зьявіліся постаці ў камуфляжным адзеньні.

— Гэта правакацыя! — закрычалі з залі.

На сцэну выйшаў падпалкоўнік міліцыі.

— Прашу ўсіх пакінуць памяшканьне. Нам патэлефанавалі, што будынак замінаваны. Заўтра, пасьля таго як група сапёраў праверыць будынак на наяўнасьць мінаў, можаце працягваць паседжаньне.

— Але ў нас арэнда толькі на сёньня, — абурыўся вядоўца.

— Нічога не магу зрабіць, — стомлена азваўся падпалкоўнік.

Па залі распаўзьліся сапёры, сабакі і байцы спэцназу, якія настойліва праваджалі да выхаду незадаволеных дэлегатаў.



— Дайце нам хаця б рэзалюцыю прыняць! — абурыўся вядоўца. — Ад яе будзе залежаць і вашае далейшае жыцьцё!

— Ачышчаем памяшчэніе, — пачуў ён побач голас спэцназаўца, вядоўцу падхапілі пад рукі й пацягнулі на вуліцу.

Каля пад'езду сядзелі заўсёдныя Лёнік і Жэка — аднакляснікі Кастуся. Першы працаваў на трактарным, другі ўжо даўно перабіваўся нерэгулярнымі шабашкамі й падачкамі. Лёнік і Жэка расьпівалі танныя напоі ў сьвятле пад'езднага ліхтара.

— Садзіся да нас, Косьця, — запрасіў Жэка. — Лёнік прастаўляецца.

— Ты адкуль? — спытаўся Лёнік, калісьці неабыякавы да Беларускае справы.

— З кангрэсу.

— І што на тым кангрэсе? — працягваў пытаць Лёнік.

Кастусь падумаў, што распавядаць пра кангрэс — гэта нарывацца на спрэчкі й лаянку й вымавіў:

— А-а, нічога.

— Во! Праводзіце кангрэсы а ў выніку — “нічога”, — абурыўся Жэка. — Праядаеце толькі грошы. А ўсё як было, гэтак і застаецца.

— Ня лезь да яго, — абараніў Лёнік. — Хай хоць нешта адбываецца. Можа, штосьці й зьменяць.

— Хто? Косьця зьменіць?! Ды ты паглядзі на яго! Зьменіць ён. Што ён зьменіць... — нецьвяроза абураўся Жэка.

Маці не спала. Сядзела ў гасьцёўні пры стале. Калі Кастусь зайшоў, ускочыла.

— Напіўся, — віскнула яна. — Вось чым вы там на сваіх гэтых зьездах займаецеся! Вось чаму вас там апазіцыя навучыла! Ану ідзі спаць, п’яніца! І заўтра штоб паехаў са мной на дачу. А то саўсем ужо абляніўся. Нічога ня робіш, толькі па зьездах лазіш, напіваесься.

Маці ўтаропілася ў Кастуся сваім птушыным вокам і, карыстаючыся сытуацыяй, гучна выказвала сваю пэнсіянэрскую крыўду на ўвесь сьвет.



— Успакойся. — сказаў Кастусь ды пайшоў сабе спаць.

І прысьніў дзіўны сон. Нібыта ён, Кастусь, ва ўрачыстым малінавым мундзіры, з эпалетамі, аксэльбантамі й іншымі ўпрыгожаньнямі, прымае прысягу. Гэта, напэўна, прэзыдэнцкая інаўгурацыя. Наўкола шмат кветак, шмат людзей, чынавенства, але твары ў гэтага чынавенства не такія, як па тэлевізары — азызлыя, стомленыя ад жыцьця, махлярскія й прапітыя — не! Сьветлыя, рашучыя, сумленныя... У залі, дзе праходзіць інаўгурацыя, шмат людзей. Усе ўрачыстыя,

вясёлыя, зьзяюць усьмешкі, дзеці сядзяць на плячах у бацькоў... Кастусь нешта прамаўляе, і словы гэтыя важкія і істотныя для кожнага жыхара краіны, назва якой залатымі літарамі выбітая над трыбунаю — Міларусь...

## Уцёкі



Міжгародны аўтобус рушыць хутка й мякка па начной шашы. Сярод іншых пасажыраў у аўтобусе сядзіць Літаратар. Ён з год ужо не выбіраўся за межы свайго аднačасова ўстылага й балюча любімага горада. Літаратар едзе на самоце, безь сяброў, прыяцелек, таварышаў па рабоце й думае пра нешта сваё, а не марнуе, як звычайна ў аўтобусах, час на млявыя размовы альбо на хваравітыя шчыраваньні, справакаваныя каньячком.

Аўтобус паўпусты, і ўсе, акрамя Літаратара, сьпяць.

Зрэшты, трэба зазначыць, што й Літаратар таксама часам засынае, таму ягоныя думкі блытаюцца са снамі. Ява мяшаецца з уяўнасьцю.

Хочацца вярнуцца назад у часе. Хочацца вярнуць сьвежасьць успрыманьня. Вярнуць адчуваньне часінаў году, надвор'я, радасьць падарункаў і радасьць набыцьця рэчаў, пра якія ты марыў гадамі. Заплюшчыш вочы, і можна дэталёва ўспомніць эпізоды тагачаснага жыцьця. Вернуцца прывіды адчуваньняў, смак часу. Але гэта ўсё бляклае, пажоўклае. Не рэальнае. А наяве ты — сярод рэчаў. Яны сталеюць і старэюць разам з табою. Ты назіраеш іхняе старэньне й сьмерць. Твая кватэра раптам пачынае патрабаваць капітальнага рамонту: жоўкнуць шпалеры, са столі кавалкамі адвальваецца тынкоўка, псуецца сантэхніка... Ты змушаны выкінуць стары нямецкі фатэль, што вельмі любіў калісьці.

Фатэль зусім разваліўся. І ты думаеш пра сваё сталеньне, старэньне і сьмерць.

Я чакала яго. А ён не прыходзіў. Я глядзела праз шыбу на бабак. Бабкі заўсёды сядзяць на лаўцы перад пад'ездам. Нарэшце, ён прыйшоў, але гэта быў ужо не зусім ён. Нават ягоны пах зьмяніўся. Нешматслоўны (ня тое што яшчэ год таму!), пануры (раней я лічыла, што гэта не ўласьціва ягонай натуры), няўважлівы. Я падумала: чаму жыцьцё выбірае такі час для заканчэньня нашых стасункаў? Усе бягуць з гэтае краіны, тут цяжка жыць, цяжка дыхаць... І менавіта ў гэты невыносны час усё маё жыцьцё, дакладней, усё, што засталося ў маім жыцьці вартаснага, дарагога, сапраўднага, руйнуецца за лічаныя дні. Памятаеш, як у нас усё пачыналася? Колькі мы перажылі, памятаеш? Не, я ня буду яму гэта казаць. Я буду глядзець праз шыбу на бабулек. Як людзі, якія глядзяць на рыбак праз мутнаватае шкло акварыюму.



— Толькі ня трэба, даражэнькі, прыкідвацца мяккім й пухнасьценькім, — сказала яна яму. — Ведаеш, быў час, калі я мела па 8 мужчынаў за месяц. І гэтак цягам двух гадоў. Быў такі пэрыяд.



“Ага! 12 месяцаў — у кожным па 8 = 96. На працягу двух гадоў, г.зн. 96 на 2 = 192. Я, відаць, знаходжуся недзе сярод трэцяй-чацьвёртай сотні”, — падумаў ён і міжволі ўявіў сябе ў доўгай чарзе шматкалібэрных мужчынаў — з барадамі ды вусамі, сталых і зусім юнакоў, розных нацыянальнасьцяў, розных колераў скуры.

— Я пайду, — сказаў ён.

— Не выдурвайся. Гэта жыцьцё, — паморшчылася яна. — Глядзі на яго цьвяроза.

— Але я прызвычаены да іншага жыцьця.

— А іншага жыцьця няма. Тваё “іншае жыцьцё” прыдуманае. Гэтае жыцьцё — цяплічнае, ненатуральнае. Так што ці вяртайся ў сваё віртуальнае йснаваньне, ці жыві цьвяроза.

Навошта мне гэта трэба — гэты бруд, гэтая мярзота?! — абурыўся ўнутрана ён і пачаў спрабаваць жыць “цьвяроза”.

У гэтым доме багата ягоных рэчаў. Яны глядзяць на мяне зь мінулага пукатымі настальгічнымі вачыма. З кожным днём вочы блякнуць, жыцьцё павольна пакідае іх. Бабкі марудна перасоўваюцца за шыбаю акварыюму. І я зразумела: нават зараз, у гэтым болі, у гэтым разбураным жыцьці я, напэўна, шчасьлівая. Шчасьлівая тым, што не развучылася й не развучуся адчуваць, перажываць, мець чуйную душу.

А ён не прыходзіць. І болей ня прыйдзе. У яго пачалося новае жыцьцё. А маё жыцьцё цяпер — чаканьне. Чаканьне новага жыцьця.

Ты ходзіш па вуліцах. Ходнікі прагінаюцца пад цяжарам падкаваных міліцыянцкіх ботаў. Міліцыянтаў шмат — у касках, фуражках, пілётках, з пісталетамі, дубінкамі, аўтаматамі, кайданкамі. Сёньня цябе аштрафавалі ў аўтобусе. Пяць дужых мужыкоў уварваліся на прыпынку ў аўтобус, каля дзьвярэй пільнавалі міліцыянты. Ты аддаў апошнія грошы. Табе абрыдла так жыць, але як жыць у іншай краіне? Ты ж напэўна не дасі рады там жыць. Бо (яна, відаць мела рацыю) ты не прыстасаваны да рэальнага сьвету. А твой дагэтуль звыклы ўяўны сьвет, твой паратунак, даў вялікую з гострымі няроўнымі краямі, расколіну...

Літаратар прачынаецца. Аўтобус прыпыніўся на запраўцы. Літаратар пасьпешліва выходзіць за межы запраўкі й прыпальвае цыгарэту.

“У Варшаву, у Варшаву! — думае ён, пасьпешліва зацягваючыся. — Потым у Бэльгію, адтуль — у Канаду. Там жыве пляменьнік. Нейкі час пажыву ў яго. А по-

тым — будзе відаць. Галоўнае — падалей ад гэтае дзікае краіны. Хай давядзецца мыць посуд. Хай там нікому не патрэбная мая літаратура. Тут яна тым болей нікому не патрэбная! Што, гэтаму "электарату"?! Не!" — літаратар крыва ўсьміхаецца, кідае недапалак і заскоквае ў аўтобус.

Яна сказала:

— Ты — чалавек абставінаў. Ты рушыш па плыні. Ты не ствараеш сытуацыю, ты прыстасоўваесься да створанае кімсьці сытуацыі. Няўжо табе гэта падабаецца?

— Такі я ўжо чалавек. Калі я зраблюся іншым, ня будзе маёй літаратуры. А гэта — някепская літаратура.

— Але твая някепская літаратура зусім не прыносіць грошай. З табой ня будзе жыць ніводная жанчына, якая паважае сябе, няўжо ты не разумееш?

— Разумею.

— Куды ты? Стой! — зьдзівілася яна.

Але дзьверы за ім мякка, але рашуча зачыніліся.

Літаратар чарговы раз прачынаецца. Аўтобус стаіць на мяжы ў доўгай шматаўтамабільнай чарзе. Літаратар выходзіць у халодную ноч. Пасьля соннае задухі аўтобусу яго зьлёгку калоціць.

Машыны, машыны, зялёныя памежнікі й мытнікі, гандляркі ў брудных спартовых гарнітурах і бясконцай гарэлкай...

"Хутчэй бы Варшава, — думае Літаратар. — Хутчэй бы зьніклі прыкметы вечнага неператожнага беларускага "саўка".

Не, ну што было рабіць? Змагацца з рэжымам? Сьмешна, гэта не мая справа. Я не змагар па натуры. Адразу б загрымеў у цюрагу. Да зэкаў. Толькі адна думка пра гэта выклікала дрыжыкі ў Літаратара. Ехаць на вёску, хавацца ад усіх? Сап'юся. Доўга там ня вытрымаю. Ну, год яшчэ тудэма-сюдэма. А гэты рэжым, можа, на дзесяцігодзьдзі. Не. Адзінае выйсьце — Варшава, Бэльгія, Канада. Іншага ня дадзена. Падняўся ў

аўтобус, захутаўся ў палітон, заснуў.

Спроба скончылася няўдачаю. Калі жыцьцё й зьмянілася, дык толькі ў горшы бок. Раней хоць яно бегла па накатаных рэйках творчае безабароннасьці, уяўнага сьвету, сяброўскіх размоваў пад гарэлачку на кухнях, а цяпер наогул згубіла акрэсьленыя рысы. Быць заваёўнікам прасторы ён ня ўмее й наўрад ці калі навучыцца, заставацца ранейшым летуценьнікам ён ня здолее, таму што масты спаленыя, Карфаген зруйнаваны, а галава Рабэсп'ера коціца па шырокіх парыскіх вуліцах.

Вось ён зьехаў, і ўсё зьмянілася. Я болей ня буду сядзець ля вакна. Заўтра пайду на працу. Пайду ў сваё абрыдлае выдавецтва. Так, я перахварэла на цяжкую, але не невылечную хваробу. Ува мне нешта незваротна зьмянілася, але гэта тычыць адно мяне. Ён памёр. Ягоны ад'езд — нібыта сьмерць. Я ніколі не напаткаю яго на нашых шэрых вуліцах. Адтуль, куды ён паехаў, людзі рэдка вяртаюцца. Памёр. Няма тугі, няма злосьці, няма прыкрасьці. Сьмерць заўсёды ставіць усё на свае мейсцы. Засталася пустэча.

— Вось паскуда! Ды ня можа быць!

— Я табе адказваю. Дакладна зваліў. Я сустрэла Міколу, ён мне ўсё распавёў.

— Не, ну хто мог падумаць! Хоць бы разьвітаўся.

— Нінка, ты не перажывай. Такіх мужыкоў...

— Ды які ён табе мужык! Пры чым тут мужык! Што ты вярзеш! Што ты наогул ведаеш!..

— Нінка, ну ня плач. Ну, супакойся, чаго ты... Я й ня думала...

Польшча! Лепей ня спаць. Сьніш розную лухту. Правільна, што зьехаў. Падалей ад гэтага гнюснага мейсца! Пачаць жыцьцё ад пачатку, з нуля. Сустрэць новых сяброў, сябровак, прывесьці ўсё да ладу, да парадку,

забыцца на айчынную заўсёдную дэструкцыю.

Літаратар зноўку сьпіць. Спіць і кіроўца аўтобусу. Машына кіруецца акурат у кювэт. Аўтобус тройчы перакульваецца й загараецца.



Ці, можа, гэты фінал — толькі чарговы хваравіты сон стомленага Літаратара?

## Мандарынка

Бэрнар едзе зімовай дарогаю ў суседнюю, адначасова і блізкую, і далёкую, краіну. Блізкую, бо ехаць да яе нейкія трыста кілямэтраў. Далёкую, бо там усё іншае. Мэнтальнасьць, культура, паводзіны людзей...

Бэрнар — пісьменьнік. Ён вядомы на радзіме. Яго нават пазнаюць на вуліцах і просяць аўтограф. Бэрнар піша іранічныя, вольналюбівы творы і сьпявае пад гітару ці фортэпіяна зьедлівыя песьні. Усё гэта мае нешырокую, але стабільную папулярнасьць.

Але ён стаміўся. Захацеў сьвежага паветра. Таму напісаў просьбу да знаёмых адказных асобаў суседняе краіны, маўляў, хачу папрацаваць у спакоі, цішы, ва ўмовах дэмакратыі й капіталізму. Яму не адмовілі.

І цяпер ён едзе зімовай дарогаю і заўважае, што замест радасьці і нават эйфарыі, ён адчувае прыгнечанасьць і тугу. “Ва ўсім, відаць што, вінаватыя ўчорашнія пасядзелкі, — апраўдваецца перад сабою Бэрнар. — Ня трэба было так злоўжываць. А як прыеду на мейсца, усё пойдзе сваім пазытыўным шляхам, як і плянавалася”.

На мейсцы Бэрнар быў адразу непрыемна ўражаны, што ён тут не адзін. У прыёмным пакоі інстытуцыі, што запрашала папрацаваць ва ўмовах дэмакратыі, ут-

варылася чарга аматараў спакойнае працы. Дайшлі да Бэрнара. І вось ён ужо абазнаны ў шчыгулах работы, падпісаў шэраг папераў і паехаў у гатэль.

Гатэль яго звышнепрыемна ўразіў. Гэта было вельмі таннае мейсца з досыць трывожным кантынгентам жыхароў — арабы, віетнамцы... Арабы пастаянна вадзілі дзевак і шумна забаўляліся, віетнамцы смажылі на кухні нейкія спэцыфічныя стравы, да якіх Бэрнар зусім ня быў ласы.

Вечарамі ён таропіўся ў экран манітору, спрабуючы нешта напісаць. Не пісалася. За сьцяною шумна, пад сваю музыку, весяліліся арабы. Па пакоі разьліваўся складаны смак віетнамскае ежы. Бэрнар сто разоў бываў раней у гэтым горадзе, шмат каго ведаў. Але цяпер чамусьці зусім не хацелася нікога бачыць. Не, ён адбыў час на некалькіх сустрэчах і, напэўна, пакінуў па сабе дзіўнае ўражаньне. Бо гэтыя людзі ведалі яго зусім іншым — баявым, гумарным і абаяльным. Дзе што падзелася?

Ён уяўляў сабе ўсё гэтак: ну, зразумела, не "Шаратон", але штосьці прыстойнае, з прыбіральняй і лазенкай прынамсі. А ў рэальнасьці гэтыя выгоды дзялілі між сабою два жыхары блёку, як у інтэрнаце. Думаў, будуць сустрэчы на радыё, на тэлевізіі. А тут нічога такога... Раней, як прыяжджаў на дзень-два, дык літаральна дзерлі на кавалкі — тут інтэрвію, там здымкі, там фотасэсія. А цяпер нібы нікому і не патрэбны. Уяўляў, што ў ягоным нумары пастаянна будуць гасьцяваць дзяўчыны. А што? Ён яшчэ не стары і дзе-нідзе вядомы. Чаму б і не? Ня тое, каб ён не любіў сваю Насьцю, якая засталася там, у іхнай роднай краіне. Любіў і пяшчотна ставіўся да яе. І пражылі яны разам болей за дзесяць гадоў. Але ўяўленьне навязьліва малявала прывабныя й спакушальныя сюжэты й карціны, і ўрэшце ён паверыў, што так і будзе. Ён некалькі гадоў жыў спакойна, па-сямейнаму, без раманаў і душэўных ператрусаў. Таму думалася: а што? Насьця ж і не даведаецца. Часта яна да мяне прыяжджаць ня здолее, таму можна ўсё схаваць. Тым болей,

што я не зьбіраюся завязваць нейкія сур’ёзныя адносіны. Так, пагарэзіць...

А цяпер раптоўна ўсё зьмянілася: Бэрнару падавалася, што якраз Насьця, ягоная бедная Насьця, што засталася там, у засьнежанай дыктатуры, вось гэтая Насьця, да якой ён так прызвычаіўся, ад якой хацеў адпачыць, — вось яна і ёсьць ягонае шчасьце, ягонае жыцьцё. Яму раней здавалася, што Насьця “дастае” (як ён мог, дэбіл!), а яна папросту падштурхоўвала да дзеяньня. Можа, ён бы нічога безь яе і не зрабіў, так — напісаў кнігу-другую... Дый яна часьцяком падказвала сюжэты, павароты, нечаканыя разьвязкі...

Як ён цяпер безь яе?

Бэрнар пісаў ёй смс за смсам: што яна робіць, куды пайшла, з кім пазнаёмілася? Раптам ён пачаў баяцца, што яна сама закруціць раман — а чаму не закруціць! Ён жа раней лічыў для сябе гэта нармальным. Цэлы год ён будзе тут сядзець, усё зьмяняецца й за карацейшы тэрмін.

Ён прыгадваў ейны твар, як яна яго правяла да машыны, было марозна, з выхлапной трубы валіў бэнзынавы дым. Яна дала яму мандарынку, неяк горка ўсьміхнулася й кіўнула, маўляў, едзь, хай усё ў цябе складзецца пасьпяхова. Ён добра яе ведаў: менавіта гэта й мелася на ўвазе. Хай у цябе там усё складзецца пасьпяхова. Сеў, паехаў, яна крыху пастаяла, паглядзела яму ўсьлед і пайшла ў краму. І ўжо тады нешта ў яго ўнутры сьцялася. Ужо тады рэзка зьявілася ўражаньне, што робіцца штосьці ня тое.

Ён паклаў мандарынку ў шафу. Яна штодня старэла, моршчылася, сохла. Для Бэрнара раптам усё, зьвязанае з домам, зрабілася дарагім. Гэтая засохлая мандарынка, пакунак з крамы, што была на першым паверсе іхняга дому, куды пайшла Насьця пасьля ягонага ад’езду... нейкія іншыя дробязі.



Ніколі ён не чакаў ад сябе гэткае сэнтымэнтальнасьці. “Гэта таму, што мяне паставілі ў такія неспрыяльныя ўмовы!” —

апраўдваў ён яе, гэтую сэнтымэнтальнасьць, і ўжо сам сабе ня верыў.

Да ўсяго, высьветлілася, што арганізацыя, якая ўхваліла ягоную ціхую й спакойную працу ў гэтай краіне, вельмі нэгатыўна ставіцца да візытаў дадому. Маўляў, толькі ў экстраных выпадках. То бок ён ужо пачуваўся на год, на цэлы год, адрэзаным ад усяго, што аказалася гэткім дарагім.

Ён спрабаваў рабіць шматгадзінныя шпацыры, сядзець у кавярнях, падслухоўваць размовы — каб скінуць незразумелае адчуваньне самоты, няправільнага выбару й марнатраўнасьці ўсяго, што адбываецца. Але чамусьці гэты горад зрабіўся нейкім варожым, шмат што пачало Бэрнара раздражняць — паўсюдныя цёткі з сабакамі, расхрыстаныя панкі, клеркі ў размаітых гальштуках... “Што я тут раблю? Маё мейсца ня тут”, — увесь час круцілася ў галаве.

Ён пачаў выпіваць штодня. Хаця на радзіме рэдка практыкаваў — шмат было працы, дый не хацелася выглядаць прадстаўніком асноўнае большасьці электарату, для якога гэта — і работа, і адпачынак, і спорт. То бок, выпіваў, але зрэдчасу. А тут нешта пайшло — дзень у дзень. І піў так — самому брыдка — зачыніцца ў нумары і налівае сабе кілішак за кілішкам. Вып’е, глядзіць на мандарынку, Насьціну мандарынку, і сьляза цячэ па шчацэ. І сорамна, і брыдка, і тужліва...

***

— Праходзь, дарагая! Як доўга я цябе ня бачыў. Кавы?

— Ну, калі можна...

— Трэба, што значыцца “калі можна”?! Даруй, ня здолеў сустрэць, але ж, ведаеш, якраз трэба было спатыкацца з шэфамі, ня мог перакласьці на іншы час.

— Бэрнар, а памятаеш, ты пісаў, ну тады, на самым пачатку, як сюды прыехаў, ну, калі ты мне штодня пісаў даўжэзныя лісты...

— А-а, тады! Дык мне нават страшна ўзгадваць той

час, Насьця! Яшчэ крыху і мог бы быць сумны фінал.

— А ты пісаў, што жывеш у нейкім інтэрнаце...

— Я потым высьветліў, што амаль за тыя ж грошы, што яны плацілі за інтэрнат, можна зьняць кватэру. Вось я і зьняў. Яны згадзіліся, што ўмовы, насамрэч, для творчасьці лепшыя. Я ж табе, здаецца, пісаў? Не? Не пісаў Во ёлупень! Зусім тады закруціўся. А потым пакаціла: прапанавалі весьці перадачу на ТВ, пайшла кніга ў перакладзе... Карацей, думаю яшчэ затрымацца тут. Бо мажлівасьцяў непараўнальна болей. Але ты ж будзеш прыяжджаць? Раз ці два на месяц? Прабач... Алё! Так, я. Не, слухай, сёньня ніяк не атрымаецца. Я ж цябе папярэджваў. Не, гэта выключана. Я не разумею, навошта... Прабач, Насьця, гэта па рабоце.



Ён зайшоў у іншы пакой і прычыніў дзьверы.

Насьця сядзіць за часопісным столікам з філіжанкай кавы. З суседняга пакою чуюцца неразборлівыя гукі размовы на падвышаных танах. Кватэра на высокім паверсе залітая ранішнім сонечным сьвятлом. Пахне кавай і акрылавай фарбай — відаць, нядаўна фарбавалі сьцены. Насьці падабаецца гэты пах. На століку грувасьцяцца жаночыя часопісы. На кніжнай паліцы між іншых дробных рэчаў, да якіх Насьця ня мае дачыненьня, ляжыць маленькая высахлая ўчарнелая мандарынка...



## Жывёльны сьвет Беларусі багаты й разнастайны

Напраўду. Гэта так. Хто будзе спрачацца? Жывёльны сьвет нашага краю насамрэч вельмі разнастайны. Шкада толькі, што чалавек не навучыўся жыць у гар-

моніі з гэтым жывёльным сьветам. Але мы ня ставілі на мэце стварэньне праблемнага нарысу: маўляў, канфлікт урбаністычнага сьвету са сьветам лесу, прыроды, жывёлаў. Не. Папросту мы распавядзем тут пра некаторых вядомых нам беларускіх млекакормячых, рыб, жамяру ды іншых жывёлінаў. Распавядзем без прыязнасьці альбо непрыязнасьці. Распавядзем суха, як заолягі. Справа ў тым, што ў вялікіх гарадох людзі пачалі забывацца на самое йснаваньне жывёльнага сьвету. Ім здаецца, што каты й сабакі — гэта ўсе жывёлы, якія атачаюць чалавека. Што ж, мы мусім нагадаць гарадзкому беларусу, што гэта не зусім слушна.

Найперш варта зазначыць, што ўзьнікненьне гарадоў на Беларусі было на свой час вымушаным захадам з боку насельнікаў краю. Справа ў тым, што, жывучы ў вёсках ды на хутарох, народ часьцяком падвяргаўся нападам буйных і ня вельмі буйных насельнікаў жывёльнага сьвету Беларусі. Дзеля таго каб пазьбегнуць гэтых нападаў, быў збудаваны першы горад. Відаць, што гэта быў Менск. Дзеля таго, каб абараніцца ад жывёльных атак, быў спраектаваны ды ўзьведзены першы, яшчэ ня вельмі высокі й магутны, комін. Ён быў зроблены, як і цяперашнія, з чырвонай цэглы, але ў разрэзе меў форму простакутніка. Каб з коміну ўвесь час ішоў дым, людзі збудавалі вялікую печ, у якой плавілі руду (гэтая руда давала найбольш дыму, які, у сваю чаргу, адпужваў сваім выглядам і пахам зграі жывёлаў, якія гойсалі наўкола). Толькі праз 200 гадоў насельнікі краю знайшлі прымяненьне для гэтае руды й пачалі вырабляць розныя жалезныя прадмэты. Да гэтага ж часу карысныя выкапні з высокім утрыманьнем жалеза йшлі адно на дым. Таму цяпер іх засталося зусім няшмат. Затое беларусы навучыліся выкарыстоўваць іншыя рэчывы дзеля атрыманьня якаснага шчыльнага дыму розных колераў ды гатункаў.

Жывучы ў горадзе, мы даўно забыліся й хіба што чулі ад бабуляў пра страшных насельнікаў жывёльнага сьвету Беларусі. Таму паходы ў грыбы й на ловы ча-

сьцяком трагічна сканчаюцца для гарадзкіх жыхароў. Дзеля напаміну пра відавочную небясьпеку мы склалі невялічкі рэестар асабліва небясьпечных беларускіх жывёлаў. Тут жа распавядзем і пра мэтады барацьбы зь імі (калі яны існуюць).

## БУСЕЛ



Буслы з даўніх часоў не любілі людзей. Звычайны (белы) бусел заўжды наносіў чалавеку шмат шкоды. Па-першае, ён харчаваўся рознай хатняй жывёлай, якую гадаваў чалавек. А ў галодныя гады ня грэбаваў і чалавечынай.

Як вы, спадзяемся, ведаеце, за даўнім часам на нашай зямлі ўсё было значна большае – жывёлы й людзі былі ў некалькі разоў вялікшыя ў параўнаньні зь цяперашнімі. Здрабненьне пачалося пасьля прыходу ледавіка. Наконт здрабненьня выказваюцца розныя тэорыі, аднак тое ня ёсьць лейтматывам нашае працы, таму мы лічым за лепшае абысьці гэты тэмат.

Тагачасны чалавек мог, прыклаўшы пэўныя намаганьні, выдзерці зь зямлі хваіну ці бярозу сярэдніх памераў. Але, усё адно, у бойцы з буслом тыя гіганты ня мелі аніякіх шанцаў на перамогу. Гэта, па-першае, тлумачыцца тым, што буслы мелі памеры недзе ў дзесяць разоў большыя ад прадстаўнікоў чалавечага роду. Толькі ўзброены атрад у дзесяць шабляў быў здольны даць нейкі адпор раззлаванаму буслу, таму людзі пазьбягалі перасоўвацца на самоце і вандравалі ў вялікіх кумпаніях, што, зрэшты, час ад часу прыводзіла да адваротнага выніку. Бо вялікая сяброўская кумпанія правакавала да ўжываньня напояў, што ўзмацняюць сяброўства й давер сярод чальцоў калектыву. Напад буслоў на нецьвярозыя й сонныя атрады заўсёды меў сумны для чалавекаў вынік. Як у Чакановіцкім летапісе:

Раптам у небе, зусім для людзей нечакана
Птушка зьявілася, птушка жахлівага роду

Крылы паўнеба і сонца сьвятло захілілі
Так, што адразу ўваччу парабілася цёмна
Зубы блішчэлі ў цемры халодна й злавесна
Нам прадракаючы тое, што вымавіць страшна
Трэба было нам з табою ашчэрыцца зброяй
Выхапіць шаблі і дзіды, бусла напалохаць
Толькі ня ўсталі з травы ваяры, не расплюшчылі вочы
Вочы, заплюшчаныя крамбамбуляй ды мёдам
Крупнікам скутыя рукі ня выцяглі зброю
Толькі адзін я застаўся жывы ды здаровы
Бо, як вядома для ўсіх, я манах непітушчы
І не ўжываю напояў, што людзі так любяць
І пакуль птах той рабіў сваю страшную справу
Спрытна схаваўся я ў лесе сярод векавечных хваінаў

Гэтыя радкі можна вытлумачыць яшчэ наступным чынам. Буслы, відаць, наўмыс нападалі на стамлёныя алькаголем атрады, бо ў чалавечай крыві было вялікае ўтрыманьне сьпірытусу, і для страшнага птаха гэта было нечым накшталт таго, як для нас выпіць кілішак-другі гарэлкі.



Але сустрэча са звычайным белым буслом — гэта ня самае страшнае, што магло на тыя часы здарыцца з чалавекам. Як вы ведаеце, існуе яшчэ й чорны бусел. Чорным яго назвалі за жудасны нораў і за тое, што ён прыносіў чалавеку адно беспрасьветна-чорнае. На шчасьце, колькасьць чорных буслоў значна меншая, чымсьці звычайных. Бо іначай людзі наўрад ці выжылі б на гэтай тэрыторыі. Чорны бусел быў разумнейшы, хітрэйшы, жарстчэйшы, большы й мацнейшы за белага. Нападаючы, на чалавека, ён, перш чым забіць, гуляўся са сваёй ахвяраю, як той кот з мышшу. Ці то заносіў у сваё гняздо, дзе чалавека задзёўбвалі да сьмерці птушаняты — ад нараджэньня агрэсіўныя й крыважэрныя чорнапёрыя істоты.

На тыя часы буслы на зіму не зьляталі ў вырай. Яны зімавалі тут, у Беларусі. На іхную, бусліную, бяду, арганізм гэтых птушак быў створаны такім чынам, што пры надыходзе мінусавае тэмпэратуры яны імгненна

засыналі. Калі людзі знаходзілі заснулага бусла ў полі ці сярод лесу, дык усёй вёскай (горадам, іншым паселішчам), тэрмінова зьбіраліся й на працягу трох зімовых месяцаў несупынна засыпалі птаха зямлёю, аж пакуль не ўзьнікаў велічэзны курган. Калі бусел увесну прачынаўся, засыпаны, дык ня мог паварушыць крылам ці нагою. Сучасныя навукоўцы лічаць, што бусьлінае моцы цалкам хапіла б, каб выбрацца з-пад слою зямлі, але птушка памірала. Хутчэй ад стрэсу, ад жаху перад цемраю ў вачох і халоднай нерухомасьцю. Адсюль паходзяць курганы на Беларусі.

Буслы ня любяць і баяцца дыму. Таму людзі пачалі будаваць гарады ля комінаў. Дымны комін быў гарантыяй ад нападу страшных птахаў, таму чым болей комінаў на адзінку плошчы, тым меньшая верагоднасьць узьнікненьня на гэтай плошчы буслоў.

## КРОТ

Рэдкая па сваёй падступнасьці жывёла. Рые ў глебе замаскаваныя хады, заўважыць якія можна толькі



пры дапамозе сучаснае высокаадчувальнае тэхнікі. За старым часам чалавек, што патрапіў нагою у кратовую ямку, быў практычна прагавораны да сьмерці. Пакуль ён спрабаваў выдзерці нагу зь ямы, крот імкліва нёсься па падземных пераходах і перагрызаў чалавеку сухажыльле. Гэта пры тым, што крот харчаваўся зусім іншымі жывёламі, чалавек ня меў для яго харчовае цікаўнасьці. Гэты зьвер дзейнічаў гэтак выключна церазь нянавісьць да прадстаўнікоў роду чалавечага. Далейшы трагічны лёс чалавека на адной назе сярод лесу, напоўненага варожымі істотамі, я думаю, чытачу зразумелы. Калі з буслямі яшчэ можна было змагацца пры дапамозе зброі, дык з падземнымі кратамі ваяваць было ўвогуле немагчыма. Таму вайна мела выключна абарончы характар: ходзячы па лесе, людзі чаплялі на ступакі нешта накшталт круглых пляс-

катых нартаў. Перасоўвацца было вельмі нязручна, затое мелася поўная гарантыя, што не патрапіш у жахлівую "кратовую ямку". Зрэшты, пры выкарыстаньні нартаў атрымліваўся іншы мінус: цяжка было ўцячы ад іншых драпежнікаў, што перасоўваліся не пад зямлёю, а па зямлі.

## КУРЫЦА



Дзікія куры раней зьбіраліся ў зграі. Кожная зграя налічвала да 200 птушак. Гэтыя ўсяядныя жывёлы ў пошуках ежы гойсалі па лясох ды палёх, паядаючы расьліны, чарвякоў, жамяру, жывёлаў, пакідаючы за сабой пустэльню. Курыцы пазьбягалі нападаць на групу людзей, асабліва ўзброеных. Але калі сустракалі аднаго чалавека, дык бяз роздуму накідваліся на яго. Калі чалавек быў узброены, ён адбіваўся ад драпежных птушак шабляю. Дзясяткамі гінулі крыважэрныя істоты. На мейсца загінулых прыходзілі новыя і новыя. На мёртвых курэй тут жа накідваліся жывыя. Пах крыві толькі натхняў іх на бойку. Звычайна адзін чалавек прайграваў у гэтай няроўнай барацьбе, калі толькі яму на дапамогу не прыходзілі супляменьнікі, якія знаходзіліся непадалёк. Тады курыны напад меў зусім не трагічны, а, наадварот, жыцьцесьцьвярджальны вынік: вёска была забясьпечаная харчам, як мінімум, на тыдзень.

## КАМАР



Гэтыя бязьлітасныя жамярыны падпільноўвалі людзей у лесе, у полі, на балоце, карацей, паўсюль. Велічэзныя па сваёй колькасьці камарыныя зграі высмоктвалі кроў з чалавека ў лічаныя хвіліны. Яшчэ камары выкарыстоўвалі людзей у якасьці перасоўных інкубатараў, адкладаючы пад скуру яйкі. Тады здаралася страшнае: камары распаўсюджваліся ў чалавечых паселішчах, і лёс паселішча быў вырашаны. Зрэшты, людзі знайшлі мэтады змаганьня з гэтымі жывёламі, калі

навучыліся вырабляць жалеза. Былі вымысьленыя сталёвыя абарончыя дасьпехі — кальчугі, пальчаткі, шаломы й г.д. Вы, напэўна бачылі гэтыя сродкі абароны на старых гравюрах, карцінах ды іншых выявах. Пасьля гэтых вынаходак камары паразытавалі толькі на бедных сялянах, што ня мелі сродкаў на гэтае антыкамарынае ўзбраеньне. Адсюль паходзіць песьня:

Пара мне ўжо легчы й памерці.
Пра гэта мне грукае сэрца.
Ні шчасьця няма, ні збавеньня.
Пайду камарам на зьядзеньне.

Вось далёка ня поўны пералік небясьпечных і раней, і цяпер жывёлаў, якія толькі й чакаюць сустрэчы з чалавекам, каб забіць яго, альбо назаўсёды зрабіць інвалідам. Таму мы рэкамэндуем недасьведчаным гараджанам пры шпацырах у лес выкарыстоўваць наступныя сродкі абароны: агульнавайсковы абаронны камплект (вядомы ў савецкім войску пад абрэвіятураю ОЗК), лыжы (якія, хаця й абцяжарваюць перасоўваньне па лесе, затое вы не патрапіце ў кратовыя норы й іншыя хітра зробленыя пасткі), дымавыя шашкі (іх вельмі ня любяць, нават баяцца, буслы).

Шчасьлівага Вам адпачынку!

## Пакуль сабачка жывы

Аповесьць

Гэтая кватэра бачыла розныя часы. Бачыла сумоўе, бачыла разлад, бачыла галечу, бачыла заможнасьць. Нячутны чалавеку пах розных іншых людзей усмакталі гэтыя бэтонна-панэльныя сьцены. Яны насычаныя таксама дымам добрых і кепскіх цыгарэтаў, пахамі розных напояў. Недзе пад стольлю, зноў жа, нячутныя чалавеку, луналі гукі размоваў. Розныя мовы, розныя га-

ласы, розныя пачуцьці злучыліся ў адзіную неразборлівую плынь.

Кватэра знаходзілася ў цэнтры гораду. Раён быў даволі прэстыжны. Але гэтае жытло нельга было назваць заможным. Не было дываноў на сьценах, крышталёвых сэрвізаў на паліцах, не было бліскучага паркету, не было модных тады арак ды роўных гіпсакардонавых сьценаў. Карацей, падчас нашага аповеду тут жылі ня вельмі багатыя людзі — Ясь ды Яніна. Абое журналісты. Яму — 30 гадоў, ёй — 29. Кватэра апынулася ў іхнім распараджэньні выпадкова, дзякуючы шчаснаму зьбегу абставінаў. І цяпер шматлікія сябры — калегі-журналісты, мастакі, рок-музыкі й іншыя прадстаўнікі тутэйшае багемы часта завітвалі да Яся й Яніны. Яны выпівалі, размаўлялі пра творчасьць, грошы ды ўзаемастасункі гэтых двух уяўленьняў, пра цяжкі пэрыяд жыцьця, пра замежжа й сяброў, якія там засталіся. Размаўлялі пра палітыку, пра індэфэрэнтны да свайго жыцьця народ, пра неадпаведнасьць таленту й ягонае запатрабаванасьці, пра тое... Зрэшты, узоры гэтых размоваў вы ўбачыце ніжэй (напрыклад, стар. 133-134).



У краіне раптоўна ўсталяваўся жорсткі рэжым. Ва ўладзе апынуліся малакультурныя людзі. Гэтага не чакалі Ясь ды Яніна. Гэтага не чакалі іхныя шматлікія сябры. У горадзе пачаліся акцыі пратэсту — мітынгі, пікеты, дэманстрацыі. І Ясь, і Яніна, і іхныя знаёмыя (музыкі, паэты, пісьменьнікі, мэнэджэры па рэкламе, бізнэсмэны...) лічылі за абавязак паўдзельнічаць у гэтых акцыях.

Спачатку ўсе зьдзіўляліся, калі розных прыяцеляў, знаёмых і сяброў Яся й Яніны пачалі саджаць у турму. Калі шмат каго за пратэст супраць рэжыму пабілі дубінкамі (міліцыя выказвала такім чынам свой пратэст супраць іхняга пратэсту), калі амаль усе за ўдзел у дэманстрацыях заплацілі даволі вялікія грашовыя штрафы (чым фінансава падтрымалі ненавісную дыктатуру). Зь

цягам часу зьдзіўленьне зьнікла. Усе прызвычаіліся да новых варункаў існаваньня.

## ЯСЬ

Ясь выйшаў з дому (на панэлі дзясятага паверху гэтае будыніны было напісана “1975”). На незалежнай тэлестудыі, дзе ён працаваў, сёньня ў яго былі чарговыя здымкі. Незалежная студыя ледзьве дыхала — уся ў пазыках камэрцыйным структурам ды папярэджаньнях ад структураў уладных. Незалежная студыя дазваляла сабе лёгкія кпіны з агрэсыўнае дзяржавы, таму знаходзілася пад пагрозай закрыцьця. Але камэрсантам падабаліся гэтыя кпіны (дзяржава не давала й ім жыцьця), таму яны працягвалі фінансаваць тэлестудыю. І пакуль што тэлестудыя рэгулярна выходзіла ў этэр (хай і на даволі маленькую аўдыторыю), а супрацоўнікі рэгулярна атрымлівалі ганарары (рабочыя на заводах не атрымлівалі заробкаў па тры месяцы).

Дык вось — Ясь выйшаў з дому і накіраваўся на аўтобусны прыпынак. На дварэ лютавала зіма. Марозны ранішні вецер ганяў пад нагамі сьнегавыя віхуры разам з паперкамі, семкавым лушпіньнем ды іншым дробным сьмецьцем. Ясь парадаваўся, што мае доўгі чорны зімовы палітон (летась зь Янінаю купілі на рынку) і вайсковыя цёплыя боты з пратэктарам на падэшве.

Раптам пад ногі Ясю кінуўся нейкі сабачка. Ён быў чорна-бела-руда-шэры. Пэўна, радавод сабачка меў вельмі разнастайны. Гэтую пароду зазвычай называюць “сумесь бульдога з насарогам”. Сабачка паводзіў сябе так, нібыта сустрэў даўно знаёмага чалавека, быццам ён з самага раньняга дзяцінства ведае Яся. Сабачка так матляў кароткім хвастом, што разам зь ім матляўся з боку ў бок і ягоны азадак. Сабачка радасна павіскваў. Сабачка радаваўся на ўсю сваю пашчу.

У Ясевай сям’і заўсёды жылі сабакі. Баксэры, шпіцы, тэр’еры, аўчаркі — Ясь прызвычаіўся да іх змалку (калі Ясь быў, так бы мовіць, шчанюком, яго апекваў васьмі-

гадовы баксэр, калі Ясю споўнілася восем гадоў, у сям'і зьявіўся васьмімесячны шпіц). Карацей кажучы, Ясь, паводле багатага досьведу, зразумеў, што гэты маленькі сабачка яшчэ шчанюк — яму ня болей за тры-чатыры месяцы.

Да прыпынку падышоў аўтобус. Зарослыя шэраньню рыпучыя дзьверы адчыніліся. Ясь ускочыў у аўтобус. Сабачка таксама паспрабаваў быў ускочыць, але дзьверы зачыніліся перад ягоным носам. І ён застаўся на прыпынку. Ясь праводзіў яго позіркам. Сабачка быў зьбянтэжаны й нібыта расчараваны.



## АЛЕСЬ

Тры гады таму Алесь зрабіў кар'еру. Ён ня ставіў сабе на мэце рабіць кар'еру — усё атрымалася неяк незаўважна. Буяла дэмакратыя, Алесь вучыўся на факультэце журналістыкі, быў адным з самых таленавітых у групе. Ён рабіў паралельна з вучобаю невялікую перадачку на дзяржрадыё. Яна мела ідыёцкі назоў "Як жывеш, інтэрнат?". Алесь меў рацыю, калі даводзіў, што ня ён прыдумаў гэткі назоў, яго вымысьлілі старарэжымныя радыёдыназаўры, але паколькі ён, Алесь, яшчэ толькі студэнт, дык няма ніякага сэнсу лезьці са сваімі амбіцыямі ў чужы манастыр. Дарэчы, нягледзячы на дэбілізм і саўковасьць назову, перадача ў Алеся атрымлівалася амаль заўсёды някепская. Ён умеў, як той казаў, "разварушыць суразмоўцу". Зрэшты, ледзьве ня кожнага разу ягоныя суразмоўцы выглядалі гэткімі кастрыбаватымі малапісьменнымі людзьмі, якія блытаюцца ў словах ды нагаворваюць самі на сябе. Слухаць іх было досыць сьмешна, тым больш значна-іранічнай выглядала асоба вядоўцы.

Калі Алесь быў на парозе сканчэньня вучобы, яго заўважыў шэф прагрэсіўнае радыёрэдакцыі. Ён запрасіў Алеся ў кавярню й там, пад каньячок ды цытрынку, прапанаваў працу. Лішне казаць, што Алесь з рада-

сьцю згадзіўся: скончылася вучоба, а наперадзе зіхцела бясхмарная журналісцкая будучыня — у сталіцы (Алесь паходзіў з Дзівагародку), у самай прагрэсыўнай ды таленавітай рэдакцыі, сярод людзей, большасьць якіх ва ўсіх момантах жыцьця размаўляе па-беларуску (гэта было для Алеся вельмі істотна, бо ён проста хварэў на сапраўдную беларускую мову, ня толькі пісаў, але й размаўляў на тарашкевіцы, а дзёньнік вёў, зазвычай, лацінкаю). Паўторым: Алесь з радасьцю пагадзіўся, п’янеючы ад каньячку й ад нечаканае прапановы. Рэдактар быў таксама задаволены — ён фармаваў новы калектыў, і яму трэба былі таленавітыя кадры (а тое, што Алесь быў здольны журналіст, сумневаў ні ў кога не выклікала). Праз два дні Алесь пайшоў у аддзел кадраў уладкоўвацца на працу.

У аддзеле сядзелі дзьве сталыя кабеты — адна супрацьлегласьць другой. Першая — сухая, з доўгім і дробным злосным тварыкам. Другая — мажная, тоўстая, з пульхнымі вуснамі й добрымі каровінымі вачыма.

Сухая кабета доўга вывучала Алесевы паперы, а потым вымавіла:

— ...Пэнсіянэр. Чуеш, Міхайлаўна, у яго бацька п э н - с і я н э р.

Міхайлаўна прамаўчала.

— Хто ж гэта вас вучыў так пісаць, малады чалавек? У сучаснай беларускай мове няма такіх словаў.

Алесь нічога не адказаў.

— Вось вы ўжо трэці чалавек, які ўладкоўваецца да нас на работу і піша на такой мове. А я тут працую дваццаць пяць гадоў, і да вас ніхто такога сабе не дазваляў.

Алесь перасмыкнуў плячыма.

— Я правільна кажу, Міхайлаўна?

Міхайлаўна змаўчала.

— Няўжо вы думаеце, што вам дазволяць выходзіць у эфір з гэтымі вашымі “пэнсіянэрамі” ды “вучэльнямі”? Смешна. Ніколі такога не было і ня будзе.

Назаўтра малады рэдактар Алесь выйшаў на працу.

Лішне было б казаць, што насуперак прагнозам кабеціны з аддзелу кадраў, першая Алесева перадача ў новай рэдакцыіі была на чысьцейшай тарашкевіцы. І была яна зробленая бліскуча. Такім чынам, Алесь арганічна ўліўся ў калектыў прагрэсіўнае беларускае радыёрэдакцыіі.



Калектыў гэты быў даволі разнастайны — тут засталіся некалькі асобаў зь яшчэ тае "старое гвардыі", але яны ня дужа лезьлі ў канцэпцыю вяшчаньня й іншыя сакрамэнтальныя рэчы. Гэтыя людзі папросту рабілі свае перадачы, выходзілі рэгулярна ў этэр, нікога не кранаалі й спадзяваліся, што і іх кранаць ніхто ня будзе. Гэта тое, што тычыцца так званае "старое гвардыі".

Былі яшчэ ў прагрэсіўнай рэдакцыіі людзі, якія лічылі сябе незалежнымі. Іх было няшмат, яны рэгулярна прыходзілі ў рэдакцыю, каб запісаць свае перадачы, а потым зьнікалі да наступнага запісу. Зрэшты, тут трэба зазначыць, што чым далей, тым надаўжэй гэтыя незалежныя людзі затрымліваліся пасьля сваіх запісаў, усё часьцей пачалі яны заставацца на дні нараджэньня рэдакцыйных людзей дый проста, каб папіць піва. Гэта можна патлумачыць адно тым, што калектыў напраўду падабраўся даволі цікавы. Інакш ніхто б тут пасьля работы не заставаўся.

Ядро рэдакцыіі складалі даволі маладыя, але ўжо дасьведчаныя журналісты. Яны былі вядомыя сваёй антыкамуністычнай пазыцыяй дый наогул барацьбой з камуністычным рэжымам (толькі не падчас ягонага панаваньня, тады яны былі яшчэ занадта малыя, а падчас ягонага загніваньня й загінаньня). Гэтыя людзі складалі, дазвольце паўтарыцца, ядро рэдакцыіі, яны былі тварам яе, душой, мазгамі ды іншымі неабходнымі для існаваньня арганізму ворганамі.

Усіх супрацоўнікаў прагрэсіўнае радыёрэдакцыіі цяжка пералічыць — ёсьць небясьпека на кагосьці забыцца, а кожны, нават той, на каго можна забыцца, дадаваў

у агульную палітру свой непаўторны колер, безь якога карціна будзе няпоўнай. Хутчэй за ўсё, гэткай яна і атрымаецца, за што й хочацца перапрасіцца ў мажлівага чытача.

А яшчэ ў прагрэсіўнай рэдакцыі было шмат студэнтаў. Студэнтаў таго ж факультэту журналістыкі.

Так усё і йшло: студэнты студыявалі й працавалі, ідэйныя натхняльнікі натхнялі й працавалі, вэтэраны радыёэтэру старэлі й працавалі, вольныя журналісты пілі водар свабоды й працавалі... У вольны час усе (кожны ў залежнасьці ад здольнасьцяў) адрываліся, а потым зноўку працавалі.

Неяк незаўважна, нават нечакана, скончылася Алесева вучоба. Ён яшчэ жыў у студэнцкім інтэрнаце, ён яшчэ, па звычцы, штодня рана прачынаўся, але цяпер засталася адно праца. Праца ў прагрэсіўнай радыёрэдакцыі. Студыі скончыліся, пачаліся новыя, сур'ёзныя выпрабаваньні. Раней Алесь займаўся перадачамі, цяпер жа, акрамя гэтага, ён вёў этэр. А вядзеньне этэраў — справа даволі складаная — табе трэба тры гадзіны запар размаўляць са слухачамі, адказваць на тэлефанаваньні, ставіць песьні, распавядаць пра выканаўцаў, даваць інфармацыю пра надвор'е, час, апошнія падзеі ў краіне й за мяжою, браць інтэрвію ў запрошаных госьцікаў, ды так, каб слухачам не было сумна... Цяпер перад кожным этэрам Алесь пазьбягаў хадзіць у госьці, сам у сваім інтэрнацкім



пакоі не адчыняў дзьверы раптоўным наведнікам, не бадзяўся па горадзе зь дзяўчатамі, ня піў нават піва. Ён рыхтаваўся да заўтрашняга этэру — зьбіраў матар'ялы, пісаў тэзісы, падшукваў цікавую інфармацыю. Яму не хацелася, каб на чарговай "лятучцы" пра ягоны апошні этэр нехта адмоўна выказаўся. А трэба зазначыць, што нягледзячы на добрыя чалавечыя адносіны паміж супрацоўнікамі рэдакцыі, рабочыя стасункі былі досыць жорсткія. І на гэтых "лятучках" кожны пра кожнага мог выказацца

вельмі й вельмі зьедліва, калі той таго заслугоўваў.

Гэтак незаўважна, дзякуючы сваёй старannaй працы ды актыўнай грамадзянскай пазыцыі, з разраду “студэнтаў” Алесь перайшоў адразу ў разрад “ядро рэдакцыі” альбо, па-іншаму, — “ідэйны натхняльнік”. Гэтак і адбылася ягоная кар’ера, ягонае імклівае ўзыходжаньне па службовай лесьвіцы.

**ЯСЬ**

Ясь ехаў у аўтобусе, глядзеў на брудна-белы зімовы горад. Свой родны горад, у якім ён нарадзіўся, зь якога ніколі не зьяжджаў болей чым на два месяцы, у якім хадзіў у сваю акцябрацка-піянэрска-камсамольскую школу, у якім скончаў сваю багемную мастацкую навучальную ўстанову... Горад, у якім ён працаваў на прагрэсіўнай радыёстанцыі і ў якім цяпер працуе над сваёй іранічнай тэлепраграмай. Гэты горад, які Ясь заўжды любіў (як часьцяком любяць — проста так — невядома за што, невядома чаму), цяпер гэты горад выклікаў пачуцьцё раздражненьня. Раздражнялі гэтыя ня вельмі чыстыя вуліцы, гэтае пабітае тынэйджэрамі шкло ў вялікіх рэклямных шчытах, гэтыя вечныя бабкі з клункамі — на базар, на базары, з базару, раздражнялі іхнія ідыёцкія размовы пра тое, як раней было добра, што ты, даражэнькая, усяго ж было — і каўбасы, і сала, а стоіла ўсё дзешава, можна было купіць, а цяпер ніхто рабіць ня хоча, усе купі-прадай, во таму жыць стала горай, а пеньсія малая, дык што рабіць, правільна я гавару ці не, раней што было? Раней было ізабіліе, а цяпер... ну, нічыво, цяпер у нас уласьць крэпкая, парадак навядут, нада толька, каб ім не мяшалі, бо не даюць работаць гэтыя ўрагі...

Толькі дзякуючы прыроднай сьціпласьці й стрыманасьці Ясь не пачынаў слоўныя баталіі з гэтымі бясконцымі бабкамі й дзядамі, якія, здавалася, заўжды складалі пераважную большасьць у аўтобусах, тралейбусах ды трамваях. Ясь думаў: куды ўвесь час едуць гэтыя старыя людзі? Куды іх нясе ў гэтых выцьвілых хустках,

выцертых футрах вырабу савецкіх фабрык 50-60-х гадоў, з гэтымі вёдрамі, сеткамі й пакункамі, з гэтымі кіямі, саматужна зробленымі з палак для іртаў? Яшчэ ён пытаўся ў сябе: чаму гэтыя людзі, якім, па ўсім, хутка паміраць (цьху-цьху, я нікому сьмерці не жадаю, хай бы сабе шчэ жылі, але...), якім трэба думаць пра Бога, пра вечнасьць, пра жыцьцё, пражытае добра ці нядобра, а яны літаральна выпраменьваюць нянавісьць, злосьць, крычаць, штурхаюцца, скардзяцца на ўсё, што бачаць, абражаюць увесь сьвет, брудна лаюцца па-расейску?

Вядома, Ясь прызвычаіўся да гэтых агрэсіўных пэнсіянэраў, тым болей, што знайшоў разумнае тлумачэньне іхняй вялікай колькасьці ў гарадзкім транспарце: справа ў тым, што, каб даехаць да незалежнай тэлестудыі, Ясю трэба было праяжджаць на любым транспарце паўз прыпынак "Рынак". Рынак і быў асноўным цэнтрам пасадкі-высадкі бабулек ды дзядоў. Адны ехалі туды чымсьці гандляваць, другія — нешта купіць таньней, чымся ў краме. Такім чынам, Ясь апынуўся ў цэнтры старэчага віру, і заставалася адно памяркоўна паставіцца да гэтае акалічнасьці.



Гэтак ён і спрабаваў да яе ставіцца, але ніяк ня мог суцішыць глухога раздражненьня, калі слухаў чарговую прамову чарговае бабулі (дзядулі).

Яшчэ раздражнялі каструбаватыя шыльды, надпісы, зробленыя безь ніякага ўяўленьня пра шрыфт, кампазіцыю й дызайн (Ясь вучыўся калісьці гэтым дысцыплінам). Гэтыя нягеглыя надпісы запоўнілі за кароткі час увесь горад — назовы розных камэрцыйных ды дзяржаўных крамаў, шапікаў, рэклямныя шчыты... Раздражняла тое, што большасьць гэтых надпісаў — па-расейску, а калі па-беларуску — дык настолькі непісьменна, нібыта аўтары гэтых надпісаў прыехалі сюды, прынамсі, з Кыргызстану.

Вельмі раздражнялі маладыя людзі з паголенымі галовамі. Гэтыя хлопцы апраналі турэцкія скураныя курткі

й кітайскія спартовыя нагавіцы. Размаўлялі гучна й мацерна паўсюль, дзе зьяўляліся. Яны пляваліся лушпайкамі ад семак альбо папросту сьлінай. Яны часьцяком былі нападпітку, але й цьвярозыя паводзілі сябе ня лепей за п'яных. Гэтае "новае пакаленьне" выклікала ў Яся адначасова раздражненьне, пагарду і, што непрыемна, боязь.

Вось калі, напрыклад, сустрэцца зь імі ўначы ў цёмным завулку, — думаў Ясь. — Зразумела, яны пачнуць чапляцца, каб адабраць грошы. Дый нават ня дзеля грошай. Яны пачнуць НАЯЖДЖАЦЬ, бо паводле іхніх законаў яны мусяць пачаць наяжджаць на чалавека, якога сустракаюць у цёмным завулку. І што тады я буду казаць гэтым ПАЦАНАМ? Наогул, як я буду дзейнічаць? Біцца? Дык іх жа шмат. Уцякаць? А пачуцьцё гонару? Нешта тлумачыць? Нічога не растлумачыш — гэта тое самае, што тлумачыць сьцяне альбо прадстаўнікам цяперашняе ўлады.

А музыка? Паўсюль — у рэстарацыях, кавярнях, таксоўках, крамах — нейкія крымінальныя песьні на трох "блатных" акордах. Пра турму, пра калёнію, пра зэка, які вярнуўся дамоў, а дома ўсё ўжо ня тое, што раней... Зрэшты, навошта пра гэта думаць, толькі галаву тлуміць, — Ясь выйшаў з аўтобусу й пакрочыў у бок незалежнае тэлестудыі.



**Заўвага.** Каб Ясь меў грошы, нармальны аўтамабіль і прыбытковую працу, дык ён бы й думаць ня думаў пра ўсе гэтыя рэчы. Каб ня езьдзіў у аўтобусах, дык не раздражнялі б яго пэнсіянэры. Ня боўтаўся б уначы па цёмных завулках, дык ня думаў бы пра гопнікаў. Было б нешта іншае: Ясь бы думаў стратэгічна: як ухіліцца ад падаткаў, як эвакуяваць фірму ў Расею (Польшчу), як набыць новую машыну, новую кватэру, новы офіс, новую жонку, як ня сесьці за валютны гандаль, як выжыць у дадзеных умовах.

І яшчэ невядома, што тут лепей. Але мы маем Яся,

якога маем: натуру творчую, інтэлігентную, неканструктыўную...

## АЛЕСЬ

Алесь нарадзіўся ў вельмі рэспэктабэльнай, тым болей для невялікага гораду, сям'і: бацька — дырэктар заводу, маці — загадчык бібліятэкі. Акрамя дырэктарства, бацька ўзначальваў нейкую там партыйную арганізацыю й пастаянна ці то па справах заводу, ці то па справах партыі езьдзіў у Маскву, Ленінград, Менск. Быў нават у Нямеччыне ды Фінляндыі. Аднаго разу зь Нямеччыны бацька прывёз Алесю дзіўныя й проста неверагодныя для таго далёкага шэрага часу рэчы — індзейскі галаўны ўбор зь пер'я, вялікі гнуткі лук з наборам стрэлаў ды набор зь пяці невялікіх індзейскіх фігурак. Раней Алесь меў хіба што набор "советские пограничники", які складаўся зь некалькіх маленькіх зялёненькіх плястмасавых жаўнерыкаў ды набор "ледовое побоище" — дзесяць крыжакоў ды дзесяць расейскіх ваяроў (гэты набор Алесь лічыў самым файным). Такім чынам, індзейцы захапілі Алеся цалкам. Фігуркі былі ладныя, гэткія міні-скульптуры, кожны індзеец меў свой твар, а кожны твар — уласны выраз. Лук страляў далёка, і ніводзін хлапчук у акрузе нат ня марыў пра гэткія цудоўныя рэчы.



Пры гэтым, нельга сказаць, што Алеся песьцілі. Бацька быў зь ім строгі, і за кепскую адзнаку Алесь мог дастаць вымову, пасьля якой рабілася сорамна й брыдка (горай, чымсьці атрымаў бы "папругі").

Затое маці заўжды шкадавала Алеся й суцяшала яго пасьля жорсткіх бацькавых вымоваў. Ад гэтых падпольных матчыных суцяшэньняў (падпольных, бо, каб гэтыя суцяшэньні заўважыў бацька, маці таксама атрымала б жорсткую вымову) рабілася яшчэ горш, хацелася плакаць, а плакаць нельга, бо мужчына ня мусіць гэтага рабіць, мужчына павінен усе гароты

сустракаць з мужным ды сумленным тварам, як у кнігах, — “на его лице не дрогнул ни один мускул”.

Трэба аддаць Алесю належнае — кепскія адзнакі ён атрымліваў рэдка. Толькі ў восьмай клясе зьявілася пагроза тройкі па маляваньні, але Алесь пасьпешліва й пасьпяхова ліквідаваў гэтую пагрозу.

Гэта тое, што датычыць вучобы. А тое, што тычылася вольнага часу, было наўпрост зьвязана з вуліцай — з вулічнымі кампаніямі, з турэмнай падлеткавай рамантыкай, зь піцьцём у пад’ездах “чарвіўкі” — звыклага беларускага савецкага напою, з гульнямі ў “цюху” ды “ножычкі”.

Горад Дзівагародак быў падзелены на сфэры ўплыву пяцьцю падлеткавымі групоўкамі. Калі ты маеш ад 13 да 18 гадоў і жывеш у пэўным раёне, дык аўтаматычна робісься ўдзельнікам тае ці іншае групоўкі (якая пануе ў тваім раёне). Алесь ніколі не адмаўляўся ад удзелу ў сваёй раённай групоўцы. З дванаццаці гадоў ён біўся з “чужынцамі”, і гэтыя “чужынцы”, старэйшыя за яго, заўжды палохаліся ягоных вачэй, якія ў бойцы раптам рабіліся дзікімі, вар’яцкімі, выпраменьвалі нянавісьць да ворага ды гатовасьць ісьці да апошняга.

Падчас бойкі ў Алеся нібыта ўсялялася нейкая магутная й таямнічая сіла, якая адначасова палохала й вабіла. Гэта заўважалі і свае, і ворагі, таму Алеся паважалі ды пабойваліся.

Аднаго разу (Алесю было ўжо шаснаццаць) у суботу ён з двума сябрамі-пацанамі пайшоў у забягалаўку “Крыніца”. Болей не было чым займацца аж да вечару, калі пачнецца дыскатэка ў кінатэатры “Космас”. Можна было, вядома, застацца дома, паглядзець тэлевізар, пачытаць кнігу альбо папісаць вершыкі (гэтае заразы Алесь таксама ня здолеў пазьбегнуць), але ў такую сьпёку... Карацей, патэлефанаваў Юрка, потым сустрэлі Цёму, пабадзяліся па двары й вырашылі пайсьці ў “Крыніцу”. Гэтая забягалаўка знаходзілася акурат на сумежжы двух раёнаў — іхнага (Мухлі) і суседняга (Рафаліна). “Крыніца” ўпарта, нібыта не зважаючы на бег

часу, захоўвала стылістыку 70-х гадоў. Тут ужо гадоў зь пятнаццаць нічога не рамантавалася, са столі зьвісалі папяровыя стужкі, аблепленыя мухамі, крэслаў не было, стаялі адно круглыя сталы на высокіх мэталёвых ножках. На кожным стале быў набор для наведніка — соль у плястмасавым слоіку з-пад сьмятаны ды аркушыкі мулкае бэжавае абгортачнае паперы ў гранёнай шклянцы. Яшчэ ў "Крыніцы" былі архітэктурныя ўпрыгожаньні — чатыры калёны, аздобленыя кавалкамі чорнае глянцавае кафлі й гэткімі ж па памеры аскепкамі люстранога шкла. Вось у гэтую забягалаўку (яшчэ яе называлі "стекляшка") і накіраваліся Алесь, Юрка ды Цёма.

Яны ўзялі сабе па піву, потым выпілі па другім куфлі, потым вырашылі перайсьці да чагосьці мацнейшага. Але былі падазрэньні, што ў "Крыніцы" ім нічога мацнейшага не прададуць, бо цётка за стойкай надта сур'ёзна ставілася да правілаў продажу сьпіртусовых напояў ("асобам, якія не дасягнулі 18-гадовага ўзросту..." і г.д.). Таму вырашылі, што Цёма, які выдае на дарослага, зганяе ў краму й прынясе "чарвіўкі", а потым яны незаўважна будуць наліваць яе ў куфлі (дзеля падстрахоўкі возьмуць яшчэ піва) ды выпіваць.

Такім чынам, Цёма выправіўся ў краму, а Алесь зь Юркам узялі сабе піва й працягвалі перарваную размову пра дзяўчат. Размова ўжо вычарпала сябе, а Цёма ўсё ня йшоў. Яны пачалі гутарыць пра апошнія мадэлі спартовых машынаў. Цёма ня йшоў. Яны ўжо размаўлялі пра сусьветны баскетбол, калі ў "Крыніцу" ўваліўся Цёма. Кашуля парваная, твар у крыві, на новых джынсах — зялёныя травяныя плямы.



Нічога не кажучы, Алесь зь Юркам выбеглі з "Крыніцы". Цёма пакульгаў за імі. Акурат на пагорку перад забягалаўкай яны ўбачылі некалькі пагрозьлівых постацяў — гэта былі ваяўнічыя "рафалінцы". Постаці пілі адабраную ў Цёмы "чарвіўку" — проста з бутэлькі,

перадаючы адзін аднаму.

Алесь пачаў баявыя дзеяньні без абвяшчэньня вайны. Ён уварваўся ў варожыя шэрагі й пачаў малаціць усіх без разбору. Ворагі трохі разгубіліся, бо не чакалі гэткага раптоўнага нападу. За Алесем на “рафалінцаў” кінуўся Юрка.

Алесь вельмі хутка нэйтралізаваў трох чалавек. Але “рафалінцаў” было шмат, хоць біліся яны й горш. Алесь з прыкрасьцю зазначыў, што пачынае стамляцца, задыхвацца. “Трэба кінуць паліць”, – падумаў ён. І гэта было апошняе, пра што ён падумаў. Бо акурат у гэты час несумленны “рафалінец” Сэрж з усяе моцы выцяў яго паўпустой бутэлькай з-пад “чарвіўкі” па галаве. Алесь хіснуўся ды зваліўся тварам у траву. Ягоная белая кашуля імкліва набрыняла крывёю.



– Э-э, стойце, Алеся забілі, – ціха вымавіў нехта.

Бойка скончылася. Ваяры ў жаху разьбегліся ў розныя бакі. Алесь застаўся ляжаць на пагорку перад забягалаўкай “Крыніца”. Праз гадзіну мусіла пачацца дыскатэка ў кінатэатры “Космас”.

## ЯНІНА

Калі казаць табе шчыра, страшна. Страшна за сябе, за яго, за нас, за нашую незразумелую будучыню.

Зрэшты, ты ж памятаеш, у гэтай краіне ніколі не жылося спакойна. Спачатку былі камуністы, ты тады яшчэ вучылася ў школе, пасьля – у інстытуце. Ты выдатна памятаеш тыя “лінейкі”, тыя нудотныя палітінфармацыі, тыя...



У пачатковых клясах ты вызначалася тым, што добра, “з выразам”, як казалі настаўнікі, чытала вершы. Таму цябе залічылі ў “чтецы”. І калі праходзілі зьезды розных партыяў-камсамолаў, цябе здымалі са школьных заняткаў, давалі аркушык з надрукаваным бляклым шматкапіркавым тэкстам. Часьцей гэта было нейкае ўзьнёсла-патэтычнае чатырохрадкоўе.

Цябе вазілі на рэпэтыцыі. Такіх, як ты, "чтецов", там было яшчэ зь пяцьдзясят, з розных школ. Усе былі задаволеныя тым, што іх вызвалілі ад заняткаў, і ўсе адчувалі сябе вышэй за астатнюю шэрую масу школьнага насельніцтва, якая сядзіць цяпер у абрыдлых клясах ды адказвае на пытаньні абрыдлых настаўнікаў.

Пасьля шматлікіх рэпэтыцыяў, прывілеяваныя "чтецы" мусілі "задорными" дзіцячымі галасамі выкрыкваць віншаваньне старэйшым таварышам. Выходзілі на сцэну чарговага ДК і адзін за адным, бяз зрываў, без імправізацыяў чыталі свае надзейна завучаныя радкі:

Для нас учёба — самый главный труд,
Знак качества — отличные отметки.
От нас глубоких, прочных знаний ждут
Свершения девятой пятилетки.

І ўсе гэтыя "паэтычныя чытаньні", напачатку любімыя й чаканыя, зь цягам часу пераўтварыліся ў нешта брыдотнае й непрыемнае.

Мама слухала "Голас Амэрыкі" й не хавала перад табою свае погляды на жыцьцё. Ты й раней падсьвядома разумела, што ў гэтых чытаньнях ёсьць нешта ненатуральнае, благое...

Аднаго разу ты зрабіла ўрокі, сабрала партфэль і легла спаць. Ты легла спаць малой бялявай піянэркай у белай кашулі, чырвоным гальштуку й сіняй парадна-піянэрскай спадніцы. А паднялася з ложку зусім іншая асоба — дзяўчына ў блакітнай джынсавай кашулі й вузкіх вэльвэтавых нагавіцах, якія падкрэсьлівалі хударлявую ладнасьць нядаўна сфармаванае фігуры.

Гэта прыйшло юнацтва.

Ты ніколі не была спакойнай ды памяркоўнай (чамусьці гэтых рысаў заўжды чакаюць ад насельнікаў нашага краю). У дзяцінстве ты была няўрымсьлівай, часта ўвязвалася ў непатрэбныя спрэчкі. А ў юнацтве табе неабходна было змагацца за праўду, час ад часу ўяўную, прыдуманую праўду, але ты кідалася на абаро-

ну яе, забываючыся на ўсё. Ты магла бясконца спрачацца з настаўнікамі, з кіраўнікамі рознага кшталту, са сваімі прыяцелямі. Ты вольна пачувалася ў розных дыскусіях, якія ўласьцівыя юнацтву.

Таму лёгка паступіла ў інстытут на факультэт, дзе трэба было валодаць словам ды ўмець даказаць выкладчыку й калегам-студэнтам рэчы, якія даказаць немагчыма ў прынцыпе. У гэтай сваёй навучальнай установе ты зьвярнула ўвагу на студэнтаў, якія, не хаваючы выкліку, размаўлялі па-беларуску ("на мове", як казалі іншыя). Гэтыя, што размаўлялі на мове, адразу спадабаліся табе. Ты — чалавек зь вельмі добрай інтуіцыяй. І ты вырашыла даверыцца сваёй інтуіцыі, калі цябе пацягнула да гэтых студэнтаў, бо за імі адчувалася нешта сапраўднае, нешта першаснае й трывалае. Яно хвалявала, вабіла й палохала.

Зрэшты, гэта ня значыць, што ты іх прыняла цалкавіта такімі, якімі яны ёсьць. Не. Ты спрачалася, даказвала, пераконвала, кпіла... Але ты была ўжо напалову зь імі. Аднаго разу цябе запрасілі на сход у іхні моладзевы клюб.

Гэта было прасторнае памяшканьне, якое іншымі днямі выкарыстоўвалася як маленькая канцэртная заля ці рэпэтыцыйная база для якогасьці дзяржаўнага музычнага калектыву. Амаль што ўсё памяшканьне было запоўненае людзьмі. Ты заўважыла, што гэтыя людзі, на дзіва, розныя. Доўгавалосыя, падобныя да рокераў, хлопцы, пачварныя дзяўчыны, якія, відавочна, прыйшлі сюды таму, што з гэткім экстэр'ерам на дыскатэцы няма чаго рабіць, людзі сярэдняга ўзросту й навуковага выгляду, маладыя экстрэмісты, якія спрачаліся й крычалі толькі цераз тое, што іхні ўзрост патрабаваў спрэчак ды крыку (зь цягам часу ў гэтага кантынгенту захапленьне беларушчынай мінула так, як мінае юнацкае захапленьне модным рок-гуртом). Былі тут людзі хваравітыя, для якіх гэтыя сходы былі адной зь нешматлікіх формаў самавыразу (падобнага да самавыразу графаманаў). Былі й разумныя, адукаваныя, прыгожыя

асобы, якія, як ты палічыла (і правільна!), увесь гэты моладзевы клюб і распачалі.

На паседжаньні клюбу запрашаліся вядомыя пісьменьнікі, палітыкі, музыкі.

Гэта быў час, калі камуністы здавалі пазіцыі — адну за адной. Паказальная палітыка галоснасьці вымагала ад іх падтрымкі моладзевых клюбаў. Разумныя людзі, якія размаўлялі "на мове", умела карысталіся гэтымі станоўчымі рысамі часу.

Па трох паседжаньнях ты зразумела, што для большасьці заўсёднікаў моладзевы клюб — гэта цікавая гульня. Але ты вырашыла трымацца бліжэй да разумнага й адукаванага ядра гэтае тусоўкі. Бо да гэтых людзей цягнула нейкая неадольная й, табе падалося, пазытыўная сіла.

**ЯСЬ**

Апэратар ужо чакаў.

— Прабач, Сеня, аўтобусу доўга не было, — сказаў Ясь.

— Нічога страшнага, — азваўся апэратар. — Усё адно камэра пакуль што занятая, забралі на нейкі тэрміновы рэпартаж.

— Як гэта забралі?! — абурыўся Ясь. — Я ж дамаўляўся на сёньня, на пэўны час.

— Ну, ты ж разумееш, там нейкія гарачыя навіны, хай сабе здымаюць, мы пачакаем, — сказаў памяркоўны Сеня й паглыбіўся ў чытаньне газэты.

Ясь зразумеў, што мае ня меней за дваццаць хвілінаў вольнага часу.

— Я хутка прыйду, — папярэдзіў ён Сеню й пайшоў на піва, балазе, шынок знаходзіўся побач з тэлестудыяй.

Ясь стаяў сярод мужчынаў у брудных спэцоўках, якія палуднавалі півам ды рыбай, удыхаў непаўторны брутальны водар піўнухі й думаў пра тое, што пачаўся нейкі дурнаваты жыцьцёвы пэрыяд — успаміны, ус-

паміны... Напалову жыву ў гэтых успамінах. Можа, гэта спосаб ухіліцца ад цяперашняй непрыемнай рэчаіснасьці? А можа, гэта той самы крызыс чарговага мужчынскага ўзросту, пра які шмат казалі, але які дагэтуль заставаўся чымсьці эфэмэрным, нявыпрабаваным на ўласнай скуры?

Ці, можа, гэта пакутлівая боязь пераменаў? Гэткі зацягнуты выхад зь юнацтва. Часы зьмяніліся, а ты ўсё думаеш пра залатыя юнацкія гады — старую кампанію, старых сяброў, пра той час, калі ты ня мусіў прыходзіць штовечар да жанчыны і быў, як табе цяпер падаецца, нашмат вальнейшы. Тады ўсё толькі пачыналася, і наперадзе мроіліся неабсяжныя зіхоткія далягляды. А цяпер... Нікога, бадай што, з тае кампаніі тут не засталося — усе разьбегліся хто куды. Нехта ў Амэрыцы, нехта ў Маскве, нехта ў Польшчы, хтосьці, нават, у Новай Зэляндыі, а ты працуеш (пакуль яшчэ) на незалежнай тэлекампаніі, вось чакаеш камэру й п’еш піва ў мярзотнай піўнусе, а галава ажно гудзе ад успамінаў, і ты ня ведаеш, што з гэтым рабіць.

## АЛЕСЬ

На прагрэсіўнай радыёстанцыі Алесь пазнаёміўся з Ясем ды Янінаю. Ясь штотыдзень рабіў перадачу іранічнага кшталту, а Яніна займалася музычнымі навінамі. І Ясь, і Яніна не былі паўнавартаснымі чальцамі радыёсуполкі — яны не вялі этэры, не дзяжурылі на тэлефонах...

Тут варта ненадоўга спыніцца на гэтых тэлефонах. Справа ў тым, што кожны дзень падчас жывых этэраў на прагрэсіўную радыёстанцыю паступала дужа шмат тэлефанаваньняў — у асноўным, гэта былі пэнсіянэры, абураныя тарашкевіцай ды формай падачы матар’ялаў, а таксама пазіцыяй журналістаў.



Тэлефанавалі, праўда, і нацыянальна сьвядомыя людзі — падтрымаць, за-

пэўніць у сваёй павазе й адданасьці агульнай справе.

Зрэдку тэлефанавалі дзеці — ад няма чаго рабіць.

І, нарэшце, тэлефанавала адна псіхічнахворая дама. Яна тэлефанавала штодня. Яна тэлефанавала яшчэ да таго, як на радыё зьявіліся Алесь, Яніна й Ясь. Яна тэлефанавала рознымі галасамі, па розных пытаньнях, з рознымі прапановамі. Яна выступала з розных пазыцыяў, якія часам былі дыямэтральна супрацьлеглыя — сёньня за камуністаў, заўтра за нацыяналістаў, пазаўтра — як прыхільнік нетрадыцыйнае мэдыцыны, наступнага дню — як глыбока праваслаўны чалавек. Гэтую даму называлі чамусьці Палягошкай. Напэўна, назоў гэты йшоў сваімі каранямі ў сівую гісторыю радыё, бо ні Алесь, ні тым болей Ясь ды Яніна ня ведалі этымалёгіі гэтага імя.

Шторанак адзін з чальцоў прагрэсіўнае рэдакцыі мусіў заступаць на пасаду дзяжурнага рэдактара. Дзяжурства зводзілася да адказаў на тэлефанаваньні. Гэта быў досыць непрыемны абавязак. Нешта тлумачыць абуранаму пэнсіянэру — рэч няўдзячная й малапасьпяховая. Выслухоўваць барадатыя тэлефонныя жарты ў выкананьні дзяцей, якія дурэюць ад таго, што няма чым заняцца — таксама малапрыемная справа. А ўжо размаўляць з Палягошкай...

Ні Яся, ні Яніну гэты тэлефонны абавязак ня тычыўся. Як ня тычыўся ён астатніх незалежных асобаў, якія ўдзельнічалі ў жыцьці радыёстанцыі толькі эпізадычна.

І тут Ясь пачаў ламацца. Ясь, які дагэтуль паўсюль ганарыўся сваёй незалежнасьцю, тым, што ён вольны мастак, раптам пачаў усё болей і болей прасякацца жыцьцём рэдакцыі, заставацца на калектыўныя сьвяты, сядзець у рэдакцыйным пакоі, гуляць у кампутарныя гульні... Скончылася тым, што Ясь заступіў дзяжурным рэдактарам. Спачатку, быццам бы, таму, што ў гэты дзень не было каму выконваць гэты абавязак, усе былі занятыя — папрасілі падтрымаць, дапамагчы адзін раз. Потым неяк сам сабою атрымаўся другі раз, потым — трэці... Сталыя супрацоўнікі рэдакцыі пасьмейваліся

(яшчэ адзін патрапіў у пастку журналістыкі!). Яніна думала: а можа, гэта й да лепшага?

Ясь зь цікавасьцю асвойваў новую прафэсію. А тут яшчэ заварушыліся рэклямадаўцы — усе хацелі даць рэкляму на папулярным прагрэсіўным радыё — і Ясь з задавальненьнем паглыбіўся ў рэклямную работу. Ён прыдумляў ідэі рэклямных ролікаў, частку гэтых ролікаў сам агучваў, падбіраў музыку...

Алесь ставіўся да яго з павагай. У ягоных зносінах зь Ясем існавала пэўная адлегласьць. Па-першае, Ясь быў старэйшы. Па-другое, на гэты час ён пасьпеў выдаць кнігу вершаў і дзьве кнігі прозы. Гэтыя кнігі былі нейкі час даволі папулярныя сярод беларускамоўнага кола. Яся запрашалі на розныя элітарныя вечарыны, юбілеі, банкеты. Яго добра ведаў нягеглы гарадзкі бамонд. Акрамя гэтага, Ясь маляваў карціны й нават зладзіў адну выставу сваіх твораў. Таму Алесь крыху пабойваўся Яся, хаця той выдаваў на кантактнага, незакамплексаванага, жартаўліва-лёгкага чалавека зусім без прыкметаў зорнае хваробы.

Неўзабаве Алеся запрасілі ў Варшаву, на польскае радыё. Ён мусіў правесьці там месяц (гэта былі своеасаблівыя курсы падвышэньня кваліфікацыі). На працягу гэтага месяцу Алесь мусіў працаваць у беларускай рэдакцыі: займацца бягучымі справамі, навучыцца карыстацца "Інтэрнэтам", сыстэматызаваць навіны, пісаць падводкі.

Да гэтага Алесь быў у Польшчы толькі аднаго разу. У тыя часы, калі яшчэ квітнеў гандаль між памежнымі краінамі. Алесь са сваім сябрам паехаў займацца так званым "польскім бізнэсам" — павёз на продаж гарэлку, запалкі, зубную пасту, фэн, бялізну. Сябар жа цягнуў удвая болей клунак ды яшчэ нейкім чынам правёз праз мяжу складны ровар. Сябар Сярожа быў увесь мокры ад напругі, але цягнуў усё сваё багацьце й ня скардзіўся на цяжкі лёс вандроўнага гандляра.

Першы іхні прыпынак быў у Беластоку. Непадалёк ад гарадзкога цэнтру раскінуўся шырокамаштабны ры-

нак. Тут гандлявалі расейцы, беларусы, украінцы, малдаване, кітайцы, палякі... Усіх аб’ядноўвала ламаная польская мова. Прычым, польская мова ў выкананьні кітайца вельмі розьнілася ад тае ж мовы ў вуснах расейца. Алеся вельмі нэрваваў гэты неверагодны, брыдотны пранонс: пани, пани, еще два тыщёнца! Блін, прыехала, старая курыца, навыкатвала сваіх, блін, сьмярдзючых тавараў з Тамбову. Прыперлася гандляваць, дык хоць бы збольшага мову гэтай зямлі б ведала! Ты ж, відаць, ня першы раз тут стаіш. Што за людзі! Пани, пани, смотри, какая кошолка, смотри, какая кошолка-то! Красота, а не кошолка! Што там яшчэ за кашолка? Блін, старая дурніца! Гэта яна так называе koszulku! Кашулька-кошолка! А што ёй, яна на пэнсіі, зарабляе грошы, каб нешта купіць дачцы, унучцы, нешта адкласьці, вярнуцца на сваю тамбоўшчыну, узяць новую партыю тавару, прыехаць зноўку сюды, прадаць, купіць нешта (у нас такого не найдёшь, поди!) дачцэ, унучцы, сястры... І гэтак бясконца. Што ёй, займацца вывучэньнем польскае мовы? Дулю табе. Яна й гэтак усё, што трэба прадасьць, купіць, прывязе, перавязе, памяняе. Бізнэс, хоць і брутальны, робіцца без валоданьня мовай. Значыцца, гэтая мова не патрэбная.

Якое дзярмо! – злосна думаў Алесь. Зрэшты, гэтаксамым дзярмом быў і ён, стоячы на брудным рынку й прапаноўваючы свае паганыя тавары польскаму спажыўцу. А ягоныя злосныя й непамяркоўныя (а яшчэ беларус!) думкі, відаць што, былі абумоўленыя бяссоннай ноччу ў перапоўненым цягніку (памежны кантроль, мытны кантроль беларускі, памежны кантроль, мытны кантроль польскі – чатыры праверкі за ноч, халера ясна!), ранішнім голадам (недзе ў клунках канапкі з салам, але дзе?..), усімі радасьцямі пахмельля (ага, ня ехаць жа насухую ў гэтым брудным цягніку сярод смуродных клуначнікаў у нясьвежых спартовых нагавіцах) ды міжвольнага адчуваньня спрычыненасьці да гэтае паскуднае інтэрнацыянальнае масы рынавчных гандляроў.

Так і стаялі злосны Алесь ды ягоны пануры сябра Сярожа на беластоцкім рынку. Абодва — у спартовых нагавіцах зь белымі палоскамі й штампаваных чорных кітайскіх куртках. Тавар ішоў слаба.

Добра йшла адно гарэлка. У сябра Сярожы яна ўжо скончалася. Алесь купіў сабе хот-дога (Сярожа адмовіўся, сказаў, што потым паесьць канапкі з салам, якія пакуль што недасягальна схаваліся сярод тавараў).



— Табе што, грошай на хот-дог шкада? — чамусьці пагрозьліва запытаў Алесь.

— Ды не, проста нешта есьці пакуль ня хочацца, — панура адказаў Сярожа, намагаючыся не глядзець на тое, як Алесь есьць смачны польскі хот-дог.

Рынак неўзабаве зачыніўся. Алесь зь сябрам Сярожам уладкаваліся на лаве з напалову непрададзеным таварам. Вакол шпацыраваў пасьля працы народ, жыцьцё віравала. Сярожа стаміўся й хацеў спаць. Алесь быў злосны й з задавальненьнем пачысьціў бы каму-небудзь пысу. Але тут ня родны Дзівагародак. Тут пысы чысьціць ня варта. Тут чужая краіна.

І раптам Алесь пачуў чысьцюткую расейскую мову:

— Чё, ребята, остановиться негде? Пошли, покажу, где недорогая гостиница.

— Так в гостинице, наверно, дорого... — падазрона прамармытаў сябар Сярожа.

— Да ты чё, в натуре! — засьмяяўся добразычлівы хлопец з залатым зубам, — фигня, пару копеек за ночь. Пошли!

І яны са сваімі клункамі й складным роварам пацягнуліся за хлопцам. Ішлі даволі доўга, і Алесь западозрыў, што тут нешта ня тое.

— Гэй, хлопчык, мы ўжо прайшлі чатыры розныя гатэлі. Ты куды нас вядзеш?

Яны стаялі на бязьлюднай вечаровай вулцы. Ускраек Беластоку. Леваруч — нейкія сады. Нечакана з-за

рогу шэрага дому выйшлі тры чалавекі.

— Ах ты, падла! — вылаяўся Алесь. — Рабаваць нас будзеце?!

Левай нагой з развароту па залатазубай паскуднай усьмешцы. Ёсьць! Ляжыць, сьвіньня. Будзе ляжаць хвілінаў пяць, я ведаю гэты ўдар. Цяпер гэтыя тры. Стань сьпінай да сьцяны, каб не падышлі ззаду.



— Сяргей, дапамагай!!!

Бакавым зрокам бачыць: сябар Сярожа ўцякае са сваімі клункамі. Ды што ж гэта за людзі такія?!

Сярэдняму з правай. Ага. Сярэдні добра б'ецца. Леваму... Левы гатовы. С-сукі. Сярэдняму пад дых. Блін. Сярэдні добра б'ецца. Праваму. Так сабе атрымалася. Гэх, каб не сярэдні! Так, гэты залатазубы ёлупень падымаецца. Праваму. Нармальна. Што там бліскае? Нож? Гэта горай.

— Сяргей, сволач, памажы!

Блін, гэта ня нож. Усё горш, чымся я разьлічваў.

Сябар Сярожа бег па малалюдных ускраінных вулках, ратуючы ад рабаўнікоў свой непрададзены тавар, асабліва ровар. За ровар можна атрымаць вялікія грошы. Гэта сказала яму сястра, а сястра ведае, яна ўжо некалькі разоў езьдзіла ў Польшчу гандляваць.

Раптам адтуль, дзе ён пакінуў Алеся, пачуўся гучны стрэл. Праз імгненьне — другі. Потым усё сьціхла. Сябар Сярожа спыніўся. Ён пачакаў зь дзьве хвіліны. Ціха.

— Ратуйце!!! Ратуйце!!! — нема зароў сябар Сярожа. — Паліцыя! Чалавека забілі!

Паліцыя прыехала праз пяць хвілінаў.

## АЛЕСЬ

Ехаць яму давялося ў адным купэ зь Ясем. Таму трэба было ў Варшаву па сваіх справах, яны дамовіліся, купілі квіткі й цяпер бавілі час за нетаропкай размоваю, перамяшанай з трункамі (гарэлка+кока-кола). Дагэтуль яны рэдка размаўлялі сам-насам. А цяпер нічо-

га іншага не заставалася — пакуль пройдзеш усе гэтыя бясконцыя польска-беларускія мытна-памежныя кантролі — спаць усё адно немажліва, бо ўвесь час будуць абуджаць розныя адказныя асобы (падрыхтуйце пашпарты да кантролю, пакажыце ваш багаж і г.д.). Гуляць у карты? Дык не ўзялі картаў.

— Я дагэтуль ніколі ня быў за мяжою, — казаў Алесь. — Толькі аднаго разу, але гэта была настолькі брутальная паездка, што нават узгадваць няма жаданьня.

— А-а, езьдзіў па гандлёвых справах, — усьміхнуўся Ясь. — Разумею... А я дык ніколі не гандляваў.

Першым разам Ясь паехаў за мяжу тры гады таму. У Польшчу. Для шматлікіх тагачасных нашых гандляроў Польшча не асацыявалася зь нейкім там замежжам. Сярод цынічных і малапісьменных гандлярскіх колаў была папулярная прымаўка “курыца — ня птіца, Польшча — не заграніца”. Гэтая прымаўка страшэнна абурала Яся, як у дзяцінстве абурала падобная — “курыца — ня пціца, баба — не чалавек”. Тады, у дзяцінстве, Ясю было брыдка слухаць гэтыя сэнтэнцыі з вуснаў вечна падпітых дваровых каралёў, якія й выглядам і сьветапоглядам самі мала выдавалі на людзей. А калі ён чуў гэтае “Польшча — не заграніца”, дык думаў, што для гэтых гандляроў хутка нічога ня будзе заграніцай. Сфэра іхняга гандлю пашырыцца, неўзабаве перастане быць “заграніцай” Нямеччына, потым Францыя. Што ім! Яны паўсюль будуць пачувацца, як дома. Калі толькі ёсьць грошы й калі да іх не зусім варожа ставіцца мясцовае насельніцтва. Вось дзіўна! Чым лепей да іх стаўленьне, тым яны нахабнейшымі робяцца, тым меней “заграніцы” адчуваюць.

Для Яся ж першы выезд за мяжу быў ледзьве не рытуальным абрадам. На той час усходняя Польшча цікавілася новай беларускай музыкай. І вось на адзін з польскіх рокавых фэстываляў запрасілі гурт, для якога Ясь пісаў тэксты песьняў. Так ён апынуўся ў ня вельмі новым “РАФіку” з кампаніяй кашлатых музыкаў у бяс-

концай чарзе на савецка-польскай мяжы.

Спрытны прайдзісьвет — адміністратар гурта — пабег да мытнікаў дамаўляцца.

Музыкі выпілі па сто грамаў. Прапанавалі й Ясю, але ён адмовіўся. Не хацеў мець затлумленую алькаголем галаву, хацеў, каб гарэлка не замінала, не прытупляла вастрыню адчуваньняў. Глядзеў на самаходы, што выяжджалі з польскага боку — бліскучыя, сучасныя, модныя, старыя, пыльныя, нямодныя — розныя. Глядзеў на брудных кіроўцаў ды іхніх спадарожнікаў, якія вымушаныя былі стаяць на гэтай мяжы па тры дні. Глядзеў на бабак, тутэйшых бабак, якія гандлявалі півам даражэй утрая. Глядзеў на гармідар, на горы сьмецьця ўздоўж дарогі...

Таленавіты прайдзісьвет — мэнэджэр — дамовіўся. Машыну з музыкамі прапусьцілі.

Ясь падумаў: вось яно! Зараз! Але да гэтага "зараз" трэ было яшчэ прайсьці розныя мытна-памежныя кантролі, запаўненьні дэклярацыяў ды іншыя малапрыемныя працэдуры. Пасьля тых працэдураў Ясь даведаўся, што мэнэджэр невядома нашто прыхапіў з сабою безьліч рознае сантэхнікі, намёт (няўжо ён сабраўся ў ім начаваць!), некалькі дзясяткаў набораў рыштунку, дзіцячае адзеньне, процьму запалак, некалькі цыгарэтных блёкаў і яшчэ шмат чаго. Басіст абмежаваўся фэнам, цыгарэтамі й гарэлкай. Бубнач вёз станікі, майткі, шлапакі й розныя дробныя гаспадарчыя прылады. Гітарыст вёз адно даволі шмат гарэлкі, але гледзячы па тэмпах паглынаньня гэтага напою, дык, відаць што, вёз ён яе для сябе.

І вось нарэшце! Чаканае "яно" — пераезд празь мяжу. Яны нейк раптоўна апынуліся на польскай тэрыторыі. Тут чамусьці не было гэткае дзікае чаргі й гор сьмецьця.



— Ура! — крыкнуў Ясь. — Мы на вольнай зямлі!

Музыкі падтрымалі яго ваяўнічымі воклічамі.

А за шыбамі плылі чужыя краявіды. Дагледжаныя палеткі, сады. Маленькія мястэчкі бяз звыклых для савецкага вока адміністрацыйных забудоваў зь белае цэглы, упрыгожаных сьветла-сінімі дзьвярмі. Без вайсковых КПП з расхрыстаным "дзедам" на парозе.

Ясь адчуваў сябе неяк урачыста, нібыта напярэдадні Калядаў.

Насамрэч, ён сам сабе прыдумаў гэтае сьвята. Для музыкаў то быў ужо трэці выезд у Польшчу, яны глядзелі на ўсё цьверазейшымі (нягледзячы на выпітае) вачыма. А Ясь літаральна купаўся ў сваім адчуваньні ўрачыстасьці, у гэтым срэбным зьзяньні, якое ахутала ўсё наўкола й зьмяніла абрысы дрэваў, дамоў, людзей...

— А я дык ніколі не гандляваў, — сказаў Ясь Алесю. — Неяк мяне абышла гэтая хваля.

— А мяне вось закранула. Але я гэтым займаўся ўсяго толькі адзін раз і так няўдала, што потым ужо ніколі не хацелася.

З раніцы яны, тупыя й нявыспаныя, сядзелі ў прасторным навучальным памяшканьні й слухалі спавешчаньні розных студэнтаў — беларусаў ды палякаў з нагоды чарговых угодкаў абвяшчэньня БНР. Ясь скіроўваў усе намаганьні на барацьбу са сном, Алесь адчуваў сябе больш бадзёра й нават (хай сабе й нязначна) паўдзельнічаў у агульнай гутарцы.

**ЯСЬ**

— Я так і думаў, што ўсё зьляціць, — бурчэў Ясь. — Калі забралі камэру на дваццаць хвілінаў, можна сьмела сыходзіць. Бо гэта значыцца, што забралі на ўвесь дзень. Хаця, між іншым, пасьлязаўтра — мая перадача ў этэры. Зноўку будзем усё рабіць у апошні момант...

— Што нам — першы раз? — сказаў Сеня. — Не бяры да галавы. Прыходзь заўтра а дзявятай, усё вырашыцца.

Ясь ведаў, што гэтак і будзе — усё вырашыцца, усё будзе зроблена, і някепска зроблена, але на разьвітаньне прабурчэў нешта незадаволенае й выйшаў з кватэры, дзе месьцілася тэлестудыя.

“Чаго ты ўсё бурчыш?” — запытаўся ў Яся ўнутраны голас. Ты ж раней ніколі не бурчэў, як цяпер, безь ніякае падставы! Што гэта за новыя рысы характару прачынаюцца ў табе? Адкуль гэта? Яно ня ўзроставае — табе ж ня 70 гадоў. Ты ж бачыш — усе заўважаюць гэта. І Яніна надоечы сказала табе, што ў старасьці ты будзеш папросту невыносным надакучлівым дзедам, якому ўсё не падабаецца. А яшчэ сьмяесься з пэнсіянэраў! Ты ж сам недалёка ад іх адыйшоў. Яшчэ трошкі й будзеш сапраўднай копіяй сярэднестатыстычнага беларускага пэнсіянэра.

“Што ты вярзеш?!” — абурыўся Ясь на свой унутраны голас. Пры чым тут пэнсіянэры? Я бурчу, бо няма ўнутранае гармоніі, няма спакою, ня тое што гармоніі! Я здольны чалавек, але ў цяперашняй сытуацыі не магу рэалізаваць сябе нават напалову! Пра што тут можна казаць! Я жыву ў дзяржаве, якая варожа да мяне ставіцца, але я вельмі люблю гэтую краіну. Мне часам здаецца, што я ненавіджу гэтае быдла, але часьцей здаецца, што я вельмі люблю гэты народ. Усё маё цяперашняе жыцьцё — суцэльныя супярэчнасьці, я жыву на мяжы паміж тым і гэтым. Я вельмі люблю Яніну, але і зь ёй мне цяпер цяжка жыць. Хочацца самоты. Роздуму. Але на самоце пачынаецца ня роздум, а нейкія самакапаньні, настальгія, інтэлігенцкія штучкі, ад якіх варта пазбавіцца. Бо ў гэтай сытуацыі мая інтэлігентнасьць — мой вораг. Ва ўладзе — жорсткія, цынічныя й актыўныя калгасьнікі. У такой дзяржаве я прападу са сваёй “складанасьцю натуры”.

— Прыдурак, — адказаў унутраны голас. — Тое, што я зараз чую, і ёсьць інтэлігенцкія штучкі. Уся твая “складанасьць натуры” палягае на тым, што ты вельмі нерашучы чалавек. Твой (даруй мне штамп) унутраны стрыжань недастаткова цьвёрды, каб трымаць тваю асобу

ў гэтай, напраўду цяжкай, сытуацыі. “Складаная натура”! Якая лухта! Вядома, складаным быць значна лягчэй, чымсьці быць простым. “Складанай натуры” ня трэба прымаць кардынальныя рашэньні, ня трэба рабіць рашучыя ўчынкі. Гэтыя людзі заўжды на ростанях — вось як ты цяпер зь Янінаю — і зь ёй жыць ня можаш, і безь яе ня можаш. І нічога ня трэба вырашаць. І ні на што ня трэба вырашацца. Бо — “складаная натура” — столькі нюансаў, столькі адценьняў. Жывеш нейкімі ўяўнымі ўспамінамі — “вось за ранейшым часам — як добра ўсё было”. Якое табе “добра” было за ранейшым часам?! Ледзьве зарыентаваўся ў тым часе, ледзьве ня выпаў з жыцьця. З гэткай натурай любы час будзе аднолькава цяжкі. А ва ўспамінах — ідылічна добры. Вось пачакай, празь пяць гадоў будзеш узгадваць гэты час з паскуднай настальгічнай сьлязой на вачох!



— А пайшоў ты нафіг! — адказаў свайму ўнутранаму голасу Ясь.

І пакрочыў між высокіх сьнегавых гурбаў у дом з надпісам “1975”.

## ЯНІНА

А тады ў цябе быў такі сьмешны хлопчык — музыка-пачынальнік, рокэр. Ён гадзінамі разважаў пра ўсеабдымнасьць рок-музыкі й пра ахвяру йдэі рок-н-ролу. Слухаць гэтыя ўзьнёслыя падлеткавыя сэнтэнцыі, ад якіх, да ўсяго, патыхала кепскай адукацыяй, было нудотна. А яму з табою было, наадварот, цікава, ён самасьцьвярджаўся цераз гэтыя свае патасныя развагі. Ён здаваўся сабе мужным ды гераічным.

Зрэшты, нешта цягнула цябе да гэтага хлопца, было ў ім штосьці гэткае... экзатычнае, ці што? Вы часта сустракаліся і, каб ня тыя размовы пра “служэньне рок-музыцы”... Але размовы не сьціхалі, магнітафон аднаўляў касэту за касэтай, ты вымушаная была ўсё слухаць і неяк рэагаваць. А імпэту ўсё меншала.

А тут прыйшло Купальле. Твае прыяцелі, якія паў-

сюль размаўлялі па-беларуску, запрасілі цябе на сьвяткаваньне. Адзначацца мусіла яно, як і належыць, уначы на прыродзе каля рэчкі.

Вы доўга ехалі на электрычцы, потым прайшлі кілямэтры з два пешкі па вясковай дарозе, падняліся на высокі, зарослы густым лесам, пагорак. У гэтым лесе спыніліся. Унізе люстравала шырокая рака. Пачалі раскладаць вогнішча й рыхтавацца да сьвята.

І было вас ня так ужо й шмат — чалавек, відаць што, пяцьдзясят.

За перадсьвяточнымі турботамі (які банальны выраз! Але дарэчы) ніхто не заўважыў, што з-за дрэваў за вамі назіраюць тры чалавекі ў цывільным.

Адзін зь іх неўзабаве выйшаў да вас.

— Слушайце, а как прайці на станцыю? — упэўнена запытаў ён.

Растлумачылі.

— А што эта вы тут дзелаеце? — таксама надзвычай упэўнена пацікавіўся цывільны.

— Ды вось пікнічок наладжваем, — адказаў яму нехта.

— А-а, ну давайце, — дазволіў чалавек у цывільным і адышоў за сваё дрэва.

Вы пасьмяяліся.

Праз колькі хвілінаў з-за дрэваў, бы карны атрад вэрмахта, ланцугом выйшлі міліцыянты.

Павязалі ня ўсіх. Але большасьць. Тым болей, што большасьць не ўцякала.



Твае ранейшыя стасункі зь міліцыяй былі зусім мізэрныя — аднаго разу ты стаяла з кампаніяй 17-гадовых хлопцаў ды дзяўчат у пад'езьдзе. Гэта было даўно, тры гады таму. Вы стаялі ў пад'езьдзе, гучна размаўлялі й пілі з рыльца таннае беларускае пладовае віно.

Нехта з жыхароў выклікаў міліцыю.

Тады ў пастарунку табе трэба было растлумачыць, чаму ў позьні час ты парушала гучнымі размовамі спа-

кой жыхароў пад’езду й чаму выпівала сьпірытусовыя напоі, нягледзячы на малады ўзрост.

Задача была вырашаная бліскуча. Праз паўгадзіны міліцыянты адпусьцілі цябе, нават завезьлі дахаты на машыне. І ўсё зьдзіўляліся, як гэта такую адукаваную дзяўчынку гэтыя “малалетнія бандзюкі” зацягнулі ў сваю кампанію?

Гэтым разам ты нічога не хацела ім тлумачыць. Не хацела апраўдвацца. Ты глядзела на гэтыя ахлялыя міліцыянцкія твары й думала: а якія, цікава, у вас сьвяты? 7 лістапада? 1 мая? 23 лютага? Цьху, мярзота! Ніхто ж не замінае вам у гэтыя вашыя сьвяты зьбірацца дома альбо на працы, піць, прамаўляць паскудныя, банальныя да непрыстойнасьці тосты, карацей, сустракаць сьвяты гэтак, як вы лічыце патрэбным. Чаму ж, як толькі МЫ вырашылі сустрэць сваё сьвята, вы прыперліся й паскудзіце нам жыцьцё?!

Вас завезьлі ў мясцовы выцьвярэзьнік, бо ў пастарунку бракавала мейсца для такой вялікай кампаніі. Сноўдалі нейкія тыпы ў цывільным, нешта ціха казалі міліцыянтам. Тыя выглядалі так, нібыта выканалі рызыкоўную баявую апэрацыю.

Старэйшыя арыштаваныя трымаліся спакойна, нават разважліва. Відаць, што яны былі падрыхтаваныя да гэткага разьвіцьця падзеяў. Маладзейшыя пабойваліся, але, зразумела, не хацелі гэта дэманстраваць. Таму паводзілі сябе ненатуральна сьмела й нахабна.

Апэрацыя працягвалася сем гадзінаў. Твае дадзеныя перапісалі, цябе дапыталі, на цябе склалі пратакол.

Ты ледзь ня выляцела з інстытуту пасьля гэтага знамянальнага сьвяткаваньня.

## ЯНІНА

У гэтай краіне нічога не зьмяняецца, — думала Яніна, мыючы гару посуду (пасьля ўчарашніх гасьцей). Мінула дзесяць гадоў пасьля таго Купальля. І што? Тое самае. Міліцыянты, тыпы ў цывільным, ідэалягічная работа у школах, інстытутах, на заводах... Хто мог паду-

маць, што мы апынемся ў гэткай сытуацыі? Няўжо трэба было зьяжджаць? Няўжо трэба было кідаць гэтую краіну? Але тут сябры, тут хаця нейкая, а ўсё ж праца, тут дом... Хаця сяброў з кожным днём менее — хто за мяжу, хто за краты. Праца заўжды пад пагрозай забароны — штодня чакаеш, што ўлады зачыняць тэлестудыю. А дом... Дом недагледжаны, даўно не рэпараваны. У кухні столя пачарнела, фарбаваныя сьцены патрэскаліся, у залі на падлозе пааддзіраўся лінолеум, шпалеры старыя, выцьвілыя. Мэбля...



Думкі перарваў званок у дзьверы. На парозе стаяла малая пляменьніца Яніны, Воля. Вакол Воліных ног круціўся, матляў хвастом, павіскваў, пасьміхаўся белазубай пашчай, стукаў кіпцюрамі па падлозе калматы, страшэнна беспародны, але вельмі мілы й добразычлівы сабачка.

— Гэта яшчэ хто? — разгублена запыталася Яніна.

— Яніна, гэты сабачка тры дні ў нас тут па вуліцы бегаў (Воля жыла ў суседнім пад'езьдзе). А бачыш жа, як халодна. Ледзьве не замёрз. А сёньня, уяўляеш, еду да вас, выходжу зь ліфту, дык ён у вас на пляцоўцы сядзіць. Як убачыў мяне, дык так узрадваўся, так узрадваўся!

— Дык чаму ж ты яго не ўзяла да сябе, а прывяла сюды?

— Ну, па-першае, Яніна, я ж усё адно да вас ехала. А па-другое, ты ж ведаеш маю маму.

Падчас мыцьця шампунем і мылам супраць блох (іх, дарэчы, была процьма), калі блохі ўсім працоўным калектывам цеклі, падхопленыя бруднай плыньню, у каналізацыйную трубу, Яніна падумала пра сабачку: дзіўна, як гэта яны цябе дарэшты ня зьелі! Пасьля выціраньня рушніком, сабачка раптам займеў надзвычайна вясёлы настрой. Шчыра кажучы, падчас мыцьця настрой ягоны быў кардынальна іншы. Па сабачкавым выглядзе беспамылкова чыталіся ягоныя думкі: вось тут мне і капец! Нека-

лькі разоў сабачка спрабаваў выскачыць з ванны. Адзін раз гэта ў яго атрымалася, але намаганьнямі Волі й Яніны ён быў зноўку зацягнуты на мейсца катаваньняў. А тут ён раптам акрыяў, зразумеў, што гэтым разам давялося пазьбегнуць капца й пачаў шалёна насіцца па ўсіх нешматлікіх памяшканьнях Янінінай кватэры. Пры гэтым ён абтрасаў зь сябе рэшткі вады, пакідаючы на старэнькіх зялёных шпалерах маляўнічыя пырскі.

— Ну што, Волечка, давядзецца табе цяпер шторанак выгульваць твайго сабачку. Дый штовечар таксама было б някепска, — сказала Яніна.

— Я згодная, я згодная! — абрадавалася Волечка. — Толькі хай ён застанецца тут. Ты ж ня выкінеш яго на вуліцу?

— Калі ня будзеш яго гуляць, дакладна выкіну, — выракла Яніна без належнага мэталу ў голасе.

Сабачка прысеў у вітальні й нацудзіў на дзіва вялікую для сваіх памераў лужыну.

— Ну вось! — абурылася Яніна. — Выцірай!

— Не-е, мы так не дамаўляліся, — запратэставала Волечка. — Я абяцала яе гуляць, а не падціраць за ім сікуны!

— Тады зараз жа пойдзеш зь ім да сваёй мамы й разьбірайцеся, як сабе хочаце.

— Ну Янінaчка, ну калі ласачка, ну ён жа зусім малы шчэ, ён навучыцца, я сама яго буду вучыць, я ўсё буду рабіць, толькі не выкідай яго!

— Тады выцірай.

## АЛЕСЬ

Прагрэсіўнаяная радыёрэдакцыя займела высокі рэйтынг. Час штодзённага этэру павялічыўся.

У старым сталінскім будынку радыё, дзе супрацоўнікі прызвычаіліся да шэрых нясьвежых гарнітураў, зашмальцаваных гальштукаў, сельскай раніцы, сустрэчаў зь песьняй ды зь цікавымі людзьмі, старонак вершаванага радка й іншых гнюсных штампаў, журналісты з прагрэсіўнае рэдакцыі выклікалі ціхае абурэньне, калі

не нянавісьць.

І заслужана. Яны прыходзілі ў будынак радыё ў рокэрскіх куртках, каўбойскіх ботах, міні-спадніцах, з доўгімі (мужчыны) валасамі, з кароткім (жанчыны) вожыкам. Яны раскопвалі нейкія скандалы, яны рабілі журналісцкія расьсьледаваньні, яны нэрвавалі сваёй маладой актыўнасьцю.

Ва ўладзе былі дэмакраты. Але радыйнае начальства як было, так і засталося старым, камуністычна-намэнклятурным.

Штотыдзень гэтае начальства выклікала шэфа рэдакцыі ды ўшчувала: тарашкевіца, што гэта за "парлямант", паступаюць абураныя лісты, вось пачытайце: "не засірайце эфір "парлямантамі" і "блёкамі", што вы на гэта скажаце, вашае шчасьце, што цяпер ня той час, і вас нельга ўзяць ды зачыніць, ты ж разумееш, мне-та ладна, але ж тут звоняць зь Вярхоўнага Савету, мяне ж driучаць...

Нягледзячы на гэта, рэдакцыя працавала.

Набліжаўся новы год. Ніхто ня ведаў, што гэты год рашуча зьменіць жыцьці супрацоўнікаў прагрэсіўнае рэдакцыі.

29 сьнежня ў будынку радыё па старой завядзёнцы выцягнулі на калідоры сталы й пачалі сьвяткаваць.

Супрацоўнікі прагрэсіўнае рэдакцыі час ад часу дзеля ветлівасьці падыходзілі да агульных сталоў, але большасьць часу сьвяткавалі ў сваім габінэце, балазе з калідору сярод агульнага гармідару (сівабародых тостаў, ухвалаў і падхалімства) можна было амаль незаўважна прабрацца ў адчыненыя дзьверы рэдакцыі.

З калідору даносіліся гукі сьвяткаваньня. У рэдакцыйным пакоі сядзелі:

Алесь,

Марына — маладая дама, што вяла гумарыстычныя й жаночыя праграмы,

Зьміцер — выпускнік журфаку, які быў вядомы тым, што хапаўся за розныя праекты, за розныя ідэі, кідаўся іх ажыцьцяўляць, пераконваў усіх у вартасьцях таго,

што робіць, празь месяц губляў цікавасьць да ўсяго гэтага, а потым, яшчэ празь месяц, зьяўляўся з новымі геніяльнымі ідэямі ды праектамі,

Алена — журналістка, якая працавала адначасова на прагрэсіўную рэдакцыю й на тры замежныя радыёстанцыі. У прагрэсіўнай рэдакцыі рабіла "для душы", у замежных станцыях — каб забясьпечыць матар'яльна сябе ды сям'ю.

Яны сядзелі й гутарылі пра тое, што сустракаць Навагодзьдзе ў будынку радыё, ды яшчэ 29-га, ды яшчэ сярод шэрапінжачных супрацоўнікаў рэдакцыі сельскае гаспадаркі — цяжка прыдумаць штосьці дурнейшае. Незразумела было, навошта яны наогул прыйшлі сюды. Мажліва, таму, што шэф рэдакцыі на апошняй "лятучцы" іх пра гэта папрасіў, маўляў, на нас тут усе й гэтак крыва глядзяць, давайце ўсё ж возьмем удзел у гэтай брыдотнай імпрэзе. Я, канечне, разумею, гэта непрыемна, але давайце сябе прымусім...

Яны выбіраліся з будынку радыё па адным. Кароткімі перабежкамі. Каб не пакрыўдзіць шэфа, каб не глядзелі крыва. Бо на калідоры сьвяткаваньне толькі-толькі набрала належныя абароты — удзельнікі перайшлі да сьпеваў. Першай выйшла Марына. Яна несла заплечнік. У заплечніку была верхняя вопратка (ейная, Алесева, Зьмітрова й Аленіна). Крохкая Марына ледзьве цягнула цяжкі заплечнік, але іншае кандыдатуры дзеля гэтага не было: астатніх занадта добра ведалі на радыё, і Марына мела болей за ўсіх шанцаў незаўважна прабрацца да выхаду. Гэта атрымалася, і цяпер яна чакала ўсіх ля нэрвовага вартавога міліцыянта, якому таксама карцела сьвяткаваць, але служба...



Другім па калідоры сьлізнуў Зьміцер. Нібыта йдзе ў прыбіральню. Атрымалася. Па лесьвіцы ўніз. Нармальна. Цяпер яны ўдваіх чакаюць Алену й Алеся.

Тыя выйшлі з габінэту разам. І адразу да іх падыйшоў намесьнік старшыні радыё. Нягледзячы на штодзённую загартоўку, намесьнік быў ужо добра падда-

ты.

— Алесь, чуеш, хадзі сюды, — паклікаў намесьнік. — А ну, выпі самагонкі. З маёй вёскі, — і наліў поўную шклянку. — Праверым цябе на трываласьць. Як на фронце. Давай!

— А можна палову? — спытаўся Алесь.

— Ня можна. Пі да дна. Як на фронце. Праверым загартоўку.

— А можна гэта зрабіць пазьней? — спыталася Алена. — Ну, напрыклад, праз паўгадзіны?

— Нельга. Хай п'е цяперака. Да дна. Як на фронце. Праверым загартоўку.

"Ты, блін, камуняка паганы, будзеш правяраць маю загартоўку?! — падумаў Алесь. — Маю?! Загартоўку дзівагародца?! Загартоўку мухляўца?! На! Атрымай!"

За імгненьне Алесь каўтануў поўную шклянку самагонкі й запытаў намесьніка: цяпер можна йсьці далей?

— Нельга, — няцьвёрда азваўся намесьнік. — Цяпер трэба зрабіць стойку на руках.

— А вы самі зробіце? — запыталася Алена.

— А то! — сказаў намесьнік і імкліва стаў на рукі. Зь ягоных кішэняў пасыпаліся грошы, асадкі, дакумэнты, ключы... Стаяў ён нядоўга, сэкунды тры. Потым абрынуўся на сьвежалякаваны паркэт. Кроў прыліла да твару намесьніка, алькаголь, відаць што, таксама імгненна даў у галаву. Намесьнік нешта неразборліва мармытаў, седзячы на падлозе.

— Я яго ведаю, — сказала Алена. — Гэтую птушку Фэнікс. Праз дваццаць хвілінаў будзе, як агурок, зноўку пачне піць і заляцацца да ўсіх дам, маладзейшых за сорак пяць.

Яны выйшлі ў зімовы вечар. На іхнія галовы падаў мярзотны мокры сьнег, іх падштурхоўваў у сьпіны моцны вецер. Дадому йсьці не хацелася. Дзеля шпацыру не было ўмоваў. Алесь прапанаваў зайсьці ў якую-небудзь збольшага прыстойную кавярню.

— Няхай ад вечара застануцца ня толькі кепскія ўражаньні.

Рэстарацыя называлася “Татры”. Апроч Алены, ніхто зь іх тут дагэтуль ня быў (Алена была вялікай знаўцай розных установаў падобнага тыпу — ад бараў да казіно, ведала ледзьве ня ўсе файныя месцы ў горадзе). Усё выглядала вельмі культурна, ва ўсякім выпадку, не было абавязковых для нашых “кафэ” барвовых паўпразрыстых фіранак, не было мажных чырвонатварых афіцыянтак з традыцыйна савецкім выглядам (мажнасьць, шэры ільняны халат, залаты зуб, валасы накручаныя на бігудзі) і манэраю абслугі. Дык вось, нічога вышэйпералічанага тут не было. Былі чыстыя абрусы, мяккае асьвятленьне, блішчэлі нікеляванымі дэталямі піўныя кранікі за барнай стойкай. Афіцыянты ў камізэльках імгненна мянялі попелкі.

Замовілі халодныя закускі й бутэльку гарэлкі. Зьміцер у дадатак замовіў сабе чэскага разьліўнога піва.

— Ну вось, хоць адчуваеш сябе чалавекам, — прамовіў Зьміцер. — Хаця па чымсьці й відаць, што тут раней была сталоўка...

— Ну, ты ўжо захацеў, паночак, каб усё было як у Эўропе, — усьміхнулася Алена. — Ёсьцека ў нашым горадзе некалькі такіх установаў, але ж і кошты там адпаведныя. Нашая кумпанія не пацягне.

— А я, — сказаў Алесь, — прапаную выпіць за ўдалыя ўцёкі з вар’яцкага шабашу.

Тым часам у канцы вялікае рэстарацыйнае залі пачаў запаўняцца доўгі сьвяточны стол. Публіка, якая рассаджвалася вакол гэтага стала, відавочна, актыўна працавала над сьціраньнямі межаў паміж крыміналам і бізнэсам. Зьміцер, які заўжды асьцярожна ставіўся да рэстарацыйных суседзяў, бо меў нетрадыцыйны для гэтае краіны выгляд, а значыцца, меў і сумны досьвед паганага суседзтва, краем вока заўважыў сярод голеных галоваў, залатых ланцугоў, доўгіх жаночых ног і набрыяліненых мужчынскіх валасоў свайго даўняга знаёмага. Гэты знаёмы ведаў і Алену, і Марыну, і Алеся. Невядома, як ён апынуўся сярод крымінальных людзей. Вядома толькі, што лёс кідаў гэтага знаёма-

га з боку ў бок: апошняга разу Зьміцер сустрэў яго на вуліцы, бруднага, п’янага й беспрацоўнага. А перад тым ён быў фатографам, гукарэжысэрам, адміністратарам. Цяпер, відаць, падаўся ў бізнэс. Гэты знаёмы сядзеў да іх сьпінаю. “Ну і хай сабе, — падумаў Зьміцер. — Кожнаму — сваё”.

Пасьля другое бутэлькі гарэлкі й пары чэскага піва ўзьнікла пытаньне: чаму амаль што ўсе хлопцы з прагрэсіўнае радыёрэдакцыі маюць завушніцы, а Алесь — не. Гэтае пытаньне раптам чамусьці захвалявала Марыну.

Алесь адказаў, што каб яму хтосьці пракалоў вуха, дык ён з задавальненьнем насіў бы завушніцу.

— Дык чаму б нам зараз не пракалоць табе вуха, — пацікавілася Марына.

Нават асьцярожны Зьміцер падтрымаў яе — напраўду, што гэта за рэчы — усе з завушніцамі, а такі вядомы дзеяч радыёэтэру без завушніцы.

Вось толькі чым калоць вуха? Ага, у Алены ёсьць значак зь вялікай іголкай. Ёй і праколем. Толькі трэба прадэзынфікаваць гэтую іголку. А як? Спачатку патрымаць над полымем запальнічкі, а потым працерці гарэлкай... “Афіцыянт! Яшчэ 300 гарэлкі!” — ну, вось, можна й пачынаць. “Халера, чаму гэта ў вушах столькі крыві?! Ці, можа, я патрапіла ў нейкую адмысловую кропку? Дайце завушніцу! А то ён сядзіць, як ідыёт, з Аленіным значыкам у вуху. Добра, я здыму сваю. Дайце насоўку — выцерці кроў. Не праходзіць... Завушніца не праходзіць, відаць, дзірку няроўна кальнулі. Табе не балюча? Балюча?! Давядзецца патрываць. Усё, ёсьць! Віншую”.



Раптам да іхняга століка падышоў стары знаёмы Зьмітра.

— Хлопцы-дзеўкі, хутчэй уцякайце адсюль, на вас зьвяртаюць увагу. Гэта такія людзі, зь якімі вам лепей ня мець ніякіх стасункаў, паверце мне. Дый вы таксама даяце, прыйшлі у рэстарацыю вушы калоць. Павар’яцелі!

— Нікуды мы адсюль ня пойдзем, — цьвёрда адказаў Алесь. — Мы не даелі і не дапілі. Хай яны зьвяртаюць увагу на што-небудзь іншае.

— Вы не разумееце, — ужо з раздражненьнем вымавіў знаёмы. — Гэтыя людзі — адны з заснавальнікаў гэтае рэстарацыі. Вас ніхто тут не абароніць, калі што. Ніхто ня выкліча міліцыю. Лепей сыходзьце. Я таксама вас ня здолею абараніць. Паверце мне, вы іх вельмі нэрвуеце.

— Гэта іхныя праблемы.

— Ну, глядзіце. Баюся, што ў рэшце рэшт гэта будуць вашыя праблемы.

Знаёмы вярнуўся за шумны й багаты столік. Алесь наліў усім гарэлкі.

— Вось не люблю я гэтага, — сказаў ён. — Я ж не чапляюся да іх: чаму гэта ты так каротка стрыжаны, а чаму гэта ты завушніцу ня носіш? Чаго ж ім тады ад мяне трэба? Сядзім сабе, нікому не перашкаджаем, займаемся сваімі справамі, гаворым пра сваё, можна сказаць, не заўважаем гэтую навалач, дык не... Трэба ўсё сапсаваць. Добра. Па апошняй ды рушым.

Зрэшты, яны страцілі яшчэ хвілінаў зь 10 на тое, каб пабудзіць Марыну, якая пасьля ўсяго перажытага раптоўна заснула. У шатні, апранаючы сябе і Марыну, Алесь краем вока (у люстэрку) заўважыў, што да іх накіроўваюцца тры чалавекі — адзін каржакаваты, чарнявы, у барвовым пінжаку, другі — цыбаты, малады (падбрэхіч каржакаватага — зазначыў сабе Алесь) і трэці — іхні стары знаёмы.

Каржакаваты падыйшоў да Алеся.

— Слышишь, пацан, сними серёжку, — у ягоных прымружаных вачох чакалася шматгадовая стомленасьць ад жыцьця.

— Сними-сними, — мітусьліва загаманіў падбрэхіч. — Лучше сними, если он тебе говорит.

— Да ладно, парни, пошли за стол, пускай себе идут, это же журналисты, творческие люди... — спрабаваў выправіць становішча знаёмы.

Алесь павольна, з годнасьцю апрануў Марыну.

— Нічога я здымаць ня буду.

— Значит, снимем вместе с ухом, — пазяхаючы, вымавіў каржакаваты.

— Гэй, што гэта адбываецца?! — запыталася Алена ў швэйцара. — Дзе ахова?

Швэйцар прамармытаў нешта неразборлівае ды зьнік за службовымі дзьвярыма.

Кампанія выйшла на двор.

— Хадземце хутчэй, — нэрвова сказаў Зьміцер, — пакуль яны ня выйшлі за намі.

Але было позна. На парозе рэстарацыі зьявіўся падбрэхіч.

— Эй, парень, подойди пожалуйста, — паклікаў ён Алеся.

— Не зьвяртаем увагі, хутчэй сыходзім! — замітусіўся Зьміцер.

— Парень, пожалуйста, на одну минутку, не бойся, — настойваў падбрэхіч.



— Я не баюся, — Алесь перадаў Зьмітру сонную Марыну. — Чаму гэта ты вырашыў, што я баюся?

І падыйшоў да падбрэхіча.

— Отойдём за угол, — прапанаваў той.

— Пайшлі.

Яны зайшлі за рог. Падбрэхіч імгненна выцягнуў зь кішэні доўгі нож.

— А ты молодец, — усьміхнуўся ён. — не из пугливых.

“Ну вось, пачынаецца”, — на дзіва неэмацыйна падумаў Алесь.

**ЯСЬ**

Ліфт павол падымаўся. Падлеткі панапісвалі на ягоных сьценах папулярныя сярод іхняе тусоўкі словы — тут былі назовы футбольных ды музычных камандаў, дасьціпныя, на погляд падлеткаў, выразы, натуральна, непрыстойныя. На гэтых сьценах вялася таксама

перапіска паміж удзельнікамі супрацьлеглых груповак – яны выказваліся на адрас апанэнтаў у даволі грубай форме.

Ясь выйшаў зь ліфту й падыйшоў да дзьвярэй кватэры № 328. Пазваніў. Раптам у адказ на ягоны званок пачуўся пагрозьлівы сабачы брэх.

Першае, што падумаў Ясь, было: "Нейкім чынам я ўхітрыўся памыліцца кватэраю". Але амаль па гэтай думцы дзьверы адчыніліся. На парозе Яніна. Вакол ейных ног кружляў, увіхаўся, радасна павіскваў і цяпер ужо відавочна вітаў Яся той самы беспародны сабачка, напатканы раніцою.

– Адкуль гэта ўзялося? – запытаўся Ясь.

– Воля прынесла. Пашкадавала гэтага сабаку. Гаворыць, зусім даходзіў на марозе.

– А я яго сёньня ранкам бачыў, калі ішоў на працу. Такі вясёлы сабачка. Страшненькі толькі зусім. – Ясь зьняў свой доўгі чорны паліто, вязаную шапку з вушамі й вайсковыя боты. – І што, цяпер ён будзе жыць у нас?

– Не выкідаць жа на вуліцу.

– Ну, хай жыве.

## ЯНІНА

А яго (Яся) ты сустрэла менавіта тады, на Купальлі. Потым, паралельна з нудотнымі допытамі ў міліцыі, вы доўга размаўлялі (балазе, часу там на гэта не бракавала). І тады ты адразу адчула: вось яно. Вось яно, гэтае высокае (альбо нізкае?), чыстае (альбо бруднае?), адзінае (ці не?) пачуцьцё. Вось ён, электрычны разрад, іскра, спазм. І ты разумела, што гэтыя ж разрад, іскру, спазм, адчуў і ён, Ясь. Між вамі адразу ўсталявалася пакуль яшчэ нетрывалая, крохкая сувязь, тэлеграфны дрот, па якім вы передавалі адно аднаму ціхія, хай і малазразумелыя й неакрэсьленыя сыгналы.



## ЯСЬ

Першая жанчына ў Яся зьявілася, калі яму было 16.

Кампанія маладых творчых асобаў (першы курс прэстыжнае мастацкае навучальнае ўстановы) выбралася за горад. На лецішча. Склад быў гэткі: Ясь, ягоная дзяўчына Воля (гэта быў імклівы студэнцкі раман, гарачыя пацалункі ў парках, доўгія зімовыя шпацыры да пасіненьня, прызнаньні ў вечнай вернасьці й каханьні. 16 гадоў! Зрэшты, закаханы, але паглыблены ў творчасьць Ясь мог тыдзень не сустракацца з Воляй. Яна крыўдавала), Ясеў сябар Уладзя (усе лічылі яго вельмі таленавітым), узьнёслая дзяўчына Іра (яна прыехала з далёкага Ўладзівастоку, дзе выхоўвалася на простых і важкіх уяўленьнях: каханьне, любоў, сяброўства, здрада, нянавісьць...). Дзяўчына Іра таемна была закаханая ва Ўладзю. Пра гэтае каханьне ведала ўся група, толькі Іра ня ведала пра гэтую агульную дасьведчанасьць. І яшчэ зь імі паехаў гаспадар лецішча, бо як жа безь яго. Ён ня меў пары й не ўяўляў іншых удзельнікаў кампаніі нейкімі там "парамі". Ён думаў: вось паедзем, вып'ем, як сапраўдныя мастакі, тое-сёе, пагаворым, працьвеа-зеем, вернемся дахаты. Усё. Звалі яго Алегам.

Кампанія ўзяла на закуску толькі трохлітровы слоік марынаваных памідораў. Нават хлеба не купілі. Затое напоі былі: бутэлька грузінскага каньяку, бутэлька партугальскага партвэйну, бутэлька гарэлкі й некалькі бутэлек сухога віна.

Ехалі гадзіну на электрычцы й гадзіну йшлі праз лес. Быў канец лістапада, усе марылі хутчэй патрапіць у цяпло.

Алег знайшоў ключ ад лецішча пад каменьчыкам, дзе заўжды хавалі яго бацькі. Калі кампанія зайшла ў драўляную хату, падзеленую на некалькі маленькіх пакояў, усе зразумелі, што сагрэцца не атрымаецца, бо хата настыла аж да вулічнае тэмпэратуры. Каміну не было. Былі нейкія маламоцныя электраабагравальнікі, якія адразу паўключалі ў пакоі, дзе мусіў адбывацца

банкет. Пасярэдзіне гэтага пакою стаяў стол, накрыты чырвоным аксамітным абрусам, вакол стала — некалькі фатэляў.

Запалілі сьвечкі, паставілі на стол бутэлькі й трохлітровы слоік з памідорамі. Імпрэза пачалася.

Напіліся даволі хутка. Пілі ўсяго патроху за розныя (але зьвязаныя з мастацтвам: будучыя ж мастакі!) рэчы. Праз гадзіну Ясь зрабіў Волі нясьціплую прапанову зайсьці пагаварыць у суседні пакой. Воля пагадзілася. У гэтым, зусім маленькім, пакойчыку, знаходзіўся вялікі ложак, накрыты цёплаю тоўстаю коўдрай (гэта Ясь запрыкмеціў раней). Усё пачалося з пацалункаў, пад узьдзеяньнем алькаголю пачуцьці выйшлі з-пад



кантролю, і праз пару хвілінаў Ясь і Воля апынуліся ў ложку, цалкам распранутыя. З суседняга пакою (банкэтнай залі) чулася часам нетаропкая, часам выбуховая нецьвярозая гутарка. Ясь і Воля даўно ўжо (цэлыя два месяцы) зьбіраліся разьвітацца з цнотаю, але не было дзе. Яны разьвіталіся зь ёй вельмі гучна — з абяцаньнямі вечнага каханьня, вечнай вернасьці, узьнёслымі крыкамі й эратычнымі (як ім здавалася) стогнамі. Зрэшты, ніхто зь іх фізычна нічога асаблівага не адчуў, затое пачуцьці былі накаленыя да вышэйшае ступені.

Тонкія дзьверы не хавалі клятвы, абяцаньні, крыкі, стогны й рыпеньне ложка ад астатніх. Іра прапанавала Ўладзю крыху прайсьціся, паглядзець іншыя пакоі. Уладзя згадзіўся. Потым ён праклінаў гэты дзень і гэтую гадзіну, бо ня меў да Іры ніякіх пачуцьцяў і ведаў, што нічога ў іх ня будзе, а ім жа ж яшчэ разам вучыцца... Але алькаголь і жарсныя гукі з суседняга пакою зрабілі сваю справу.

Далей за агаленьне торсаў яны не зайшлі. Бо тут раптам на парозе зьявіўся гаспадар лецішча Алег.

— Ды што вы тут усе, блін, робіце? — нема зароў ён. — Гэта дзеля гэтага вы, гады, тут сабраліся?! Вось ідзіце да сябе дамоў і там трахайцеся колькі ўлезе! Сьві-

ньні! Я думаў, сабраліся выпіць-паразмаўляць, а яны... — п’яная злосьць не давала яму гаварыць, станавілася ўпоперак горла.

Уладзя й Іра ўскочылі з ложка, апрануліся й вярнуліся за стол. Уладзя думаў, калоцячыся ад холаду і стрэсу: “Дзякуй табе, Алег! Уратаваў ад памылкі. Трэба хутчэй выпіць”. Іра думала: “Чаму ўсё так... чаму ўсё так бязьлітасна? Паўгода я думаю пра яго, мару пра яго, сьню яго. Тут выдаецца такая мажлівасьць і... як сподак, як кілішак — на дробныя аскепкі, ушчэнт”.

Алег сядзеў змрочны й злосны. У пакоі, дзе былі Ясь і Воля, зрабілася ціха. Відаць, пачулі абураныя Алегавы крыкі. Неўзабаве дзьверы адчыніліся й на парозе зьявіўся Ясь.

— Што тут адбываецца? — нейкім летуценным тонам запытаў ён.

— Што тут адбываецца?! — зароў Алег. — Пакуль што нічога, але зараз адбудзецца!!!

Ён схапіў бліжэйшы фатэль і шпульнуў у Яся. Фатэль балюча зачапіў Ясеву руку.

— Зразумеў, што тут адбываецца, падла?! — немароў Алег.

Ясь стаяў скамянелы. У яго паляцеў другі фатэль, але Алег не патрапіў.

Усё, што было на стале, апынулася на падлозе. Бутэлька з каньяком вымалявала пры падзеньні правільную выгбу й упрыгожыла сьцяну абстрактным малюнкам.

Тут утварылася невялікая паўза. І ў гэтай паўзе ўсе раптам заўважылі, што Ўладзя спазматычна ванітуе сабе пад ногі...



Ясь і Воля сустракаліся да тае пары, пакуль яго ня выкінулі з чацьвёртага курсу й не забралі ў войска. Воля аддана кахала нягеглага Яся, хаця ён зьдзекваўся зь яе ўвесь час. Мог тыднямі ня бачыцца (толькі на занятках, ад гэтага ёй яшчэ мацней балела), а по-

тым, калі бацькі зьяжджалі ў камандаваньне, мог раптам патэлефанаваць: "Прыяжджай". І яна ехала. Яна спадзявалася, нешта зьменіцца, але ўсё цягнулася папранейшаму...

Ясь не рабіў нічога (і нават думаць пра гэта не хацеў), каб неяк зьмяніць сваю натуру. Ён быў цалкам ёй задаволены.

**АЛЕСЬ**

Алесь прыйшоў на працу, як заўжды, рана. Галоўны рэдактар, які звычайна так рана не прыходзіў, чамусьці ўжо быў на мейсцы. Алесь прычыніў дзьверы. Рэдактар узьняўся з крэсла й падышоў да яго.

— Вось і ўсё, — сказаў ён. — Эпапэя скончылася. Мы ўсе падсьвядома чакалі гэтага, але ўсё роўна атрымалася нейк зьнянацку.

— Пра што размова? — не зразумеў Алесь.

— Нас зачынілі, — сказаў рэдактар. — Прыпынілі нашыя этэры. Пытаньне наконт далейшага нашага лёсу нібыта вырашаецца, але на маёй памяці гэткія пытаньні ніколі не вырашаліся станоўча.

— І што цяпер рабіць? — тупа запытаўся Алесь.

— Начальства прапаноўвае ўсім вам, як безумоўным адмыслоўцам, уладкоўвацца ў іншыя рэдакцыі. Калі што, я ня буду супраць.

— Напрыклад, у рэдакцыю сельскай гаспадаркі, — крыва ўсьміхнуўся Алесь.

— Напрыклад, — сур'ёзна адказаў галоўны.

Дваццаць восем асобаў звольніліся, тры чалавекі пайшлі працаваць у іншыя рэдакцыі.

Алесь быў абсалютна дэзарыентаваны. Імкненьні, дробныя ахвяры, творчыя перамогі, паразы, прафэсійны рост — усё гэта засталося ззаду. Наперадзе зьзяла чорная прорва невядомасьці.

Прыйшла новая ўлада. Малаадукаваная, агрэсіўная й амбітная. Спадзяваліся, што новая ўлада, каб прадэманстраваць сваю дэмакратычнасьць, адновіць прагрэсіўную

рэдакцыю. Гэта падавалася лягічным. Але яны папросту ня ведалі, з кім сутыкнуліся. Новая ўлада толькі пачала свой пераможны паход. І ўжо на гэтым трыюмфальным пачатку пра адкрыцьцё рэдакцыі не магло йсьці ніякай размовы.

І тады праз нейкія незразумелыя шараговым супрацоўнікам хабары й гешэфты была створаная незалежная тэлестудыя. Ейным дырэктарам прызначылі Алеся (ягонае зьдзіўленьне з нагоды гэтага прызначэньня ня мела межаў).

## АЛЕСЬ

— Усё сыходзіць. Нейкія тры гады мінула, а як усё зьмянілася за гэты час! — Алесь меў лірычна-расчулены настрой, мажліва, гэта было справакавана гарэлкай. — Нічога не вяртаецца. Асабліва добрае, сьветлае не вяртаецца.

— Трэба неяк змагацца, — агрэсіўна сказаў Ясь (як нам вядома, агрэсіўнасьць не была ўласьцівая ягонаму характару, значыцца, яна таксама справакаваная гарэлкай). — Ніхто ў гэтай сытуацыі нічога ня можа зрабіць. Палітыкі...

— Палітыкі абсерліся, — груба, але, як яму падалося, ёміста падвёў рысу Алесь. — Слова, відаць што, за намі.

— Відаць. Мы маладыя, здольныя. Мы ў змозе супрацьстаяць, а, можа, і перамагчы.

Яніна думала: якое змаганьне?! Хто будзе змагацца — Ясь, Алесь? Багема, эліта, інтэлігенцыя пойдзе на барыкады? Тады гэтай справе адразу наканаваная параза. Я ведаю Яся. Ён пры мне (а мы знаёмыя колькі гадоў!) ніводнага разу не пабіўся. Хаця былі сытуацыі, калі трэба было б. Ён пазьбягаў канфліктаў такога кшталту. А тут, глядзі ты: змагацца, павядзем за сабою моладзь, нам паверыць, болей ня бачым аніякае здаровае сілы... Гульня. Самападман. Але, я разумею, усё гэта ад роспачы. Роспач... Гэта галоўнае, што намі цяпер кіруе. Роспач, разгубленасьць, нянавісьць, страх.

Ня лепшыя рухавікі. Але... Іншых нам у гэтым часе ня дадзена.

Так думала Яніна, даючы сабачку кавалак вяндлінкі, а сабачка матляў хвастом і радасна павіскваў.

Алесь наліў у пустыя кілішкі гарэлку.

— Я вось што прапаную, — сказаў ён. — Давайце заўтра пойдзем у Таварыства спажыўцоў мятнае жуйкі й аддрукуем там улёткі. Тэкст улётак прапаную скласьці зараз.

Ясь прынес паперу й асадку.

— Ну, давайце думаць, — сказаў ён і каўтнуў сваю гарэлку.

Сабачка зь вінаватым выглядам нацурболіў перад электраплітой вялікую лужыну і пайшоў у пакой, падцяўшы хвост.

— Што гэта такое?! — закрычала Яніна. — Што гэта ты робіш?! Ты ж ведаеш, што гэтак нельга!

Сабачка схаваўся ў спальні пад ложак і не вылазіў.

Яніна з прыкрасьцю пачала выціраць сікуны.

— Твая будучыня залежыць ад цябе, — здаецца, нармальна, — прапанаваў Алесь.

— Занадта кандова. Я б не адрэагаваў на такія заклікі, — сказаў Ясь.

— А гэта й не разьлічваецца на такіх як ты. Гэта разьлічваецца на шырокія масы моладзі.

Ён наліў гарэлку ў пустыя кілішкі.

— Пляваць я хацеў на шырокія моладзевыя масы, — сказаў Ясь. — Мне не падабаецца работа, якая робіцца кандова. Наогул, з гэтым рэжымам трэба змагацца ironіяй і сьмехам. Таму што ён кандовы. Ён тупы. Зь яго трэба зьдзекавацца, кпіць.

— Даволі спрэчна, — сказаў Алесь. — Але прымальна. Для нас. Можа быць, для кагосьці не прымальна, а для нас — прымальна.

Яны выпілі й налілі па новай.

Сабачка вылез з-пад ложку й рызыкнуў зазірнуць у варэльню. Яніна мыла посуд і слухала канцэпцыі барацьбы, якія набывалі ўсё болей фантастычныя фор-



мы (паралельна бутэлька набывала сумную спустошанасьць).

— І ў кожным раёне зробім маладзевую брыгаду. Я гатовы стаць на чале аднае зь іх. Альбо цэлае сеткі. Калі ня я, дык хто?

— Створым ідэалёгію. За намі пойдуць тысячы. Потым дзясяткі тысячаў, потым — сотні. З такой сілаю нават гэтая навалач ня здолее не лічыцца.

Сабачка папіў вады і пайшоў спаць у калідор на старую коўдру. Ён доўга хадзіў коламі перад тым, як легчы, выбіраў найбольш утульнае мейсца. Нарэшце ўлёгся.

Назаўтра яны, папіўшы піва, зьявіліся ў офісе Таварыства аматараў мятнае жуйкі. Кандыдаты ад Таварыства балятаваліся на выбарах у парлямант і старанна хавалі ад шырокіх народных масаў сваю анархічную скіраванасьць (народ не гатовы). Таварыства мела добрую тэхніку — кампутары, друкаркі й іншае неабходнае начыньне. Старшыня таварыства, спадар Сяргей Шэўскі, падчас выбараў перайшоў да здаровага ладу жыцьця, сустракаўся з народнымі масамі, бясплатна раздаваў ім мятную жуйку, распавядаў пра неабходнасьць добрага паху з роту, дэмакратычных рэформаў, адмены сьмяротнага пакараньня і як мага хутчэйшага павароту да здаровага ладу жыцьця. Калі Ясь, Яніна ды Алесь зайшлі ў офіс Таварыства, Сяргей Шэўскі са сваёй даверанай асобаю складалі пляны далейшага скарэньня народных масаў.

— Што ім гэтая жуйка! — халерычна размахваў рукамі Сяргей. — Ім бы піва з сасіскамі.

— Дарэчы, гэта ідэя, — зазначыла давераная асоба. Давайце зробім акцыю — бясплатнае піва з сасіскамі, а потым — бясплатная жуйка. Каб півам ня несла. Народ зразумее.

— Запісвай, — згадзіўся спадар Шэўскі.

— Прывітаньне, — павіталіся Ясь, Яніна й Алесь. — Нам патрэбныя кампутар, прынтар і ксэракс. Ці можна пакарыстацца?

— Карыстайцеся, — дазволіў Шэўскі. — Хочаце халоднага піва?

— Хочам, — адказалі Ясь, Яніна й Алесь.

— Дык вазьміце ў лядоўні. Даруйце, я зараз вельмі заняты. Займайцеся па сваёй праграме.

Праз гадзіну ўсё было зроблена. Улёткі набылі наступныя формы:

ЖЭНШЧЫНА, А ШТО ТЫ ЗЬДЗЕЛАЛА
ДЛЯ СВАЯГО ПРЫЗІДЗЕНТА?
ПРЫЗІДЗЕНТ — УМНІЦА, ПРЫЗІДЗЕНТ —
МАЛАДЗЕЦ!
ВЕЦЕРАНЫ НКВД! ПЕРАДАВАЙЦЕ
СВОЙ КРАВАВЫ ОПЫТ МАЛАДЗЁЖЫ!

Апроч гэтага былі зробленыя два перадвыбарчыя плякаты неіснуючых кандыдатаў:

КАЗЬЛІШЧАЎ ЕРАМЕЙ ЯЎЛАМПІЕВІЧ



Нарадзіўся ў 1901 г. у горадзе Пенза. Член Камуністычнай партыі з 1908 г. Скончыў Пензенскую царкоўна-прыхадзкую школу, курсы чырвоных камандзіраў, вышэйшыя палітычныя курсы пры акадэміі вайны й абароны. Удзельнік першай імпэрыялістычнай, Грамадзянскай войнаў, вайны зь белапалякамі, Фінскай кампаніі, Вялікай Айчыннай вайны, змагаўся з амэрыканскім агрэсарам ва Ўятнаме, Карэі, працаваў кансультантам падчас Аўганскай вайны. Генэрал-маёр. Беспартыйны. Ерамей Яўлампіевіч выступае за нязыблемыя й вечныя ідэалы. Каб у кожнага ставала на хлеб і малако, каб народ не бедаваў, каб пэнсіянэры былі абароненыя, каб пад садовыя ўчасткі выдалі бясплатна яшчэ па адной сотцы, каб дзеці вучыліся толькі на 4 і 5, каб зацугляць злачыннасьць. За ўпэўненасьць у заўтрашнім дні. Ерамей Яўлампіевіч Казьлішчаў — гэта багаты вопыт, думка, выкрышталізаваная часам.

Ініцыятыўная група.



АЎЦЭБЫЧАНКА СЬЦЯПАН ПЯТРОВІЧ

Нарадзіўся ў 1941 годзе ў сяле Сабачнікі Асіповіцкага раёну Магілёўскай вобласьці. Мае вышэйшую адукацыю. Скончыў інстытут мэханізацыі сельскай гаспадаркі. Сьцяпан Пятровіч прайшоў суровую, але справядлівую школу жыцьця — працаваў пастухом, мэханізатарам, аграномам. З 1963 г. — на партыйнай рабоце. Беспартыйны. Сьцяпан Пятровіч — малады, ініцыятыўны кандыдат, ён ведае, як накарміць народ. Кожнаму рабочаму — па заводу! Кожнаму калгасьніку — па калгасу! Саўгасьнікам — саўгасы! Кожнай жанчыне — па мужчыну! Кожнаму мужчыну — па заслугах! Дык галасуйце ж за Аўцэбычанку! Сьцяпан Пятровіч — гэта маладосьць, сіла, сьмеласьць, гэта сільная рабочая рука!

Ініцыятыўная група.

— Пакажыце, што вы зрабілі, — папрасіў кандыдат Шэўскі. Давераная асоба таксама выказвала прыкметы зацікаўленьня.

— Калі ласка, — не бяз гонару сказаў Алесь.

Кандыдат з даверанай асобаю доўга разглядалі ўлёткі. Асабліва іх зацікавіла перадвыбарчая агітацыя.

— Нестандартны падыход, — вымавіў нарэшце Сяргей Шэўскі. — Трэба ўзяць на ўзбраеньне. Калі хочаце, мае людзі дапамогуць вам заклеіць гэтым горад.

— Хочам, — сказалі Ясь, Яніна ды Алесь.

Назаўтра Аўцабычанка з Казьлішчавым глядзелі на горад з усіх слупоў, афішных тумбаў і парканаў. Выбарчая кампанія набірала абароты.

Алесь звычайна начаваў у кватэры, якую здымала незалежная тэлестудыя. Таму што, па-першае, пасьля закрыцьця радыёрэдакцыі з інтэрната яго паперлі, па-другое, ён уладкаваўся па сумяшчэньні ахоўнікам гэтае самае тэлестудыі (за што атрымліваў штомесяц нейкія сьмешныя грошы, затое пытаньне з тым, дзе параначаваць, было вырашанае). Папраўдзе, яму не падабалася начаваць у той кватэры. Няўтульная чатырохпакаёўка,

напоўненая па начох нейкімі дзіўнаватымі, таямнічымі гукамі — нейкім шоргатам, шапаценьнем, ціхімі крокамі... Таму, калі надаралася мажлівасьць, ён заставаўся начаваць у сяброў. Гэтым разам — у Яся зь Янінаю. Яны размаўлялі на кухні да 4-й раніцы. А 8-й іх абудзіў званок у дзьверы. Сонная Яніна ў халаце пайшла адчыняць. На парозе стаяў незнаёмы мужчына: няпэўны ўзрост, няпэўны колер валасоў, камізэлька, як у кінаці тэлеапэратара, з мноствам кішэняў, клятчастая кашуля, джынсы. У руках — прадмэты, неабходныя для кваліфікаванага рабочага — плястмасавае вядро з дацкай акрылавай фарбаю, мех з дарагой нямецкай шпаклёўкаю, дрэль "Bosh", рулетка, некалькі шпаталяў, пэндзлі, валікі й іншае начыньне.



— Вы памыліліся, — сонна сказала Яніна. — Мы ня робім рамонт.

— А вы — Яніна? — усьмешліва запытаў незнаёмы.

— Я — Яніна, — зноў жа ж сонна й абыякава азвалася яна.

— Значыцца, я да вас.

— Ну, заходзьце, — дазволіла Яніна. — Толькі я, шчыра кажучы, не зусім разумею...

— Вы папросту ня памятаеце. З тыдзень таму вы сказалі свайму знаёмаму, быламу галоўнаму рэдактару прагрэсіўнае радыёрэдакцыі, што някепска было б зрабіць рамонт, бо кватэра ўжо набыла зусім непрэзэнтабэльны выгляд (з чым, я, дарэчы, нават пры хуткім, як зараз, аглядзе, вымушаны пагадзіцца, выглядае папросту жахліва), і калі б ён (былы рэдактар) параіў якіх-небудзь недарагіх рабочых, якія робяць хаця б касмэтычныя рамонты, дык хай бы даў тэлефон. Дык вось. Гэты былы рэдактар — мой добры знаёмы. Падчас існаваньня радыёстанцыі я зь сябрамі ўвесь час вас слухаў. Мне вашая перадача і перадача Яся таксама, вельмі падабаюцца. Таму я згадзіўся рабіць рамонт бясплатна, нават за матар'ялы вам не давядзецца пла-

ціць. Адно што раз-пораз мне будуць патрэбныя памагатыя.

— Вы, калі ласка, праходзьце, — разгублена сказала Яна. — Тут у нас усе яшчэ сьпяць. Зараз я прывяду сябе ў належны выгляд, і мы працягнем размову. Глядзіце тэлевізар.

Яніна чысьціла зубы й думала: што гэта яшчэ за зьяўленьне?! Я ж казала яму, каб ён папросту запытаўся, я ж ня думала, што... Трызьненьне нейкае! Рабочы гэты... нейкі дзіўнаваты. Шматслоўны, выражаецца мудрагеліста. А, зь іншага боку, усё да лепшага. Рамонт, бясплатна — чаму не?

Яніна выйшла з лазенкі. У гасьцёўні рамонтнік гуляўся з сабачкам (як заўжды, вясёлым і зычлівым да людзей). Са спальні даносіўся Алесеў храп. Па гуках і пахах з кухні Яніна зразумела: кава выкіпела. Як заўжды, забылася, што паставіла яе на пліту перад тым, як ісьці ў лазенку. Ненавіджу сябе за гэта!

Праз 20 хвілінаў сонная кампанія поўным складам перацягвала мэблю з гасьцёўні.

Рамонтніка звалі Рыгорам. Ён меў 37 гадоў — тое, што прынята называць "сярэднім узростам" — і своеасаблівы погляд на жыцьцё.

— А чаму гэта вы бясплатна робіце рамонт? Гэта ж дарагое задавальненьне, — пытаўся Алесь, цягнучы зь Ясем цяжкі фатэль.

— Я лічу, што мы, беларусы, мусім дапамагаць адзін аднаму. Нас ня так ужо й шмат на гэтай зямлі. Вось жыды ж дапамагаюць сваім. І грузіны. І ўсе дапамагаюць. Мы ня мусім быць горшыя ад астатніх.

— І колькі будзе цягнуцца гэты рамонт? — запытаўся Ясь, падымаючы з Алесем канапу.

— Мажліва, два месяцы, мажліва — тры. Гэта залежыць шмат ад чаго. Будзем рабіць усё дасканала, як у Эўропе. Тое, што не атрымаецца зрабіць, як у Эўропе, зробім па-свойму. Але таксама добра. Нічога нельга рабіць кепска.

"Ну вось. Рамонту толькі мне зараз і не ставала",

— з санлівай прыкрасьцю думаў Ясь, які не любіў усе гатункі фізычнае працы — сарамліва пазьбягаў дапамагаць маці на лецішчы, не любіў прыбіраць, перацягваць мэблю... А тут на яго абрынуўся глябальны рамонт і гэты рабочы эўрапейскага выгляду са своеасаблівым сьветапоглядам.

"Так. Мне трэба ўжо быць на студыі, — думаў Алесь. — Але, відаць, давядзецца студыю адкласьці да вечара".

Пасьля таго, як перацягалі мэблю, пачалі зьдзіраць шпалеры.

— А што, хіба нельга клеіць новыя шпалеры на старыя? — хаваючы раздражненьне пытаўся Ясь.

— Нельга, — каротка адказаў Рыгор. — Трэба старыя зьдзіраць.

Сабачка зашыўся на кухні пад стол і не вылазіў. Яніна спрабавала яго карміць, але ад перанесенага стрэсу (мэбля не на сваіх мейсцах, кавалкі аддзертых шпалераў, новыя пахі, размовы, мітусьня, гармідар) апэтыт у яго прапаў.

"Нічога, прызвычаіцца", — падумала Яніна.

Яна не зьдзірала шпалеры разам з усімі. Там і так было не павярнуцца. Яна гатавала абед, піла каву й чытала Эрыха Фрома.

## ЯНІНА

Сабачку назвалі Партайгеносам. Партайгеноса амаль ужо прызвычаіўся рабіць свае патрэбы на вуліцы. Падчас шпацыру. Адно толькі вельмі не любіў павадок і нашыйнік. Скуголіў, выдзіраўся, вылузваўся з гэтага нашыйніка, як толькі мог. Тройчы на дзень Яніна выгульвала яго, але да нашыйніка з павадком так і не прывучыла. Сабачка бегаў, як заўжды, вясёлы й бесклапотны, ненавязаны. Калі Яна клікала яго, падбягаў да яе. Зрэшты, калі захапляўся нейкім пахам альбо чымсьці іншым, што яго цікавіла, дазваляў сабе й не рэагаваць на гаспадыніны крыкі. Яніна нэрвавала-



ся, рашуча крочыла да пад’езду, тады сабачка адразу падбягаў да яе, баяўся, што яго пакінуць на вуліцы.

Пляменьніца Воля час ад часу таксама выгульвала сабачку, але гэта было вельмі рэдка — заняткі ў школе не дазвалялі ёй дапамагаць Яніне.

І вось Яніна йдзе па бела-шэрай вуліцы (зіма сканчаецца, засталіся лічаныя лютаўскія дні), кліча сабачку (“Партайгеноса, Партайгеноса!”) й думае пра пляменьніцу Волю — зусім ня лепшым чынам, — пра тое, што невядомыя канкурэнты пазьдзіралі большую частку казьлішчавых ды аўцабычанак, пра нечаканы рамонт.

Яшчэ Яніна думала пра тое, што да іх пастаянна ходзяць госьці, што няма калі пабыць сам-насам, паразмаўляць, сказаць неабходныя словы. Яніна гаркотна думала пра тое, што адлегласьць паміж ёй ды Ясем з кожным днём усё расьце. І што з гэтым рабіць, як ратаваць сытуацыю, яна ня ведае. А тут яшчэ гэтая дыктатура — авалодала думкамі, залезла глыбока ў падсьвядомасьць, зрабіла з нас хваравітых людзей зь неадэкватнымі рэакцыямі, нэрвовых... Я, напэўна, вельмі зьмянілася за апошнія два гады. Мяркуючы па тым, як за гэты час пачужэў, зрабіўся непадобны да сябе ранейшага Ясь. Мы разьвіваемся ненатуральна. Гэта ўсё адно як чалавек нарадзіўся, хадзіў у дзіцячы садок, вучыўся, паступіў у інстытут, раптам — вайна, фронт, паранены, шпіталь, вярнуўся без нагі, піў, працаваў за мізэрны заробак, памёр. Гэта прыклад ненатуральнага разьвіцьця падзеяў. У нармальны ход падзеяў усунулася вайна, карты зблыталіся, усё парушылася, адсюль вынік.

Зрэшты, чаму гэта ненатуральна? Вайна, дыктатура — натуральныя для гісторыі рэчы. Значыцца, зламаныя лёсы — таксама арганічная неабходная частка разбуральнага альбо стваральнага гістарычнага працэсу.

Прыгадай, колькі лёсаў было зламана, калі скінулі камуністаў і прыйшлі дэмакраты. Калі пачаў шалёна

разьвівацца бізнэс, калі ўсё было дазволена. Процьма таленавітых людзей, якія прызвычаіліся да стылістыкі змаганьня, якія заўжды жылі ў барацьбе, раптам згубіліся ў новым жыцьці. Хтосьці знайшоў прывідны паратунак у гарэлцы, хтосьці зьехаў на вёску й адыйшоў ад тлумнага гарадзкога існаваньня, хтосьці кардынальна зьмяніў прафэсію...

Пасьля нас не застануцца нашыя перажываньні, рэфлексіі, нават пачуцьцяў нашых — каханьня, нянавісьці, непрыязі, сяброўства — ня будзе. Застанецца адно тое, што мы зрабілі — напісалі, пабудавалі, выгадавалі. Па гэтым і будуць меркаваць пра нас тыя, хто будзе пасьля.

— Пайшлі дамоў! — загадала Яніна сабачку, і ён ахвотна пабег за ёй у пад’езд.

* * *

Ясь стаяў на крэсьле, Алесь — на зэдліку, а галоўны рамонтнік — Рыгор — узвышаўся над усімі, стоячы на перадапошняй прыступцы раскладных драбінаў. Яны аддзіралі апошнія, самыя трывалыя кавалкі старых шпалераў. Пакой выдаваў на тое, што менавіта празь яго праходзіла лінія абароны падчас апошняе вайны.

— Вам дапамагчы? — спадзеючыся, што гэта не спатрэбіцца, запыталася Яніна.

— Ды не, — супакоіў яе Рыгор. — Тут ужо й месца няма для чацьвёртага рабочага. Займайцеся сваімі справамі.

— Тады я прашу вас цераз дзесяць хвілінаў скончыць работу, бо абед гатовы, — сказала Яніна й пайшла мыць сабачку лапы.

## РЫГОРАВЫ АПОВЕДЫ

Рыгор сёрбаў смачны наварысты супчык і распавядаў (ён любіў быць цэнтрам увагі, любіў, калі яго слухаюць і напаткаў у асобах Яся, Яніны й Алеся вельмі ўдзячную аўдыторыю):

— Ёсьцека пад Менскам такое мястэчка — Чакановічы. Мястэчка як мястэчка — такіх у нас шмат. Дзьве прадуктовыя крамы з гарэлкай, чарвіўкай ды кансэрвамі, унівэрмаг з валёнкамі й гумовымі ботамі, бруд і ўсё, як належыць. Адно што мястэчка гэтае знаходзіцца зусім непадалёк ад нашае беларускае сталіцы. На машыне да гораду літаральна дзесяць хвілінаў. Таму сярод шэрых драўляных і шэрых цагляных звыклых хатаў павырасталі падобныя да замкаў катэджы. Там жылі так званыя новыя рускія, альбо лепей я назаву іх старамодным словам “nouveau riche”, мне яно даспадобы. Зрэшты, жылі яны там нядоўга. Хто зьехаў туды, дзе для бізнэсу спрыяльнейшая глеба, хто закруціўся так, што мог прыяжджаць адно ўлетку, хто не дабудаваў, а грошай, каб дабудаваць, не ставала... Карацей, большасьць гэтых прэтэнцыёзных будынкаў цяпер спусьцела.

Адзін зь іх зьняла сям’я францускага вайсковага аташэ на час свайго існаваньня ў Беларусі.

Французы жылі сваім жыцьцём, а навакол бегла іншае — звыклае беларускае. Чакановіцкае. Той напіўся з тым, і яны разам пабілі тога. Гэтая піла з тым, за гэта атрымала ад тога. А той выпіў, заснуў у сьнезе й памёр. Звыклая справа.

Вакол францускае сям’і ўвіхаліся некалькі мясцовых жыхароў. Сапраўдных тубыльцаў. Усё, як мае быць, — гавораць каротка й хрыпла, нібыта гаўкаюць, маюць брунатны колер твараў, характэрна пахнуць. Тубыльцы працавалі ў французаў на абарыгенскай рабоце — прывезьці дровы, напілаваць, зрабіць дробны рамонт, пакасіць траву, прыбраць сьнег.

Нейк французы выправіліся на радзіму ў адпачынак. І, халера, ня выключылі з шантупу лядоўнік. А лядоўнік яны мелі — як належыць — дарагі, капіталістычны. Тым часам у Чакановічах адрубілася на гадзіну электрычнасьць (гэта здараецца). Дарагі лядоўнік аўтаматычна адключыўся, бо ў ім меліся розныя самаахоўныя сыстэмы, у якіх нават я кепска цямлю. Калі

электрычнасьць зноўку зьявілася, лядоўнік нібыта не працаваў. Бо, я ж кажу, яго адключыла аварыйная сыстэма. Калі зьявіліся гаспадары, яны вырашылі, што дарагі капіталістычны лядоўнік зламаўся. Бо яны людзі багатыя, можна сказаць, эліта. Чаго ім разьбірацца ў аварыйных сыстэмах, яны сёньня ж купяць новы. А гэты яны папросту выставілі на панадворак і, як маглі, растлумачылі тубыльцам, што гэты агрэгат — падарунак абарыгенам ад багатых каляністаў.



Уся французская сям'я далікатна, з-за фіранкі глядзела на бойку спаміж трыма тубыльцамі, якія звыклым чынам дзялілі раптоўнае багацьце. Усё было ўзімку, тубыльцы ў сваіх груваскіх кухвайках, кажухах ды валёнках няўклюдна валтузіліся на сьнезе, французы маўкліва, без камэнтароў, бязь сьмеху пазіралі на іх праз вакно...

Рыгор меў напраўду ўважлівых суразмоўцаў. Яны слухалі, не перарывалі ягоны аповед недарэчнымі пытаньнямі альбо сустрэчнымі гісторыямі. А Рыгор любіў быць цэнтрам увагі ў кампаніі (пра гэта ўжо гаварылася, гл. 62 радкі вышэй). Любіў, калі ягоныя аповеды ўважліва слухаюць. Адно што ў гэтым выпадку Рыгор зблытаў інтэлігентную маўклівую ўважлівасьць з посталькагольна-нявыспаным нешматслоўем. Некаторыя людзі з пахмельля гадзінамі тупа глядзяць тэлевізар. Ясю, Яніне й Алесю давялося задаволіцца "гаворачай галавой" Рыгора.

І вось аднаго разу тая ж французская сям'я выйшла на іртавы шпацыр. Лішне казаць, была зіма. А ў Парыжы зіма зазвычай цёплая, сьнег — рэдкая зьява. Відаць, для французаў нашая зіма — радасьць. І вось яны ідуць на іртах, дбаючы пра сваё здароўе — аташэ, ягоная жонка й дзеці. Тым часам адзін з вышэйпамянёных брунатнатварых тубыльцаў пайшоў у лес, каб незаконна сьсекчы дрэва на дровы. І вось ён сядзіць, паціху сабе займаецца гэтым дрэвам, думае: спачатку звалю, потым ціхенька папілую і патроху, патроху завязу да сябе, а

то, бачыш, дровы не нарыхтаваў, дык трэба неяк цяпер, бо халодна, халера, у хаце, хоць ты кладзіся ды памірай... Вось, прыкладна гэткім чынам мысьліць тубылец і раптам чуе нечыя галасы, яны ўсё бліжэй і бліжэй. Паколькі тубылец баіцца, што яго засьпеюць за незаконным заняткам, ён хуценька хаваецца ў гушчары. Дрэва ледзьве стаіць, трымаецца на тонкай трэсцы. Тым часам французскія галасы набліжаюцца, і вось яны ўжо тут — сям'я, што дбае пра сваё здароўе — ён, яна ды дзеці. І здарылася ж гэтак, што калі жонка аташэ наблізілася да тубыльскага дрэва, яно пахіснулася (мабыць, у гэты час падзьмуў ветрык) і звалілася акурат ёй на галаву. У гэты ж дзень жонку транспартавалі ў Парыж. Там зрабілі тэрміновую апэрацыю, зашылі, і празь месяц яна зноўку прыехала ў краіну сьнегу, іртавых шпацыраў і брунатнатварых тубыльцаў.

— Я пасьля такога б не паехала, — нарэшце вымавіла Яніна.

— Ну, гэта вы, — сказаў Рыгор. — А для французаў, як і для іншых эўрапейцаў няма слова "не хачу". Ёсьць такое слова "трэба".

— Як на вайне, — сказаў Ясь.

— А што вы думаеце? Дыплямат — гэта ваенная прафэсія, — сказаў Рыгор. — Дыплямат і загінуць можа пры выкананьні, і ў турму сесьці, пакуль не абмяняюць. Вось расейскі пісьменьнік Грыбаедаў быў дыпляматам... Але, я гляджу, усе паелі, так што вернемся да працы.

Ясь ды Алесь неахвотна пацягнуліся ў разораны рамонтам пакой.

## ЯНІНА

Пасьля таго Купальля вы пачалі рэгулярна сустракацца. Гэта былі нібыта сяброўскія сустрэчы — кавярня, кава бяз цукру, цыгарэта, канапкі, размовы пра жыцьцё, пра неўладкаванасьць, пра абсурднасьць існуючага ладу. Вам вельмі хацелася размаўляць. Вы не маглі спыніцца. Тэлеграфны дрот, нацягнуты між вамі,

мацнеў штодня. Неўзабаве ён ператворыцца ў магутную высакавольтную лінію электраперадачаў.

Ты не асэнсоўвала ягоныя плюсы й мінусы. Каб ты была цьвярозым разважлівым чалавекам, дык зразумела б, што Ясь мае процьму розных хібаў. Але ты ж падключылася да вышэйпамянёнае высакавольтнае лініі, а гэтае падключэньне ня мае на ўвазе цьвярозасьць ды разважлівасьць. Таму ты сказала свайму хлопчыку-рокеру "да пабачэньня". Ты спрабавала яму растлумачыць, чаму мусіш гэта зрабіць, але быццам бы сучасны й распрыгонены хлопчык раптам усчаў дзікі вэрхал, сапраўдную сцэну ("нібыта патрапіла ў італьянскі фільм" – падумала ты тады, слухаючы хлопчыкавы абвінавачваньні й абразы). Ён бразнуў дзьвярыма, а назаўтра высачыў разам са сваімі сябрамі цябе, падчас тваёй сустрэчы зь Ясем. Яны пачакалі, пакуль вы паходзіце па зімовым горадзе, пап'яце кавы, наразмаўляецеся й разьвітаецеся. Потым Ясь быў зьбіты на мокры яблык. Гэтым учынкам хлопчык-рокэр завяршыў першую фазу пабудовы вашых стасункаў, практычна кінуўшы зьбітага Яся ў твае абдымкі.

## ЯСЬ І АЛЕСЬ



Калі зранку яны прыйшлі на тэлестудыю, дык сустрэлі там жалобнае паседжаньне. Студыю зачынілі. Улады перасьцерагаліся з нагоды выбарчае кампаніі ды ўзьдзеяньня тэлеэтэру на масавую сьвядомасьць. Калектыў рэдакцыі сядзеў на канапах і крэслах вакол тэлевізара й настальгічна глядзеў свае колішнія праграмы. Алесь патэлефанаваў начальству і ўпэўніўся, што студыя зачыненая раз і назаўсёды. Канчаткова.

– Якія шанцы, што нас адновяць пасьля выбараў? – запыталася Галя, вядучая праграмы пра тэатар.

– Ну, паглядзім, – няпэўна сказаў Алесь. – Я зраблю

ўсё мажлівае. Шанцы ёсьць.

— А калі што будзе вядома?

Алесь адно разьвёў рукамі.

Ясь глядзеў разам з усімі старыя перадачы. Абыякавасьць. Пачуцьцё безвыходнасьці. Нічога нельга рабіць у гэтай краіне. Каб я жыў дзесьці ня тут, дык меў бы і грошы, і славу, і ўсё... А так... Усё думаеш пра тутэйшы народ, пра гэтую зямлю, і што? Нікому ты ня трэба — ані народу, ані зямлі. І ўсё ж-ткі гэта няправільна. Тое, што зараз адбываецца — няправільна. Паводле гістарычных законаў, паводле любых законаў. Можа, якраз і варта перачакаць, пачакаць, заціхарыцца. Але мы ўжо чакаем два гады. Колькі маіх сяброў пазьяжджала. Хто куды — Польшча, Нямеччына. Адзін дык, наогул, у Канаду. А я ўсё тут нешта спрабую рабіць. Усё нешта пачынаю. Колькі мне ўжо гадоў, а я ўсё пачынаю нанова.

Тут да Яся прыйшла сакрамэнтальная думка: цяпер у нас зусім ня будзе грошай! Бо няма дзе працаваць. Усё! Незалежная студыя скончыла сваё існаваньне. Цяпер бізнэсоўцам ня будзе каму ахвяроўваць свае цяжказаробленыя даляры. Як жыць?!

Млявая паніка, што ахінула Яся, лягічна скончылася на думцы пра тое, што варта выпіць 100 грамаў, каб паслабіць узьдзеяньне стрэсу. І калі яны з Алесем выйшлі з былое незалежнае тэлестудыі, Ясь адразу прапанаваў адзначыць гаротную падзею. Высьветлілася, што да гэтае высновы яны падыйшлі сынхронна, і шлях іхні скіраваўся ў краму.

## ЯНІНА

Сабачка сарваўся з павадка й бегаў сярод шэрых зімовых шматпавярховых будынкаў. “А каб ты здох!” — унутрана вылаялася Яніна. Яна, як заўжды ў такіх выпадках, накіравалася да дзьвярэй пад’езду, але гэтым разам сабачка так захапіўся нейкімі пахамі й сьлядамі, што не зьвярнуў на гэтую падзею аніякае ўвагі. Яніна пачакала хвілінаў пяць, потым ня вытрымала, браз-

нула дзьвярыма й пайшла дахаты.

## ЯНІНА

І вы пачалі сустракацца штодня. Гулялі па парках і сквэрах, нягледзячы на зімовыя халады й завеі. Заходзілі ў госьці да ягоных і тваіх сяброў. Вам было вельмі цікава, нова й сьвежа разам. Ня гэтак у сэнсе сэксу, як у сэнсе зносінаў, спазнаньня іншае, але на дзіва блізкае й роднаснае душы. Вы перажывалі разам маленькія сьмешныя прыгоды, вы сварыліся, але ненадоўга. Натуральна што былі й праблемы. Вось Ясь прызвычаіўся жыць у сваёй невялікай кватэры — у адным пакоі ён, у другім пакоі — ягоная мама. Ясь меў наладжаны жыцьцёвы графік — ранкам пайшоў па справах, увечары вярнуўся. Мама вельмі не любіла, калі ён прыходзіў позна. Альбо на падпітку. Мама пасьля гэтага магла цэлы дзень зь ім не размаўляць, адно гучна й злосна грымела рандэлкамі на кухні ды ляпала дзьвярыма й шуфлядамі. Так цягнулася гадамі зь перапынкам на сельгаспрацы (калісьці Ясь, як і ўсе савецкія студэнты, езьдзіў выконваць пачэсны абавязак у беларускія калгасы), кароткія вандроўкі і войска. Ясева мама любіла парадак і рэжым. На ўсё ў яе быў адведзены час. Гэта нягледзячы на тое, што яна была сапраўдным “творчым работнікам” — прызнаным у краіне кампазытарам. Надзея Рыгораўна (гэтак яе звалі) была ўбаку ад багемнага жыцьця, адно працавала творча й рабіла бясконцыя гаспадарчыя справы. З узростам яна ўсё часьцей упікала: ты мне зусім не дапамагаеш, чаму я адна мушу цягнуць увесь побыт, ты нават посуд за сабою ня мыеш, прыходзіць пачаў пасьля трох ночы ды яшчэ п’яны, ты хоць падумай сваёй галавою: хто я такая, і хто ты такі! Табе яшчэ, каб спраўдзіцца, працаваць і працаваць. А мяне ведаюць у сьвеце. Я мушу ўвесь час аддаваць музыцы. А я яго марную на бясконцыя хатнія справы. Ты ня хочаш гэтага разумець!

Ясь разумеў, што мама мае рацыю, але штодзён-

ныя ейныя ўшчуваньні дасягнулі адваротнага эфэкту: успрымаліся гэткім непрыемным, але звыклым тлом, на якім праходзіла Ясева хатняе жыцьцё.

Але за доўгія гады Ясь прызвычаіўся да гэтага раскладу — начаваць дома, нідзе не заставацца, што ў ягоным узросьце (а ён тады меў 21) выглядала зусім сьмешна.

Цябе гэтая ягоная завядзёнка й нежаданьне глябальных зьменаў нэрвавала болей за ўсё. Аж да таго што два разы ты хацела скончыць гэтыя стасункі, плюнуць на ўсё! Як ён можа недзе спакойна спаць зараз у іншай кватэры, калі я тут пакутую, думаю пра яго, ня сьплю... Заўтра ж скажу яму, што ўсё скончана! Але лёгка так думаць падчас бяссоннае начы, а як наяве зрабіць гэта, як перарэзаць магутны кабэль лініі высакавольтнае перадачы паміж ім і табою? Ніяк.

## ЯСЬ І АЛЕСЬ

Ідучы ў краму, яны раптам заўважылі новы барчык. Дзьверы вялі ў сутарэньне, над дзьвярыма вісела шыльда "Вінныя лёхі".

— Нешта занадта па-беларуску, — насьцярожыўся Ясь.

— Вось да чаго мы дайшлі, — сказаў Алесь. — Нас ужо насьцярожвае беларускамоўны надпіс.

Унутры не было нічога адметнага. Звычайны бар. Адно што на цэньніках усё было напісана па-беларуску.

— Два кілішкі каньяку, калі ласка, — замовіў Алесь.

— И всё? — запыталася сумная чырвонатварая бармэнка.

— Ну, пакуль што, усё.

Бары ў нас розныя. Ёсьць бары настальгічна-савецкія. Гэта шкляныя піўнухі, дзе за брудным шклом вітрыны ляжыць нясьвежая рыба, жаўцеюць-сінеюць вараныя яйкі, ляжаць канапкі з салам. Дзе наліваюць вадзяністую сьветла-жоўтую вадкасьць, але спажыўцы гэтага прадукту настолькі да яго прызвычаіліся, што лічаць сапраўдным півам.

Ёсьць бары “нібыта эўрапейскія”. Гэта маленькія, адцятыя ў былых сталовак, вэстыбюляў, шатняў, пакойчыкі, аздобленыя рознаю плястмасай. Мэбля там таксама зь нейкіх сынтэтычна-плястмасавых матар’ялаў, але вонкава выдае на мармур. І калі ставіш на гэты мармур ці то кілішак ці куфаль зь півам, раздаецца не мармурова-каменны, а плястмасава-драўляны гук.

І ёсьць яшчэ барчыкі, што знаходзяцца пасярод дзьвюх вышэйзгаданых скрайнасьцяў — напрыклад, сцены — у белай плястмасе, а сталы нібыта з брутальнай піўнухі. Ці, наадварот, сьцены засталіся ад былое сталоўкі, а сталы — з мармуровае плястмасы.

Дык вось гэты быў з трэцяга разраду — ён быў адцяты ў сутарэньня. Раней, відаць, тут было сховішча ці яшчэ нешта гэткага гаспадарчага чыну. Сьцены абкладзеныя кафляй “пад цэглу”, а потым чамусьці пакрытыя лакам. Сталоў не было, затое абапал сьценаў цягнулася суцэльная плястмасавая стойка. Акрамя Яся ды Алеся тут нікога не было.

Яны ўзялі свае “па 50” і прытуліліся ў куточку.

Не пасьпелі выпіць і па 200 грамаў, як у барчык увалілася заўсёды нецьвярозая кампанія вядомых менскіх літаратараў.

Літаратары ўзялі адразу бутэльку ды ўладкаваліся побач.

— Скажы, Ясік, чаму вы ўсе такія підары? — запытаўся вядомы сваімі эпатажнымі паводзінамі паэт Р. Каўзун. — Вось чаму вы гэткія, блін, підары ўсе?

Гэтая думка настолькі сапсавала Р. Каўзуну настрой, што ён ціха заплакаў, а потым, падняўшы ад стойкі чырвоны, мокры ад сьлёз твар, вымавіў горка:

— А я сярод вас — самы галоўны підар.

Паэт Р. Каўзун выглядаў і цікава, і дзіўнавата, на вока кансэрватыўнага гарадзкога жыхара: ён меў доўгую дагледжаную бараду, доўгі ж чорны скураны плашч, нейкую азіяцкага выгляду шапачку на галаве й паэтычна-фанатычны бляск у нецьвярозых чырвоных пукатых вачох.

Ясь падумаў, што лепей не адказваць Р. Каўзуну на рытарычныя пытаньні, каб не зрабіцца аб’ектам чарговае эпатажнае акцыі гэтага таленавітага паэта.

Алесь жа, як чалавек меней разважны ды болей эмацыйны, успрыняў гэта за абразу. Ён паспрабаваў высьвятліць адносіны з Р. Каўзуном, але той быў ужо канчаткова не ў гуморы — не азываўся на сваё імя, адно ашклянела глядзеў на сваё адлюстраваньне ў люстэрку, якім была аздобленая сьцяна ўздоўж усяе стойкі.



— Вы, хлопцы, на яго не крыўдуйце, ня слухайце яго. Самі разумееце, вярзе абы што. Вы ж яго ведаеце, — супакойваў Алеся постмадэрніст Гаўрылюк.

— Я, можа, таксама зараз пачну вярзьці абы што альбо пысу яму начышчу за ягонае “абы што”, — абураўся Алесь.

Ясь прынес сабе ды Алесю яшчэ па 100, каб разрадзіць атмасфэру.

Усе выпілі.

Тут Р. Каўзун нечакана накіраваўся да выхаду з бара.

— Ты куды, Рыгор? — паклікаў постмадэрніст Гаўрылюк.

Але Р. Каўзун, дайшоўшы аж да дзьвярэй, раптам завярнуўся й гэткім таранам кінуўся на кампанію літаратараў ды журналістаў. Р. Каўзун меў магутны целасклад, прыдалося вясковае паходжаньне, і калі ён пратараніў шэраг крохкіх целаў гарадзкіх літаратараў, некалькі з гэтых целаў упалі на падлогу. Р. Каўзун быў у кардынальна адрозным ад папярэдняга настроі — гарэзьліва-вясёлым. Ясеў кілішак пакаціўся па стойцы, па белым плястыку разьлілася бурштыновая пахкая вадкасьць.

Бармэнка пабегла да тэлефону — выклікаць міліцыю.

Р. Каўзун разагнаўся й па другім разе расьсек шыхт нецьвярозых літаратараў. Тыя целы, што пасьля падзеньня чысьцілі нагавіцы й плашчы, зноўку апынулі-

ся пад стойкаю. Паэт Р. Каўзун зароў нейкі ваяўнічы покліч, накшталт індэйца з колішніх ГДРаўскіх фільмаў.

Сярод літаратараў, як заўжды, не было згоды: хтосьці млява абураўся, хтосьці гучна рагатаў...

— Хутчэй хадзем адсюль, — раздражнёна сказаў Ясь. — Зараз прыедзе мянтоўка, і загрымім разам зь імі.

— Пачакай, я хачу яму разок па пысе зьезьдзіць, — скрозь зубы вымавіў Алесь, але Ясь выцягнуў яго за крысо цёплае курткі на асьветленую жоўтымі ліхтарамі марозную цэнтральную гарадзкую вуліцу.

## САБАЧКА



Ён прыйшоў толькі цераз два дні. Зноўку худы, брудны. Вінаваты, падціснуўшы хвост.

Яніна патэлефанавала Волі й загадала, каб тая неадкладна прыйшла.

— Ты што ж сабе думаеш, — выгаворвала Яніна, — я яго мушу выгульваць, я мушу яго карміць, лавіць, калі ён раптам ня хоча вяртацца дадому, а ты зусім забылася пра яго. Хаця ты памятаеш, што тады мне абяцала?

— Ну, Янінанька... Ты ж ведаеш, якая зараз загружанасьць у школе...

— Я ўсё ведаю. З гэтага моманту ты выгульваеш Партайгеносу перад школаю і пасьля школы. Калі не — тады забірай сабе. Ну. Што ты выбіраеш?

— Ага, хітранькая, — захныкала Воля. — Ты ж ведаеш, што я не магу забраць яго да сябе. Мама яго адразу ж выганіць...

— Хопіць, — цьвёрда вымавіла Яніна. — Альбо выгульваеш, альбо я выкідаю яго. Мне і так зараз нялёгка жыць на сьвеце, каб яшчэ думаць пра твайго Партайгеносу. Ідзі, выгульвай.

Воля панура пацеляпалася выгульваць сабачку. Вярнулася праз 15 хвілінаў.

— А нешта ён ня хоча гуляць. Сумны нейкі. І, гэта, у

яго страўнік ... Ну-у, дрысца, карацей у яго.

— Вось толькі гэтага мне тут не хапала! — абурылася Яніна. — Добра, ідзі. І каб заўтра перад школаю прыйшла выгульваць.

Воля, незадаволеная, пайшла дадому.

У хату ўваліліся Ясь з Алесем.

— Усё, гамон, — нецьвярозым голасам сказаў Ясь, — зачынілі.

Яніна прысела на край ложку.

— Можа быць, нам усёж-ткі паехаць за мяжу? — запыталася яна. — Пакуль ня позна.

— Мажліва, што і паедзем, — азваўся Ясь.

На гукі іхнае размовы з варыльні выйшаў сабачка. Ён паматляў хвастом Ясю й Алесю, але млява, зусім ня так, як раней.

— А што гэта з Партайгеносам? — не зразумеў Алесь. — Чаму такі млявы?

— Ня ведаю, — азвалася Яніна. — Два дні не было, а цяпер прыйшоў вось такі. Можа, захварэў? А, можа, проста сорамна, што ўцёк...

Назаўтра пад кіраўніцтвам Рыгора ўсе клеілі шпалеры. Сабачка не вылазіў з-пад стала ў варэльні. Ясь думаў, што трэба кардынальна памяняць лад жыцьця, бо так доўга не пражывеш. Алесь думаў, што трэба было б зьезьдзіць у офіс былое тэлестудыі дзеля ўпарадкаваньня справаў, а не дапамагаць тут з рамонтам. Яніна думала, што варта было б паразмаўляць зь Ясем пра ўзаемастасункі, бо дзе цяпер тое, што іх раней лучыла — дзе яны — гэтыя шчырыя размовы, дзе гэтыя ласкавыя мянушкі, якія ён штотыдзень ёй прыдумляў? Раней усё было настолькі бязглузда і настолькі сьветла, што нагадвала дзяцінства. Яны прыдумлялі сваю мову, сьпявалі дурныя песьні, якія самі й складалі, блукалі па горадзе, узяўшы адно аднаго за руку. Дзе ўсё гэта? Цяпер у іх кватэра, але яны ніводнага вечара ня могуць пабыць у ёй сам-насам. Увесь час нехта яшчэ. Увесь час...

## ЯНІНА

Лежачы ў ваньне ў кватэры сяброў, якія зьехалі на некалькі дзён, яны размаўлялі на дзіцячы лад: “Вось пабачыш, усё ў нас будзе клясна. Праўда-праўда, чэсна-чэсна”. Раз-пораз вада пералівалася праз край, але іх гэта не засмучала. Потым яны выйшлі з лазенкі й пайшлі на кухню сяброўскае кватэры піць італійскае віно з пяцілітровага пакунку й есьці мяса, прыгатаванае ў піве. Яны тут сядзелі ўжо другі дзень, балазе былі выходныя. Яны ня думалі пра будучыню — сёньня было яскравым і зіхцела размаітымі фарбамі маладосьці, пачатку цікавага шляху й творчасьці. Нягледзячы на бязглузды й неўпарадкаваны лад жыцьця, Ясь выдаў кнігу вершаў і дзьве кнігі (невялікія, худыя, але ўсё ж) прозы. Усё рабілася нібыта безь ягонага ўдзелу — пісалася, калі пісалася, калі не — тады не. Ён ня надта напружваўся, не перажываў, ня імкнуўся ў саюз пісьменьнікаў і не лічыў гэтую крэмзаніну сваёй прафэсіяй.

Яніна адной нагой (відаць, левай) працавала ў рэдакцыі літаратурнага часопісу (можна было днямі не прыходзіць на працу), другой — у прагрэсіўнай радыёрэдакцыі. І там, і там да яе ставіліся паблажліва. Калі яна раптам не прыходзіла на работу, ніхто гэтага нібыта не заўважаў. Наогул, Яніну любілі супрацоўнікі.

І вось яны ў чужой хаце зрабілі сабе маленькі, але зьмястоўны адпачынак. Гэта можна параўнаць з тым, як нейкая закаханая амэрыканская (француская, гішпаньская й г.д.) пара на выходныя выбіраецца на Канары, каб нікога ня бачыць, ня чуць, застацца самнасам у асобна ўзятым бунгала на беразе акіяну. Кватэрка гэтая нагадвала паводле сваіх памераў бунгала, ролю ж акіяну выконвала ванна. Калі дадаць пакунак італійскага віна ды экзатычную ежу (з прыгатаваньнем розных вычварных страваў яны ўжо другі дзень завіхаліся на кухні), дык атрымаецца поўная карціна рамантычнага адпачынку.

І яны размаўлялі пра ўсё — пра сяброў, дарогі,

надвор’е, працу, пляны, свае пачуцьці адно да аднаго, да радзімы, да людзей...

Заўтра трэ было йсьці на працу, і Яніна ўжо зараз крыху сумавала. Бо на працы Ясь зь ёю трымаўся халаднавата, наводдаль, ён не любіў публічнае дэманстрацыі сваіх пачуцьцяў. Гэта з-за нявыхаванасьці, з-за нясьпеласьці характару, думала яна, тое яе бянтэжыла, раздражняла, правакавала на розныя бязглуздыя ўчынкі, пра якія яна потым шкадавала.

Але трэба вучыцца радавацца таму, што маеш цяпер, вось у гэтую хвіліну, думала Яніна. Цяпер нам на дзіва добра, і гэтак будзе прынамсі да восьмай раніцы.

## ЯСЬ

Вось ён ніколі ня мог сабе ўявіць, што пойдзе ў войска. Ня бачыў сябе жаўнерам — у страшненькай аблавусе, шэрым шынялі, з аўтаматам, у стаптаных ботах. Наогул, у 18 гадоў Ясь лічыў сябе эстэтам, у мастацкай навучальнай установе, дзе ён вучыўся, эстэцтва было моднае. Зрэшты, модна было ўсё — быць панкам, авангардыстам, дзіўнавата апранацца, дзіўнавата сябе паводзіць — вылучацца з агульнае плыні шэрых саўковых маладых людзей, студэнтаў іншых інстытутаў ды ўнівэрсытэтаў (ня кажучы ўжо пра публіку старэйшага ўзросту). Таму Ясь адгадаваў валасы да плячэй, але пры гэтым насіў гарнітур і заўсёдны гальштук. Гэтая модная дзіўнаватасьць адбілася й на ягонай творчасьці — Ясь пачаў цікавіцца Кандзінскім, Руо і, добра малюючы нацюрморты ды аголеную натуру, пісаў беспрадмэтныя “авангардныя”, як тады казалі, кампазыцыі. Ягоны настаўнік быў у жаху.

— Гэта ўсё добра, гэта таленавіта, — казаў ён зьбянтэжана Ясю, — але ты намалюй што-небудзь для камісіі. Бо з такімі кампазыцыямі цябе адсюль выкінуць на 3.15, гэта я табе гарантую.

Але Ясева маладосьць не дазваляла яму маляваць “для камісіі” (хаця большасьць студэнтаў гэтым займа-

лася без якіх-кольвек згрызотаў сумленьня — гэта былі зададзеныя правілы гульні). Раптам да ягоных характэрных рысаў дадалася зацятая прынцыповасьць у дачыненьні да некаторых рэчаў — ён зьнянацку палічыў, што ня мусіць хлусіць перад сабою ў выяўленчым мастацтве й рабіць нешта “для камісіі” — гэта падтрымліваць пачварную заганную сыстэму, што панавала ў інстытуце (нібыта ў краіне гэтая сыстэма не панавала!). І яшчэ Ясь пачаў размаўляць па-беларуску. Зрэшты, ён і раней раз-пораз размаўляў, але цяпер пачаў гаварыць паўсюль — з усімі выкладчыкамі (шмат каму гэта не падабалася, але адкрыта яны гэта не выказвалі — усё ж мастацкая установа, беларуская мова тут была, дакладней, мусіла быць натуральнаю, афіцыйнаю, у адрозьненьне ад астатніх, негуманітарных, нятворчых інстытутаў).

Прароцтва выкладчыка неўзабаве зьдзейсьнілася, і пасьля чарговага сэмэстравага прагляду Яся з трэскам выкінулі зь інстытуту “за захапленьне непатрэбнымі савецкай моладзі фармалісцкімі плынямі ў мастацтве”. На пэдагагічнай нарадзе яны прыгадалі ўсё — і беларускую мову, і доўгія валасы, і беспрадмэтныя кампазыцыі.



Пасьля гэтага Ясь нібыта пайшоў у сьпячку — сядзеў у сваёй пустой кватэры (мама зьехала ў творчую камандзіроўку аж на тры месяцы). Прыходзілі сябры. Прыносілі выпіць-закусіць, сыходзілі ці то заставаліся начаваць, часта прыходзіла Воля, заставалася зь ім на дзень, на два, а ён зрабіўся зацяты, нейкі беспачуцьцёвы, спустошаны, адно быў вельмі ўдзячны Волі, якая разумела, што зь ім робіцца нешта кепскае й сачыла, каб ён зусім не апусьціўся, як магла падтрымлівала яго — словамі, грашыма, сваім целам — як магла.

І аднаго ранку прыйшлі па Яся з ваенкамату, далі яму позву на мэдкамісію. Ясь з заўсёдна затуманенаю галавою прыцёгся на гэтую камісію, пасьпяхова прайшоў шэраг лекараў, адно толькі акулістка папярэдзіла:

— Ты, хлопча, як пойдзеш да псыхіятра, дык перад гэтым пастрыжыся. Бо ён у нас строгі, усіх такіх, як ты, адпраўляе ў Навінкі. Так што паслухай мяне, пастрыжыся.

Акулістка была старая, добрая кабеціна, і Ясь зразумеў сваёй прыгаломшанай сьвядомасьцю, што яна гаворыць праўду.

“Тым лепей, — падумаў ён, — ня трэба рэзаць вены, каб камісавалі”, — і пакрочыў да псыхіятра.

У псыхіятрычным габінэце пачалася цікавая для іх абодвух гульня. Псыхіятар задаваў пытаньні, Ясь на іх адказваў. Ад ягоных адказаў залежала ягоная будучыня. Але Ясь так захапіўся гэтай слоўнай гульнёю, што забыўся на свае мэты — Навінкі і жорсткі закос ад войска.

— Што ты будзеш рабіць, калі камандзір загадае табе капаць яміну?

— Натуральна, капаць яміну.

— А калі ён скажа капаць без абеду да позьняе ночы?

— Наколькі я ведаю, я мушу яму падпарадкавацца, а потым абскардзіць загад па інстанцыі...

— А калі ты ўбачыш, што адзін жаўнер зьбівае другога, так званы дзед — маладога?

— Я заяўлю ў асобы аддзел.

— А цябе не хвалюе пры гэтым меркаваньне большасьці жаўнераў пра тое, што гэта — стукацтва?

— Не хвалюе. Я лічу, што ў войску мусяць выконвацца сфармуляваныя ў статуце жорсткія вайсковыя законы, а не нефармальныя пазастатутныя.

Цяпер бы Ясь ніколі не зрабіў гэткае памылкі, ён бы распавядаў пра сваю нянавісьць да зброі ды нежаданьне выконваць загады, але тады, відаць што, банальнае юнацкае пачуцьцё пратэсту прадыктавала яму нелягічныя паводзіны: псыхіятар спрабаваў запхаць яго ў Навінкі, задаваў наводзячыя пытаньні, кшталту, “а як ты наогул ставісься да вайсковага абавязку?”, а Ясь, гуляючыся з псыхіятрам, адказваў, як той вясковы кам-

самолец: “Кожны хлопец мусіць прайсьці праз гэтую школу жыцьця”. Карысьці ў гэтых паводзінах не было ніякай, але Яся цікавіў вынік — ці перайграе ён чарнявага, з арлінымі носам, лысаватага лекара. Перайграў.

— Харошы ты хлопец, — праз 40 хвілінаў размовы-допыту прамовіў псыхіятар. — Вось толькі неабходна тэрмінова пастрыгчыся. У нашым войску з такімі патламі ня служаць.

Праштурхаўшыся праз натоўп прызыўнікоў, які стварыўся перад псыхіятравымі дзьвярыма за доўгі час допыту, і выйшаўшы на панадворак, Ясь раптам зразумеў, што ён зрабіў самую недаравальную памылку ў сваім жыцьці.

І ўсё адно, ён ня верыў, што яго “забрыюць”. Ну вось нейк ня бачыў сябе гэтым “савецкай арміі салдатам”. Ясь заўсёды верыў свайму прадчуваньню. Прадчуваньне казала: ты служыць ня будзеш. Яно заўсёды яму гэта казала, таму пасьля некаторага досьведу вайсковае катэдры ён, хоць і добра страляў, хоць і зьбіраў-разьбіраў “калашнікава”, але абсалютна не разьбіраўся ў вайсковых званьнях, не чытаў іх па пагонах.

Бадзяючыся сярод нецьвярозых лысых юнакоў на зборным пункце, Ясь ня верыў, што ўсё гэта адбываецца зь ім. Паразмаўляў ужо нейкі “купец” (так называюцца людзі, што прыяжджаюць з частак на зборны пункт, каб прыгледзець там сабе таго-сяго выгоднага, як яны кажуць, “чалавечка”) на прадмэт мастацкае ягонае адукацыі, а ён усё глядзеў на неверагодныя для яго падзеі празь нейкае паўсоннае мроіва і не хацеў даваць веры гэткай рэчаіснасьці.

І калі яго везьлі электрычкаю ў заходняе беларускае мястэчка, ён усё глядзеў на краявіды за вакном, звыклыя беларускія краявіды, глядзеў на народ, што ехаў у вагоне й думаў: вось краявід, але гэта ўжо не зусім мой краявід. Я не магу выйсьці на любой станцыі й пайсьці да рэчкі ці ў лес. Я цяпер частка нейкае паралельнае нармальнаму жыцьцю сыстэмы. Гэтыя два жыцьці перакрыжоўваюцца, але далёка не заўсёды.

Вось едуць людзі... Гэта іншыя людзі. Яны думаюць пра работу, дачу, выходныя, дзяцей, вучобу, каханьне, сям'ю... Яны ў той сыстэме, часткай якой я быў дзень таму. А цяпер я гляджу на іх нібыта праз шыбу вітрыны. Я — тут, яны —там.



Ясева служба ў войску склала, як і належыла тады, 2 гады. Служыць давялося паблізу — у Слуцку. Раз на два месяцы Ясь наведваў свой горад, гасьцяваў у сваёй роднай кватэры, напіваўся ў кампаніях старых сяброў. Ясь з-за сваёй вайсковай вітрыны назіраў, як тыя сябры зьмяняюцца, разыходзяцца ў розныя бакі, набываюць раней нібыта немажлівыя рысы характараў ды твараў...

У Яся жыцьцё нібы закансэрвавалася. У войску не адбывалася нічога істотнага. Цягнулася сабе нейкае шэрае існаваньне, нікому, акрамя ягоных удзельнікаў (а частка была малая, элітная — 62 чалавекі) не цікавае. Ну, кінула Яся ягоная быццам бы аддадзеная дашчэнту Воля, ну пабралася шлюбам з нармальным чалавекам, дарослым, інжынэрам...

Зрэшты, Ясь нечакана цяжка перажыў гэты разрыў. Вось толькі нядаўна яна наведвала яго, сядзела на паскуднай канапе на КПП, сьлёзы стаялі ў ейных вачох, яна пісала яму пранікнёныя лісты, напоўненыя роспаччу, а гэтая роспач — Ясь гэта ведаў! — яна таму, што цябе няма там, побач, у гэтым тлумным горадзе, і раптам — чык! — і Ясю піша іхная агульная сяброўка: "Ня трэба ёй болей ліставаць, яна табе не адкажа, і ўвогуле, у яе праз месяц вясельле..." Вось там, "на гражданцы", у тым сьвеце, была ў яго Воля, і ён ставіўся да яе, самі ведаеце, як (стар. 130-131, напрыклад). А цяпер тая Воля падавалася яму нейкай адзінай на ўсё жыцьцё дамай сэрца. Ясь настальгічна прыгадваў іхныя вандроўкі па восеньскіх і зімовых парках, гісторыю іхнага раману, тое, што Воля была ледзьве не найпрыгажэйшай у групе дзяўчынай. Раптам да Яся дайшло (можа, папросту, зьявілася болей часу на роздум), наколькі

ён быў жорсткі да Волі, ягонае стаўленьне да яе межавала з пагардаю. Ясь унутрана жахнуўся: ён лічыў сябе чалавекам мяккім, камунікабэльным, прыемным з усіх бакоў. А тут атрымлівалася, што ён мала чым адрозьніваўся ад лысагаловых ПТВэшных падлеткаў-гопнікаў, прынамсі, паводле стаўленьня да дзяўчыны, якая яго, безумоўна, кахала, і магла б застацца зь ім надоўга, але ж вось не засталася... Сам вінаваты, думаў Ясь. І пісаў пранікнёныя тужлівыя вершы, падобныя да вершаў пачатку стагодзьдзя: “Я ад вас далёка, загляне сонца і ў нашае ваконца, дні праходзяць, дні адходзяць, дні лятуць...”

Яшчэ яму было непрыемна, што гэтая гісторыя была вельмі тыповай для “савецкай арміі салдата”. Прынамсі, палова ягоных прыяцеляў па службе прайшлі праз гэтую “здраду далёкай каханай”. І Ясь цяпер зусім ужо арганічна стаўся часткай гэтага вайсковага арганізму, зь якога раней пасьмейваўся. Карацей, зрабіўся тым самым, у ня вельмі чыстай аблавусе і стаптаных ботах, “савецкай арміі салдатам”.

## ЯСЬ І ЯНІНА

Вечар быў незаняты. Алесь пацягнуўся па сваіх справах — ён мусіў закрыць тэлекампанію, заплаціць ганарары тым, каму не заплаціў, вярнуць кватэру заўсёды падпітаму гаспадару...

— Чаму ў нас так брудна?! — раптам абрынуўся Ясь на Яніну. — Паўсюль бруд, у чарупіне — гара нямытага посуду... Чаму мы так жывём? Людзі ня мусяць так жыць!

— Супакойся, Ясю, — вымавіла Яніна. — У нас жа ж ідзе рамонт. Таму й брудна.

— Не! — крычаў ён. — Калі не было рамонту, было таксама брудна! Абрыдла гэта ўсё!

— Ясік, пачакай, скончыцца рамонт, і ўсё будзе чыста, і будзем жыць нармальна.

— Як мы будзем у гэтай ідыёцкай краіне жыць нар-

мальна?! Гэта немагчыма!

— Ну дык паехалі ў іншую, нармальную краіну. Я табе даўно прапаноўвала гэта, — Яніна намагалася гаварыць спакойна.

— А каму мы там патрэбныя?! Каму?! Хто мы там? Беспрацоўныя! Будзем стаяць у Варшаве ў чарзе па бясплатны суп разам з бамжамі. Ты гэтага хочаш?

— Для пачатку, я не разумею, чаго ты хочаш, — голас Яніны страціў апошнія ноткі памяркоўнасьці. — Усё табе не падабаецца, усё ня так. Мне падаецца, што табе трэба найперш разабрацца з сабою. Я, дарэчы, хацела з табою пагаварыць. Вось як цяпер, сам-насам. Толькі бяз гэтай тваёй істэрыкі. Спакойна разабрацца, што з намі зараз адбываецца...

Сабачка, які дагэтуль ляжаў на сваім дыванку, падняўся, і тут Ясь зь Янінаю ўбачылі, што партайгеносавы ногі падгінаюцца, што сабачка трасецца ад сухога гарачага носу да хваста. Партайгеноса глядзеў на гаспадароў журботнымі вачыма й ціхутка паскугольваў.

— Што гэта зь ім?! — у адзін голас выгукнулі Ясь ды Яніна.

## РЫГОРАВЫ АПОВЕДЫ–2

Сабачка хварэў. Ляжаў на сваім дыванку. Цяжка дыхаў. Відаць, нечым атруціўся. Яніна ведала, калі ён падхапіў гэтую заразу. Тады, калі ўцёк і два дні недзе цягаўся. Відаць, дваровае мінулае перамагло, і Партайгеноса пабег па сьметніках ды памыйках і нажэрся якое трасцы. Рыгор параіў заліць сабачку ў пашчу лыжку гарэлкі, маўляў, чуў недзе пра такі мэтад лекаваньня.



— А я пакуль вам зачытаю адзін цікавы ліст. Зь вёскі. Мая жонка атрымала.

І ён пачаў чытаць услых.

“Здраствуй мая падруга любимая. Спасиба за открытку и что ты меня не забываеш адна ты у меня мы

с табою весною увидемся отпразднуем всё встречи и праздники. Свадьбу я отгуляла нармальна. А вот юбилей Колев ему стала 50 лет то плоха. Бо мы ратавали моего отца ему была плоха очинь. Мне патом галава балела 3 дня от усяго. Была 70 летия калхоза нам падарили багатыя падарки Ящык бальшой пасуды красивой очинь и 2 сумки с пасудой ещё дрель харошую импартную пилу интересную и напамять дали книги и я там увидела тваю мать стаяла с бабами. и атец мой. Недавна у нас в деревне были похараны, умерла тая толстая круглая баба с кирпичной хаты яна у вас есть на фатаграфии. Сядить на лавочке я не помню с кем общем с бабами. Я себе купила часы гаварящие ручныя каждый час гаварят и кукуют и петух кукарекает. Отдала 5 тыс 500 рублей мне еще пенсии не дабавили. Я уже жалею что галасавала но не была за каго адны пенсиянеры были тады. Мая сестра и Галя Мешчанка без работы закрыли бальницу осталась тольки амбулатория и всё ремонт не хатят рабить эти с Капыля на эти деньги что должны заплатить этим работникам есть такая Мулевич забрала деньги и рабила сабе квартиру ремантиравала и никто ничего не может дабица. Я вчера видела Славу пьянага он лежал на дароге на остановке как убитый на снегу на марозе 17 градусав. Я растроилась и цэлы вечар не знала что делать хателась плакать. Я цэлую ноч не спала а эта значит что мая душа к нему не халадна всё таки я яго люблю и буду любить да смерти сваёй. Пазвани ему как он даехал не заболел ли он там. Передай ему привет от меня. И пазвани мне лучше вечерняя время в 11 часов вечера чтоб не знали маи дамашние. Я очень валнуюсь за него эта пусть останецца между нами, паняла. Дай мне его номер телефона. Пишы мне пачаще письма жду ответа от тебя асобенна званка но чтоб не знали мае. Я проста так прашу тебя. Всё привет Христине и всем остальным и Наде”.

— Каб пісаў апавяданьне пра вясковае жыцьцё, дык скарыстаў бы, — сказаў Ясь.

— Дык карыстайся. Я пакіну яго тут, на люстэрку.

— Адно што ў маіх плянах няма вясковае прозы. У беларускай літаратуры гэтага дастаткова й безь мяне.

— А ўсё адно можа спатрэбіцца. Пры якой нагодзе, — сказаў Рыгор. — Мне дык яно зусім без патрэбы. Напісала яго адна непаўнавартасная разумова асоба з жончынай вёскі. Яна звычайна піша так, што ўвогуле нічога не разабраць. А тут, відаць, быў момант прасьвятленьня ці што... Карацей, карыстайцеся.

Рыгор завяршаў рамонт. За час, пакуль нашыя героі пакутвалі, "терзались", выпівалі й думалі пра сваё мейсца ў цяперашнім складаным і дужа няпростым часе, Рыгор пасьпеў зь мінімальнай іхнай дапамогаю паклеіць шпалеры, пафарбаваць іх (вельмі густоўна, кожны пакой на асобны колер, каб яны спалучаліся міжсоб), зьняў плінтус, паклаў добрае дывановае пакрыцьцё, паставіў новы прыгожы плінтус й зрабіў яшчэ безьліч усяго, што ў прастамоўі завецца "эўрарамонт".

— Я прыйду праз два дні, — разьвітваючыся, паабяцаў Рыгор. — Дараблю ўсе дробязі. А так, наогул, у мяне такое ўражаньне, што ўвесь гэты час я замінаў вам жыць. Прыходзіць гэткі рамонтны монстар а дзявятай раніцы, усіх падымае, валтузіцца, брудна з-за яго...

— Ды што вы такое кажаце, — махнула рукою Яніна. — Мы вельмі вам удзячныя. Так прыгожа ўсё, так клясна!

— Ну то добра, чакайце рамонтнага монстра праз два дні. А Партайгеносу раю выклікаць лекара. Нешта ён зусім кепска выглядае.

Прыйшла лекарка. Дыягназ: інтэрыт. Можа, выкараскаецца, можа, не. Вось вам ампулкі, будзеце рабіць уколы. Калоць вось сюды. Не хвалюйцеся, яму ня будзе балюча. Трэба было раней мяне выклікаць, баюся, што позна ўжо. Але... не губляйце надзею.

Воля плакала.

— Гэта, Волечка, ты вінаватая, — дабівала яе Яніна. — Ты яго не выхоўвала, не выгульвала, кінула на мяне.

Калі ён ўцёк, дык ты пахадзіла па вуліцы, пагукала яго, пашукала пяць хвілінаў для выгляду, ды ўсё. Вось Партайгеноса й захварэў. Можа, памрэ.

— Яніначка, я не хачу, каб ён паміра-а-аў! — хныкала Воля.

— Трэба было думаць раней, — цьвёрда казала Яніна. — Прыцягваеш у хату жывёліну, значыцца бярэш на сябе адказнасьць за яе. А ты прыцягнуць прыцягнула, а потым кінула. Вось табе й вынік.

— А можа, ён не памрэ-э-э... — плакала Воля.

— Можа.

Назаўтра сабачку нібыта палепшала. Ён нават паеў аўсянкі на мясным булёне і млява паматляў хвосьцікам.

## АЛЕСЬ

Ехаў у поўным тралейбусе, прыціснуты да шыбы. Думаў: трэба прымаць нейкае кардынальнае рашэньне. Ззаду насядалі прывыклыя да штодзённых паездак у тлумным транспарце цёткі й мужчыны. Моцна тхнула перагарам. Алесь, як сапраўдны аматар выпіць, калі сам быў цьвярозы, вельмі не любіў п’яных і паху алькаголю не выносіў. Выйшаў за два прыпынкі да патрэбнага. Было цёпла й сонечна. Вясна ў гэтым годзе пачалася зьнянацку. Здавалася, яшчэ два дні таму былі маразы, сьнег, а сёньня ўжо сонца, блакітныя калюжыны, цёплы вецер. Сьвежае паветра, удыхнутае пасьля смуроднага тралейбусу, прынесла чаканае рашэньне: трэба ехаць на радзіму, у свой Дзівагародак. Там ён прынамсі будзе асобаю. Вядомы журналіст вярнуўся са сталіцы, якая не прыняла яго. Выкінула. У сваім горадзе ён лёгенька ўладкуецца на тэлевізію, на радыё, у газэту... ды куды захоча! Ён мае прыз за тэленарыс, міжнародны прыз! Там, на радзіме, гэта — як пропуск! Да прафэсіі, напрыклад. Зрэшты, чаго чакаць: зь ім усе рэчы — у пляцаку. На першы час ёсьць грошы. Так што — сьцяг у рукі й наперад!

Ён патэлефанаваў да Яся й Яніны з вакзалу: зьяжджаю, сустрэнемся, завітвайце ў госьці, адрас ведаеце,

ну, прабачце, зайсьці-разьвітацца не атрымалася, нічога, не апошні раз...



Аўтобус ехаў па вечаровай магістралі, і Алесь нібыта вяртаўся ў сваё мінулае. Сталічная мітусьня, гады, аддадзеныя вучобе й цікавай рабоце засталіся там, ззаду. І цяпер усё гэта пераўтваралася ў нейкія прыгожыя карцінкі, галоўным героем якіх быў нібыта ня ён, Алесь, а нейкі абстрактны пэрсанаж. Аўтобус мякка каціўся па шашы. Сонца заходзіла. Алесь сядзеў ля вакна. Было прыгожа, трошкі тужліва й спакойна.

## ЯСЬ І ЯНІНА

Два дні яны пражылі ў нейкім здранцьвеньні. У задуменным чаканьні чагось. Сабачка хварэў. Яму калолі лекі. Прыходзіла трывожная Воля, глядзела на няшчаснага Партайгеносу, плакала й сыходзіла.

Чамусьці не прыйшоў Рыгор. Абяцаў ды не прыйшоў. Гэта вельмі насьцярожыла Яся й Яніну, бо "рамонтны монстар" зарэкамэндаваў сябе хваравіта пунктуальным, прагматычным чалавекам.

Рыгор прыйшоў, калі ўжо не чакалі. Ня ўранку, як звычайна, а надвячоркам.

— Надоечы здарыліся са мною, — пачаў свой аповяд Рыгор, — таямнічыя і неўласьцівыя дагэтуль майму жыцьцю й маёй натуры падзеі. Патэлефанаў мне напарнік па рамонтах, Эдвард. Сказаў, што ёсьць невялікая праца, але сам ён цераз празьмерную загружанасьць на дадзены момант працу гэтую выканаць ня ў змозе. Дык ці не згаджуся я замест яго пад'ехаць на пэўную адрэсу й зрабіць пэўную працу. Я пагадзіўся, сеў у свой самаход і паехаў на гэтую адрэсу.

Тут Рыгор зрабіў паўзу, выняў з кішэні пачак цыгарэтаў і запальніцу.

— Дык вы ж не палілі! — зьдзівілася Яніна.

— Запаліш тут! — сказаў Рыгор і запаліў. — Дык вось, — працягваў ён, — прыяжджаю я на тую адрэсу.

Дзьверы адчыняе прывабная дзяўчына.

Рыгор зацягнуўся цыгарэтаю. Зацягнулася й паўза.

— Дык вось, — нарэшце працягнуў ён, — адчыняе яна дзьверы.

Я кажу: ну, гаспадыня, паказвайце, што дзе. Яна так гарэзьліва ўсьміхнулася і адказвае: што, вы гаворыце, вам паказаць? А на ёй — караценькая такая ружовая маечка, ледзьве прыкрывае грудзі, і шорцікі такія, што паска. Я адводжу вочы і гэтак зьніякавела пытаюся: ну, рамонт жа ж нейкі тут зрабіць трэба, дык пакажыце — дзе, што... А яна: давайце сьпярша кавы пап’ем. Ці вы хочаце чаго мацней?

Я кажу: я ня п’ю на рабоце. Дый наогул не аматар.

А сам міжволі цягнуся за ёю ў прасторную сучасную кухню. А там на стале ўжо — бутэлька каньяку “Мартэль”, цытрынкі... Я, каб распрыгоніцца, каб не сядзець гэткай доўбняю, выпіў тры кілішкі даволі хутка... А п’ю звычайна ж мала. Гляджу на гэтую даму, на гэтую маечку, на гэтыя шорцікі... А яна распавядае мне пра сваё жыцьцё, пра тое, што тут цяпер няма ніякіх пэрспэктываў, што таленавітыя й разумныя людзі мусяць зьяжджаць. Распавядае, што змушаная працаваць бухгальтаркай у нейкай канторы, хаця мае талент і бізнэсовы, і кампутарны, і дызайнэрскі. Вось так сядзім мы, выпіваем, я слухаю ейныя аповеды, гляджу на маечку-шорцікі, а яна бачыць, што я гляджу, і ўсё гамоніць-гамоніць. Потым запыталася, чаму я, гэткі яшчэ малады, моцны і, адразу відаць, адукаваны чалавек, займаюся нейкімі рамонтамі? Ну, я адказваю, што з тае ж прычыны, маўляў, быў калісьці навуковым супрацоўнікам, падаваў надзеі, але сьвет неўзабаве зьмяніўся, там перасталі плаціць, і трэба было выбіраць спаміж жабрацкай творчай навуковай працай і якой іншай, якая дае магчымасьць утрымліваць сям’ю і паважаць сябе. “Вось бачыш, — гаворыць яна, — у гэтай краіне нам зараз няма мейсца. А я заўважаю гэтае “бачыш”, гэты пераход на “ты”, і думаю, як мне выйсьці з гэтае сытуацыі. Як прымусіць сябе падняцца, разьвітац-

ца і сысьці. Бо ўсё хіліцца туды, адкуль няма вяртаньня. Туды, дзе ўшчэнт руйнуецца звыклае, можа й нецікавае, але звыклае жыцьцё, дзе няма сыстэмы, дзе пануе хаос. І ён вельмі салодкі, такі прывабны, гэты хаос... І я думаю, што яшчэ некалькі хвілінаў, яшчэ некалькі кілішкаў, і я нікуды не пайду, а гэта зусім не ў маіх правілах, то бок поўнае й абсалютнае выключэньне з гэтых правілаў. І не магу падняцца... Такой жарсьці ніколі не было ў маім жыцьці. Мы правялі ў ложку рэшту дня і ўсю ноч. "Правялі" — не зусім тое слова. Гэта была нейкая аднадушная ненажэрнасьць, нейкі страшэнны дзіўны шал... Нараніцу я сышоў, мы дамовіліся ўвечары



стэлефанавацца. Лішне казаць, што ў маёй галаве адно зьмяняліся ўспаміны-падрабязнасьці дзіўнае ночы, працаваць я ня здолеў, дахаты таксама не пайшоў, шпацыраваў па горадзе, заходзіў у крамы, хадзіў, нічога не купляў, заходзіў у бары, піў піва, зусім не п'янеў. Дачакаўшыя шасьці вечара, я патэлефанаваў да яе. Ніхто не здымаў слухаўку. У паўсьне прайшло яшчэ тры гадзіны. Доўгія гудкі. Я паехаў да яе. Дзьверы былі зачыненыя. Я званіў і званіў у дзьверы. Выйшла суседка, маўляў, чаго вы трызвоніце? Я кажу, майстар, трэба адрамантаваць нешта. Суседка гаворыць: якія рамонты, яна сёньня а дванаццатай вылецела ў Штаты. Назаўсёды. Я кажу: гэта немагчыма. Суседка сьмяецца: я ж сама дапамагала ёй зьнесьці рэчы да таксоўкі, дзіўны вы чалавек. Я запытаў, ці ведае яна адрэсу ў Штатах? Не, ня ведае. Штат Нью-Ёрк, усё, што можа сказаць. Я вярнуўся дадому. Назаўтра патэлефанаваў знаёмаму з Амэрыканскай амбасады, неяк рабіў у яго рамонт. Карацей, атрымаў візу, сабраў рэчы, і заўтра вылятаю. Буду яе шукаць. Ня ведаю, ці знайду, і тым болей ня ведаю, што будзе, калі знайду, але тут, у гэтым горадзе, жыць болей не магу. Гэта я зразумеў дакладна. Нешта ўва мне пераламалася. Назаўсёды. Даруйце, што не дарабіў рамонт. Я й сам ад сябе не чакаў такога. Даруйце яшчэ раз.



Сабраў моўчкі рыштунак. Разьвітаўся. Пайшоў.

## АЛЕСЬ

І чаго ён пацягнуўся на гэтую дыскатэку? Ведаў жа, што на тым тыдні тут шылам забілі хлопца? Ведаў. І што яму тут рабіць сярод гэтых малалетак, паголеных шпанюкоў? Зрэшты, ён ня сам прыцегся, яго прыцеглі. Прыцегла Аня, дзяўчына-“sexy” з кабельнага тэлеканалу. Яна чытала навіны й вяла перадачы на гэтым канале. Была ня дужа разумнай, ня дужа адукаванай, але sexy. Яшчэ за імі ўвязаўся Раман, апэратар з гэтага ж кабэльнага.

Алесь, калі прыехаў у родны горад, тыкаўся ў пошуках працы ў газэты-радыё-тэлевізію, але вобраз апазыцыйнага нацыяналістычнага журналюгі зь Менску перашкодзіў яму куды-небудзь уладкавацца. Баяліся. Ведалі, што прафэсіянал. Дый ён казаў, што возьмецца за любую работу — асьвятляць, напрыклад, навіны культуры. Баяліся: яшчэ як асьветліць гэтыя навіны! Такім, мляха, сьвятлом асьветліць, што паляціш з працы. Нармальныя са сталіцы назад не вяртаюцца. Чаго гэты сюды прыцягнуўся? Толькі дырэктар кабэльнага, збольшага незалежнага каналу, задумаўся: можа, узяць? Усё-ткі прафэсіянал, мае міжнародны прыз... Цяпер Алесь праходзіў выпрабоўчы тэрмін, ляпіў шэрыя сюжэты. Мантажаваў, агучваў. Тут і падвярнулася Аня. Sexy.

Яна й прывяла на дыскатэку. Перад гэтым выпівалі ў рэдакцыі. Ён, яна ды апэратар Рома. Апэратар адразу ж надзёбаўся, што той цэп. А ўсё адно, пацягнуўся за імі.

Заходзілі яны, як героі вэстэрна ў салун. Ідуць да стойкі, а тут якраз перапынак паміж песенькамі, і ўсе мясцовыя малалеткі на іх глядзяць. Ацэньваюць. Дый хай сабе. Алесь не палахлівы. Селі за стойку, замовілі выпіць. Апэратар заснуў. Выпілі. Тут нейкі мясцовы “кароль манэжу” запрасіў Аню на танец. Патаньчылі. Аня вярнулася. Гаворыць, такі мярзоід гэты кароль мясцо-



вы, такія рэчы гаварыў, аж брыдка.

— Хадзем адсюль, — сказаў пахмурна Алесь.

Яны падняліся. Алесь падхапіў пад локаць апэратара. Пайшлі да выхаду. Не дайшлі. Падруліў “кароль манэжу”.

— А што эта так быстра ўходзім? Я, можа, яшчэ патанцаваць хачу.

— Дык танцуй, — сказаў Алесь і пасунуўся да дзьвярэй.

— А я, можа, с тваёй бабай хачу.

— Танцаваць будзеш са мной, — скрозь зубы паабяцаў Алесь. — Правяду людзей і вярнуся.

— Падходзіць, — усьміхнуўся залатымі фіксамі кароль. — Я жду.

Навошта ён вяртаўся? І Аня яму казала, як сядала ў таксоўку: ідзі дадому. Дык не ж! Нешта яго ўзрушыла, ці гэтае “я з тваёй бабай хачу”? Хутчэй за ўсё, гэта.

Вярнуўся на дыскатэку. Яны чакалі на вуліцы. Чалавек дваццаць. Жах! Але не адступаць жа. Малалетак трох паклаў адразу. Потым яго павалілі, мясілі нагамі. Учапіўся зубамі ў чыюсьці нагу. Хлапец нема зароў. Сьвядомасьць згасала, але гэты крык прынёс задавальненьне.

## ЯСЬ І ЯНІНА

Сабачка адыходзіў. Ужо не рэагаваў на людзей. Ляжаў, глядзеў каламутнымі глыбокімі вачыма ў адну кропку. З пашчы цякла сьліна. Схуднелыя рэбры цяжка ўздымаліся. Толькі па гэтым і было відаць, што ён яшчэ жыве. Воля болей не прыходзіла. Дый Яніна яе ўжо не пусьціла б — відовішча было не для дзіцячае ўражлівае сьвядомасьці. Ясь, які сваю сьвядомасьць таксама лічыў ня меней уражліваю за дзіцячую, імкнуўся зашыцца дзесьці на кухні ці ў пакоі, каб ня бачыць паўмёртвага Партайгеносу, не траўмаваць сваю няўстойлівую творчую псыхіку. Яніна сама

выцірала за сабачкам, калола ўжо непатрэбныя лекі, перасьцілала посьцілку...

Сабачка прыўзьняў галаву, зірнуў на сьвет згасальнымі вачыма, выскаліўся й памёр. Ляжаў, здраньцьвелы, з апошнім нежывым выскалам на пысцы.

— Я яго глядзела пры жыцьці. Хаваць будзеш ты, — змрочна канстатавала Яніна.

— А рыдлёўка ёсьць? — незадаволена запытаў Ясь.

— Ты — мужчына, — адказала Яніна. — Мусіш ведаць сам.

Ён загарнуў Партайгеносу ў цэляфан, шчыльна перацягнуў скотчам, потым невядома дзеля чаго абгарнуў халодны пакунак коўдрай, на якой раней ляжаў сабачка. Нічога ня кажучы спусьціўся ў двор.

Быў сонечны, прыгожы, сьветлы веснавы дзянёк. Ясь выбраў мейсца для магілы пры архаічным савецкім помніку — бэтоннай пліце, зь якой на іржавай арматуры тырчэлі брудна-чырвоныя серп і молат.

Непадалёку рабочыя капалі цеплатрасу. Ясь пазычыў у іх рыдлёўку. Яна была тупая, недагледжаная. Дзірван доўга не здаваўся, не хацеў падпарадкоўвацца тупому жалезьзю, але калі ён быў пераможаны, справа пайшла хутка.

Ясь закапаў Партайгеносу глыбока, засыпаў зямлёю й дзірваном.

Потым Воля насіла кветкі на магілу любімага сабачкі. Але цераз напружаную вучобу ды іншыя ўласьцівыя ўзросту акалічнасьці, прыходзіла усё радзей, а праз год дык наогул забылася на Партайгеносу, ягоны вясёлы нораў, нядоўгае жыцьцё й пакутлівую сьмерць. Тым болей што на мейсцы архаічных сярпа-молата праз колькі месяцаў зьявіўся білборд з заклікам купляць тавары мясцовае вытворчасьці, і калі шчэ скрыжаваныя серп ды молат неяк выдавалі на надмагільле, дык рэкламовы шчыт — дакладна не.



* * *

Іх запрасілі ў госьці. Творчыя асобы разбрыліся па трохпакаёвай кватэры, якую здымаў польскі журналіст. Ясь мэханічна каўтаў кілішак за кілішкам. Трэба было жартаваць, падтрымліваць кампанію... Яніна амаль не піла — крышачку сухога віна. Яна думала, што неабходныя рэзкія зьмены. Вось, каб куды паехаць — у вёску, напрыклад, на месяц... Разьвеяцца. Расьцерушыць брудныя, чорныя ўражаньні апошніх месяцаў, пахадзіць па велічным лесе, паплаваць у возеры... Заўтра ж прапаную гэта Ясю. Знаёмы мастак мае хату на Азёрах. Сам зьбіраецца ехаць у Галяндыю на некалькі тыдняў. Трэба ўзяць ключы ад хаты і — наперад! Там, у вёсцы, паразмаўляем, падумаем, расплянуем...

Ясь не заўважыў, як ушчэнт набраўся. Сядзеў, глядзеў дурнымі вачыма ў адну кропку, нешта мармытаў.

— Досыць, мы пойдзем, — разьвіталася Яніна.

Ёй давялося дапамагаць яму апранацца. Цягнула яго, паўпрытомнага, да таксоўкі. Машына падвезла іх да аўтобуснага прыпынку побач з домам.

— Заяжджаць у двор ня буду, — сказаў кіроўца. — Дацягнеш?

— Як-небудзь, — азвалася Яніна.

Тут раптоўна Ясь абудзіўся.

— Пайду сам, — выдзер рукаво з Янініных рук.

Хістка пайшоў. Ня ў бок дому, а на аўтобусны прыпынак. Сеў на лаву.

— Ну што ты робіш? — запытала Яніна. — Хадзем дадому.

— У мяне няма дому, — злосна адказаў Ясь. — Гэта твой дом. Вось ты і ідзі...

— Куды ты паедзеш? Позна. Нічога ня ходзіць. Пайшлі.

— Ідзі. Усё скончылася. Радасьці няма. Пачуцьцяў няма. Ідзі.

— Ясю, ты п’яны, — угаворвала Яніна. — Не рабі глупстваў, пайшлі.

Але ён упарта сядзеў на лаве аўтобуснага прыпынку.

* * *

Да прыпынку пад'ехаў аўтобус, відаць, апошні на сёньня. Аўтобус спыніўся, адчыніў дзьверы. Ясь паглядзеў на яго нэрвовым нецьвярозым позіркам. Аўтобус нібыта чакаў, пакуль Ясь вырашыцца ехаць. Рухавік рытмічна працаваў. Нічога болей не гаворачы, Ясь ускочыў у адчыненыя дзьверы. Аўтобус крануўся зь мейсца — дзьверы ляснулі, за вакном паплылі знаёмыя дамы, на панэлі дзявятага паверху аднаго зь іх Ясь убачыў надпіс "1975". Думкі блыталіся, блыталіся й пачуцьці — ад жаданьня вярнуцца, прабачыцца, неяк уладзіць да ўпэўненасьці ў тым, што зроблены адзіны правільны крок... І тут Ясь заснуў.

Ён прачнуўся ад холаду, яго калаціла. Ясь звыкла памацаў рукою — ці тут ягоная кайстра. Кайстры не было. Халера! Колькі апошнім часам не выпіваў, у якія кампаніі не трапляў, кайстру не губляў ніколі. А што было сёньня? Дзе мы былі? Хто мы? Я ды Яніна. А чаму я еду адзін? Раптам Ясь абсалютна ясна й падрабязна ўспомніў фінал сёньняшняга, хутчэй цяпер учарашняга, вечара. Яся нібыта працяла электрычнасьцю. Трэба выходзіць! Трэба вяртацца... Хаця... Можа, усё й да лепшага... Можа, усё адбылося, як і мусіла адбыцца...

Ва ўсякім разе, выходзіць усё адно трэба. Ясь зірнуў у вакно. Аўтобус ехаў паўзь лес. Халодны блакітнаваты маладзік мільгаў між голых галінаў. Лес скончыўся. І аўтобус выехаў у шырокае засьнежанае поле.

Які сьнег?! Якая зіма?! Была ж вясна! Было ж цёпла! — выбухнула ў Ясевай галаве. Што гэта... што гэта... што адбываецца? Нешта здарылася... Нешта ня тое...

— Гэй, кіроўца! — хрыпла зароў Ясь. — Дзе мы едзем?!

Ніхто не азваўся. Ясь, хістаючыся, падбег да кабіны кіроўцы. Шкло кабіны было знутры зацягнутае нейкім непразрыстым матар'ялам. Ясь стукаў у шкло й крычаў,

але ніхто не рэагаваў на гэта, аўтобус рушыў па сваім, невядомым Ясю, маршруце. Ясь суцішыўся, зразумеў, што ад крыку ды шуму карысьці ня будзе. Застаецца адно чакаць, чым усё гэта скончыцца. Чымсьці ж павінна скончыцца. Ясь сеў на халоднае сядзеньне, абхапіў рукамі плечы, каб было цяплей і пачаў чакаць.



## ЯНІНА

Яна не была да гэтага падрыхтаваная. Ёй здавалася, што ўсё ня так і кепска, што мінуць часовыя непаразуменьні і ўсё зноўку апынецца на сваіх мейсцах. Што наперадзе ў іх шмат гадоў — шмат гадоў разам, бо як жа такое вар'яцкае жыцьцё можна вытрымаць паасобку! А цяпер нешта падказвала ёй, што ўсё скончылася, што Яся ў ейным жыцьці болей ня будзе. Не хацелася верыць у гэта, але адчуваньне было настолькі моцнае, што ня верыць не выпадала. Як па-дурному, як непрыгожа ўсё скончылася, — паўтараліся ў галаве Яніны банальныя словы.

Ледзь не гадзіну яна прастаяла на прыпынку, хаця ведала, што дарэмна. Папросту не хацелася йсьці дадому. Пайшла. Ліфт не працаваў. Зайшла на дзявяты паверх. Увайшла ў кватэру. Села за стол у варэльні, не здымаючы паліто. Запаліла. Задумалася. На цырату зваліўся попел ад цыгарэты. Не прыбрала. Яскрава, гучна пачула Ясеў голас — ён спрачаецца, ён нешта даказвае, ён сьмяецца, ён жартуе, ён распавядае...



Яна падумала, што гэтая кватэра бачыла шмат людзей, чула шмат галасоў. Галасы й цяпер лунаюць пад стольлю кватэры — ледзьве чутныя, зблытаныя, рознамоўныя, рознатэмбравыя... І Ясеў голас, сёньня шчэ добра чутны, гучнейшы за ўсе астатнія галасы, паступова будзе зьнікаць і зьлівацца зь іншымі. І ўрэш-

це зробіцца адным з дадатковых тэмбраў гэтае стогукавае палітры, адным з сотняў тых, каго чуюць сабакі, а людзі ня чуюць.

Назаўтра Яніна зьмясьціла ў газэтах аб'явы наконт продажу кватэры ў доме, на панэлі дзевятага паверху якога напісана "1975".

Яніна глядзела на сваё жыцьцё зь Ясем, як чалавек глядзіць стары чорна-белы фільм: вось героі йдуць па восеньскай вуліцы, трымаючыся за рукі. Вось яны цалуюцца ў бруднай падваротні. Вось яны сварацца ў бруднай кухні. Вось яны клеяць шпалеры пад кіраўніцтвам філянтропістага Рыгора. Вось яны схіліліся над хворым сабачкам...

Цікава, што гэты фільм не абуджаў якіх-кольвек вострых пачуцьцяў — было і было. Нібыта ня зь ёю было. Памятала, што моцна перажывала, смуткавала, калі іхныя стасункі вычарпаліся, але падчас гэтых узгадак душа заставалася спакойнай, назіральнай ці што?

Цяперашняя рэчаіснасьць — каляльітаратурная работа, ціхае польскае прадмесьце (крама, гандлярка пані Зося, "co jeszcze podać?", панскія прысады, суседзі, нетаропкія размовы зь імі), спакойны надзейны дарослы муж — яе задавальняла. Вострыя перажываньні засталіся там, у мітусьлівым Менску 10-гадовае даўніны. Цікава, думала Яніна, нібыта адно жыцьцё пражытае, а потым адбылася рэінкарнацыя — і жывецца другое жыцьцё. Хто ведае, можа, наперадзе будзе яшчэ нейкі выбух, яна кіне гэты ўстойлівы камфартабэльны спакой ды рынецца ў рознакаляровыя падзеі... Але гэта будзе ўжо зусім іншае жыцьцё.

* * *

— Нічога, — гаворыць Алесь і налівае сабе чырвонае францускае віно зь пяцілітровага пакунку, — сыдуць гэтыя сумныя часы, зажывем, як належыць.

— Нічога, — азываецца Ясь, — прыйдуць нашыя, і будзем мець мы ўсё — і тэлевізію, і радыё, і ўсё, што толькі пажадеш. Будзе работа, будзе цікава жыць.

— І грошы будуць, — дадае Яніна.

— Накупляем машынаў, будзем езьдзіць па сьвеце, — гаворыць Ясь.

— Пабудуем катэджы ў прыватным сэктары, — працягвае Алесь.

— І спакойна разам сустрэнем старасьць, — падводзіць рысу Яніна.

Сабачка круціцца ля стала побач. Матляе хвастом, чакае, пакуль яму кінуць кавалак вяндлінкі ці смажанае курачкі. Сабачка вясёлы, вочы ягоныя гарэзьліва паблісквають. Ён бачыць, што гаспадары ў гуморы, і, значыцца, няма чаго баяцца, няма пра што хвалявацца. А заўтра... Сабакі ня думаюць пра заўтра.

Вось тут мы іх і пакінем, шаноўны мой чытачу. За сталом зь віном і смачнымі стравамі. Увечары, пры сьвечках. Пакуль яны вясёлыя, поўныя веры ў сьветлае заўтра і ў сябе. Пакуль сабачка жывы...



## Матуля

**Лявону Вольскаму**

Што жа ж я нарабіла,
колькі дьзен не да сьмеху
Чыста хату памыла,
але ж трэба паехаць

Ой, матуля, матуля
маю крыўду даруе
А варожая куля
ды па скроні сумуе

Хто адкажа навошта,
сябар мой, ты маўчыш
Есьць апошняя пошта,
дьзе на могілках крыж

Ой, матуля, матуля
маю крыўду даруе
А варожая куля
ды па скроні сумуе

Марна сонца ўваскрэсла,
дьзе нябачна нікога
Па шляхах, па узлесках
толькі цені былога

А ці самі паснулі,
ці бяда напаткала
Ты, маленькая куля,
не здарма сумавала

Ой, матуля, матуля,
я свой лес пахавала
Больш ніхто не пачуе,
як калісьці сьпявала.

*Алена Віркоўская*
*(Казанцава)*

# Змест

У серыі “Кнігарня пісьменніка“,
заснаванай у 2009 годзе
ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў“,
выйшлі кнігі:

1. **Уладзімір Някляеў.** Цэнтр Еўропы.
2. **Віктар Казько.** Дзікае паляванне ліхалецця.
3. Пакахай мяне, калі ласка.
Зборнік сучаснай беларускай жаночай прозы.
4. **Вольга Іпатава.** Знак Вялікага магістра.
5. **Кастусь Цвірка.** Воўчая выспа.
6. **Юрась Залоска.** Праўда як рэлігія.
Гутаркі з Васілём Быкавым.
7. **Міхась Андрасюк.** Вуліца Добрай Надзеі.
8. **Данута Бічэль.** Мост святога Францішка.
9. **Галіна (Галіна Багданава).** Сакрамэнта.

